Сярод старэйшых людзей у былой Заходняй Беларусі і сёння амаль не сустрэнеш чалавека, які б не ведаў імя Браніслава Тарашкевіча. Адны ўспамінаюць, што вывучалі родную мову па ягонай граматыцы, другім з даўніх год запала ў сэрца палымянае слова Тарашкевіча-дэпутата, сказанае ім на мітынгу, ці баявая антыўрадавая прамова ў польскім сейме, трэція сустракаліся з кіраўніком Беларускай сялянска-работніцкай грамады на суровых этапных шляхах панскіх астрогаў.

Мужны і таленавіты абаронца інтарэсаў працоўных, выдатны арганізатар мас, вучоны-патрыёт, чалавек высокай культуры і абаяльнасці — такім быў слаўны сын беларускага народа Браніслаў Тарашкевіч, такім застаўся ён у памяці пакалення рэвалюцыйных барацьбітоў 20—30-х гадоў. Такім дораг ён нашчадкам.

7-2-3
М-66

## ПАЧАТАК ДАРОГ

Вызваленчы рух працоўных мас Беларусі ў першай чвэрці XX ст. вылучыў цэлую кагорту яркіх прадстаўнікоў грамадскай і навуковай думкі. Сярод іх адно з самых першых месц належыць Браніславу Тарашкевічу — выдатнаму вучонаму-філолагу, высокаталенавітаму публіцысту, палымянаму народнаму трыбуну. У дваццаць шэсць год ён — аўтар першай «Беларускай граматыкі для школ»; у трыццаць — кіраўнік парламенцкага беларускага прадстаўніцтва, пасланага рабочымі і сялянамі Заходняй Беларусі на сейм Рэчы Паспалітай для абароны іх кроўных інтарэсаў; у трыццаць тры гады — старшыня стотысячнай Беларускай сялянска-работніцкай грамады; у трыццаць шэсць — акадэмік Акадэміі навук БССР і ў канцы жыцця — актыўны ўдзельнік міжнароднага камуністычнага руху. Такія асноўныя этапы гэтага светлага палымянага жыцця, да канца адданага барацьбе за сацыяльнае і палітычнае вызваленне свайго народа, узбагачэнню яго культуры і навукі, змаганню за лепшую будучыню працоўных ва ўсім свеце.

***

Родны кут Браніслава Тарашкевіча — Віленшчына. Тут, у засценку Мацюлішкі, што размясціўся непадалёку ад старадаўняга тракту Вільня — Полацк, 20 студзеня 1892 г. ён з'явіўся на свет[1]. На гэтай усеянай каменнем зямлі, дзе да ўзгоркаў прытуліліся ціхія вёскі, параскіданы ў зялёных імшарах хутары, прайшло яго маленства, звычайнае вясковае дзяцінства з пастушковымі і іншымі гаспадарчымі клопатамі-абавязкамі. У блізкім ад Мацюлішак мястэчку Лаварышкі здабываў малы Бронік пачатковую грамату. Хутка ўсе заўважылі ў хлопца моцную цягу да навукі і добрыя здольнасці. Настаўнік, суседзі Тарашкевічаў і дзед па матчынай лініі Чарняўскі ўгаварвалі бацькоў не пакідаць сына на гаспадарцы, а аддаць яго далей вучыцца. Сярод суседзяў знайшлася адна інтэлігентная жанчына, якая сама ўзялася падрыхтаваць Тараса (так звалі Браніслава Тарашкевіча родныя) у гімназію.

Восенню 1906 г., паспяхова здаўшы ўступныя экзамены, чатырнаццацігадовы Браніслаў стаў вучнем трэцяга класа Другой віленскай гімназіі.

---

[1] Насуперак дакументальным сведчанням родныя і сваякі Браніслава Тарашкевіча называюць месцам нараджэння яго засценак Чарнулішкі.

Год паступлення юнака Тарашкевіча ў гімназію быў годам працягу першай рэвалюцыі ў Расіі. У памяці гімназістаў жылі карціны бурных дэманстрацый віленскіх рабочых у час Усерасійскай кастрычніцкай стачкі, выгляд сурова пагрозлівага шэсця працоўных за трунамі ахвяр расстрэлу, учыненага па загаду генерал-губернатара фон Палена. Не забыліся, былі крыніцай запаветных успамінаў і гаманкія гімназійныя сходкі, калі ўсе вучні прынялі рашэнне ўслед за Першай гімназіяй і рэальным вучылішчам далучыцца да бастуючых.

Навічок у гімназійных мурах, Браніслаў Тарашкевіч, як і яго таварышы, пачуў з вуснаў самога дырэктара Кізіветэра строгі загад, што цэлыя класы ў выпадку сходу ў памяшканні школы будуць выключаны без папярэджання. Гэтым наказам адміністрацыя здзяйсняла ўказанне дэпартамента паліцыі «Аб недапушчэнні публічных сходаў у сценах універсітэта», прафілактычна зробленае ў студзені 1906 г. У Другой віленскай гімназіі ўзнікалі яшчэ час ад часу інцыдэнты: то ўсім класам ладзілі абструкцыю выкладчыку, то старшакурснікі пашыралі сярод вучняў падрыхтоўчага класа «кашчунныя погляды на рэлігію», то хто-небудзь з навучэнцаў прама са сходу сацыялістычнай арганізацыі рабочых трапляў у лапы паліцыі.

Жыццё пасля рэвалюцыйнага ўзлёту не хацела ўвайсці ў прывычную павольна-нуднаватую плынь, у тыя берагі, у якіх цякло раней. І можна зразумець скруху віленскага генерал-губернатара, які ў дакладной запісцы на імя міністра ўнутраных спраў Дурнаво пісаў, маючы на ўвазе вынікі разбуральнай рэвалюцыйнай буры, што «толькі вельмі суровы ваенны рэжым на працягу некалькіх год у стане ўзнавіць парадак і спакой».

Гэта што датычыць грамадскай атмасферы, паветра часу, якім дыхалі юнакі-гімназісты. Але быў і другі, больш вузкі і разам з тым вялікі бок іх жыцця — вучоба. Былі людзі, ад якіх шмат у чым залежала калі не цалкам фарміраванне светапогляду навучэнцаў, то, прынамсі, складванне іх густаў, зацікаўленасць тым ці іншым прадметам.

Настаўнікі былі розныя: і дэмакратычна настроеныя, якія ўмелі данесці да пытлівых юначых галоў вольналюбівыя паэтычныя парывы Байрана, Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча, Славацкага, і такія, каму больш за ўсё абыходзіла, каб непахісна стаяў гэты вякі лютай рукой мацаваны парадак і з выхаванцаў падрыхтаваць будучых добрых чыноўнікаў, верных слуг цара і айчыны.

Дырэктар гімназіі, асабліва пасля хваляванняў выхаванцаў, трымаў казённа-афіцыйную лінію. З выразным спачуваннем да гімназістаў пры абмеркаванні на педагагічным савеце якіх-небудзь іх пра-

ступкаў, у тым ліку тых, што выходзілі за рамкі акадэмічных пытанняў, заўсёды ставіўся выкладчык рускай мовы і славеснасці А. Занкевіч. Яго пяру належыць, між іншым, сціплая, аднак зробленая не без філалагічнага чуцця і любасці праца «Беларускія вясельныя абрады і песні». Пазней выкладчыкам рускай мовы і славеснасці ў гімназіі быў выпускнік Пецярбургскага універсітэта А. Пінчук. Занкевіч застаўся інспектарам. Польскую мову, якая разам з літоўскай была ўведзена ў 1906 г. як пазакласны прадмет, выкладаў Касцялкоўскі, пазней прафесар Віленскага універсітэта.

Вучнёўскі гурт быў натуральна стракаты. У ім мяшаліся сыны чыноўнікаў з шляхецкімі дзецьмі. Было некалькі мужыцкіх сыноў ды дзяцей местачковай галоты. Спачатку мешчукі лёгкімі кпінамі спаткалі па-вясковаму апранутага хлопца. Але Тарас не звяртаў увагі на жарты, з юначай упартасцю браўся за навуку, пазнаваў гісторыю, літаратуру, вывучаў мовы. Хутка за выдатныя поспехі Тарашкевіча вызвалілі ад платы за навучанне. У 4-м класе гімназіі Тарас ужо меў некалькі вучняў-падрыхтоўнікаў, а ў 5-м цалкам зарабляў на сябе ўрокамі. У хлопца відавочна расла, пераходзячы ў страсць, цяга да кнігі...

Апошнія чатыры гады вучобы Тарашкевіча ў Другой віленскай гімназіі — час яго духоўнага ўзмужнення — прыпалі на перыяд сталыпінскай рэакцыі. На рэвалюцыйныя масы, якія ўжо не хацелі і не маглі жыць па-старому, царызм абрушыўся з усёй дэспатычнай сілай паўфеадальнай дзяржавы. Вялізны цяжкі апарат удушэння і прыгнёту быў прыведзены ў поўнае дзеянне. Падданых уціхамірвалі куляй і вісельняй, астрогамі і хутарамі, перасяленнем на малазаселеныя землі Сібіры, узмацненнем імперыялістычнай палітыкі дэнацыяналізацыі ўскраін.

Заваёвы, вырваныя пралетарыятам у царызма за гады рэвалюцыі, былі зведзены на нішто. Духоўная атмасфера станавілася нязмерна цяжкай. Кадэты адкрыта пракліналі вызваленчыя імкненні, і ідэйныя правадыры іх у зборніку «Вехі» дзякавалі ўраду за тое, што ён «штыкамі агароджваў іх ад гневу народнага». Эсэры перажывалі поўны крызіс сваіх ідэй і тактыкі. Асобныя з іх (Іван Пуліхаў, Кацярына Ізмайловіч) яшчэ прыгожа паміралі, бяссільныя зваліць існуючы дэспатычны рэжым царызму.

І толькі У. І. Леніну, нягледзячы на хвалі адзавізму і ліквідатарства, з групай стойкіх, выпрабаваных бальшавікоў удалося весці карабель рускай сацыял-дэмакратыі, а за ёй і ўсё жывое, няскоранае ў краіне прамым курсам на падрыхтоўку новай рэвалюцыі.

У Беларусі і Літве настойліва ядналі інтэрнацыянальныя рады пралетарыяту камітэты РСДРП.

У атмасферы жорсткага палітычнага праследавання, нагляду грамадскае жыццё многімі сваімі праявамі скіроўвалася ў рэчышча культурнай працы. Гэта — участак, дзе беларускія культурна-грамадскія сілы, жывыя сілы народа, у міжрэвалюцыйны час досыць выразна выявілі сябе.

Пасля літаральна задушанай цэнзурай і ўрэшце забароненай «Нашай долі» пачала выходзіць газета «Наша ніва». У адрозненне ад сваёй папярэдніцы яна страціла акрэслены сацыяльны грунт і высунула лозунг абароны агульнанацыянальных інтарэсаў. Хоць наступленне рэакцыі, выхад са складу кіраўніцтва Беларускай сацыялістычнай грамады Алаізы Пашкевіч (Цёткі) і «гнаў «Нашу ніву» ў рэчышча лібералізму», яна заставалася дэмакратычным органам, са старонак якога прамаўлялі і масы (толькі за 1910 г. надрукавана 666 карэспандэнцый з вёсак і гарадоў) і ўсе лепшыя прадстаўнікі тагачаснай беларускай культуры.

Не выпадкова вялікі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі, звяртаючы ўвагу «на маладую літаратуру беларусаў, самага забітага народа ў Расіі», настойліва раіў уважліва паставіцца да працы людзей, «якія згуртаваліся вакол газеты «Наша ніва».

Падтрымка выдатнага прадстаўніка прагрэсіўнай Расіі была ў тагачасных умовах надзвычай важнай для газеты і тых сіл, якія яна гуртавала. Гэта была прыязна працягнутая рука праз галовы чорнай рэакцыі, праз галовы пурышкевічаў, саланевічаў, каранкевічаў і К.

Нягледзячы на драконаўскую цэнзуру, голас беларускай паэзіі год ад году мацнеў. Уся яна была ад зямлі, ад народнага жыцця, бо песняры яе — выхадцы з самай гушчыні народнай. А апошняя прыйшла ў рух, паволі, але настойліва пазнавала сваю моц, свае права. Зоркай першай велічыні заззяў талент Янкі Купалы. «Жалейка» яго, прамяўшыся народнай няволяй і неадольнай марай аб людскім, свабодным жыцці, гучала з горыччу і гневам, але заўсёды моцна, грымуча. Ціхую жальбу палёў, у якой была і скарга селяніна-бедака і яго роздум над доляй-мачыхай, тонка перадаваў Якуб Колас. Мара аб волі жыла, трапяталася дзесь у глыбіні істоты кожнага яго твора. З далёкай Волгі нёс дар свайго сэрца і розуму роднаму народу шчыры мастак слова Максім Багдановіч. Ад далёкай мінуўшчыгны да крыўдаў сучаснага дня сягалі яго думы, пералітыя ў чаканныя мілагучныя радкі. Творамі, поўнымі веры ў перамогу рэвалюцыі, з выгнання адгукалася Алаіза Пашкевічанка. Выдадзены ў эміграцыі пры садзеянні ўкраінскіх сяброў яе паэтычны зборнік «Хрэст на

свабоду» быў палымяным наказам барацьбіта. З сібірскай катаргі з песнямі-марамі аб свабодзе звяртаўся да далёкага роднага краю Алесь Гарун. У літаратуру прыйшоў самабытны мастак настрояў і паўтонаў, пясняр гаротнай вёскі і мястэчка Змітрок Бядуля, а за ім паказаўся толькі яшчэ абазначаны, з поцягам да псіхалагізму талент Максіма Гарэцкага.

Узрушанае народнае мора ўзнімала са сваіх глыбінь новыя і новыя самародкі.

Маладога Тарашкевіча моцна ўразіла сустрэча з родным словам на старонках «Нашай долі» і «Нашай нівы». Было ў гэтай сустрэчы нечакана ўзрушальнае. Сапраўды, слова, якое гучала ў гэтых ціхіх, прыніклых ля старых гасцінцаў, між асмуглых бароў, вёсках, што журботнымі напевамі плыло над аржанымі палямі, тулілася на гарадскіх ускраінах, прабілася на свет, загаварыла са старонак газеты. Яно расказвала пра крыўды бедака-селяніна, местачковага работніка, штосьці гаварыла аб іх праве, гучала высокапаэтычным складам у вуснах паэтаў ад сахі і варштата.

Для Тарашкевіча ўсё гэта было цэлае адкрыццё, якое потым паглыбілася і стала адкрыццём усяго свайго народа, яго гістарычнага аблічча і, галоўнае, яго душы — мовы, народнай паэзіі, музыкі.

Тым часам пляцоўка духоўнай дзейнасці народа, не зважаючы на прыгнечанне, няволю, шырэла. Некалькі выдавецкіх суполак — «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу, «Наша хата», «Палачанін» у Вільні, «Мінчук» у Мінску — пачынаюць перавыдаваць лепшыя культурныя здабыткі мінулага, выпускаць у свет новыя кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Гальяша Леўчыка, Альберта Паўловіча і інш., першыя падручнікі, складзеныя Цёткай, Якубам Коласам, гаспадарчую і навукова-папулярную літаратуру, арыгінальную і перакладную.

Засноўваюцца гурткі мастацкай самадзейнасці, якія імкнуцца ўзняць прыродную сваю песню, выступіць з дэкламацыяй паэзіі песняроў нядолі народнай. Узнікае на аматарскіх пачатках некалькі сталых мастацкіх калектываў. У 1911 г., вярнуўшыся з астрогу, хворы, але заўсёды нястомны арганізатар-энтузіяст Алесь Бурбіс засноўвае «Беларускі драматычна-музычны кружок». Бурбіса не палохае тое, што для гуртка няма зусім ні драматычнага, ні харавога рэпертуару. Неўзабаве перакладаюцца п'есы Крапіўніцкага і Ажэшкі. Не толькі знаўцаў народнай песні, а ўвогуле ўсіх, хто штосьці ведаў з народных напеваў, Бурбіс пасылае да кампазітара Людаміра Міхала Рагоўскага, і ў выніку склаўся «Беларускі спеўнік» гэтага прыхільніка беларускай музыкі. У спеўніку, акрамя меласу, была арыгінальная песня Рагоў-

скага на словы Янкі Купалы «А хто там ідзе?». Ёю драматычна-музычны гурток і стаў пачынаць свае выступленні.

Рупліва ўзялася пецярбургская студэнцкая моладзь (выхадцы з Беларусі) за вечарынкі з пастаноўкай арыгінальных і перакладных п'ес, спевамі, харэаграфіяй і дэкламацыяй. Гурток гродзенскай моладзі, з якой пазней выйшлі вядомы культурны дзеяч на заходнебеларускай ніве Людвіка Сівіцкая-Войцік, удзельнік тэатра Буйніцкага Зыгмунт Абрамовіч і інш., наладзіў некалькі самадзейна-мастацкіх вечароў у горадзе і ваколіцах.

Культурна-грамадскай падзеяй, што набывала шырокі водгук ва ўсіх кутках Беларусі, станавіўся тэатр Ігната Буйніцкага. Імя руплівага пачынальніка беларускага тэатра хутка стала ўжо нямала гаварыць сэрцу кожнага, хто думаў пра будучыню беларускага мастацтва, пра духоўнае развіццё свайго народа. Глыбокі знаўца духоўнай народнай спадчыны, яго неўміручай творчасці, сам таленавіты яе носьбіт і прапагандыст, ён жыў у мастацтве і сваёй любоўю, энергіяй запальваў іншых.

Тэатр Ігната Буйніцкага, узбагачаючыся народнымі талентамі, некалькі разоў скалясіў Беларусь. У Полацку, Дзісне, Мінску, Слуцку, Капылі, Магілёве, Нясвіжы, Баранавічах, Смаргоні «беларускія вечарынкі» збіралі шмат удзячных гледачоў і слухачоў, якія з тэатральных падмосткаў чулі родную гаворку, лавілі трыбуннае слова Янкі Купалы і Цёткі, слухалі вершы Францішка Багушэвіча, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Каруся Каганца.

Сцэны народнага жыцця, блізкія і зразумелыя кожнаму, бачыў масавы глядач у спектаклях, пастаўленых артыстамі Першай беларускай трупы. Дзе пабывала беларуская трупа Ігната Буйніцкага, там запальваліся вогнішчы дзейнасці аматараў народнага мастацтва, узнікалі самадзейныя гурткі. Буйніцкі паспяваў дапамагчы ім і рэпертуарам і парадай, а часам і падрыхтаваць першае прадстаўленне.

Уся гэта праца, якая была знешнім частковым праяўленнем шырэйшых і глыбейшых народных імкненняў, абуджэннем народных мас да актыўнай творчасці, прамаўляла да душы маладога Браніслава Тарашкевіча. Ва ўсякім разе, як згадвае Вера Андрэеўна Ніжанкоўская, калі ў жніўні 1911 г. пасля паспяховага заканчэння віленскай гімназіі Тарашкевіч адправіўся ў Пецярбург, то меў перад сабою канкрэтную грамадзянскую задачу. Ён паступаў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта, каб працаваць над мовай свайго народа. Гэту думку ў ім моцна падтрымлівалі ў рэдакцыі «Нашай нівы», куды Тарашкевіч заходзіў яшчэ будучы гімназістам. Акадэмік А.А. Шахматаў ужо раз запрашваў у супрацоўнікаў газеты

чалавека, які б мог заняцца навуковай распрацоўкай беларускай мовы. Раілі Максіма Багдановіча, ды здароўе не дазволіла паэту жыць у паўночнай Пальміры. Тады спыніліся на кандыдатуры Тарашкевіча.

У першы ж год навучання Браніслава Тарашкевіча ва універсітэце ўзнік «Беларускі навукова-літаратурны гурток». Ініцыятарам і заснавальнікам яго была група студэнтаў на чале з Яўгенам Хлябцэвічам (памёр у канцы 50-х гадоў у Маскве). Напачатку ядро гуртка складала грамадка студэнтаў-універсітэтчыкаў лікам 16 чалавек. Пазней у працу яго ўцягнуліся і выхадцы з іншых навучальных устаноў Пецярбурга. Мэта гуртка была коратка акрэслена як «навуковае азнаямленне з духоўным (мова, літаратура, народная творчасць) і грамадскім (этнаграфія, статыстыка, народная гаспадарка) жыццём беларускага народа». Афіцыйным кіраўніком быў мазначаны дацэнт А.А. Розенфельд.

Вучоныя і пісьменнікі шчыра віталі ініцыятыву пецярбургскіх студэнтаў-беларусаў. Сярод віншаванняў асабліва глыбокім спачуццём і падтрымкай вылучаліся пасланні прафесара А. Л. Пагодзіна і выдатнага даследчыка культурнай спадчыны беларускага народа Е. Р. Раманава.

«Здравствуй, племя молодое, незнакомое, но родное!»— шчасліва ўзнёсла пачынаў свой ліст да гуртkоўцаў састарэлы беларускі фальклярыст, этнограф і археолаг. Ён не хаваў глыбокай радасці ад таго, што вось знаходзяцца, нарэшце, арганізаваныя прадаўжальнікі распачатай адзіночкамі даследчай, збіральніцкай працы. Узрушана гаварыў у лісце аб непачатым краі работы ва ўсіх галінах беларусазнаўства, асабліва акцэнтуючы ўвагу маладых энтузіястаў навукі на «адратаванні твораў душы народнай», на зборы мелодый, вызначэнні граніц гаворак, «на складанні зводу матываў беларускіх казак, на вывучэнні арнаменту, звычаёвага права і г. д.

Раманаў клікаў не абмяжоўвацца толькі акадэмічным бокам справы, а парупіцца і ў іншых галінах, бо, «ратуючы народ ад эканамічнай залежнасці, ад яго ворагаў, вы выратуеце яго і ад духоўнага заняволення».

Янка Купала на павіншаванне гуртkоўцам прыслаў свой верш «Прарок». Віталі студэнтаў з добрым пачынаннем Якуб Колас і Уладзіслаў Галубок.

Браніслаў Тарашкевіч з самага пачатку актыўна ўключыўся ў работу гуртка. За кароткі час ён выступіў з трыма дакладамі. Першы з іх адносіўся да гісторыі развіцця грамадскай думкі ў Беларусі. Два другія мелі лінгвістычна-літаратуразнаўчы змест. Тарашкевіч дакладваў членам гуртка аб фанетычнай транскрыпцыі беларускіх твораў і

аб рукапісным альбоме Вярыгі-Дарэўскага як цікавым помніку культурна-грамадскага развіцця Беларусі ў 50-х гадах XIX ст. Гэта былі першыя сціплыя крокі ў навуку будучага выдатнага яе прадстаўніка. Яны яскрава характарызуюць зыходны пункт, асноўны напрамак навуковых пошукаў маладога разведчыка навукі.

Душой «Беларускага навукова-літаратурнага гуртка» і неафіцыйным яго кіраўніком з цягам часу стаў прафесар Б.І. Эпімах-Шыпіла. Ён настойліва абуджаў у юнакоў цікавасць да краю іх бацькоў, шчыра падтрымліваў выхадцаў з бядняцкай вёскі сродкамі. Вядомы арабіст І. Ю. Крачкоўскі ўспамінаў у свой час, што ў Эпімах-Шыпілы, калі ні зойдзеш, заўсёды можна было знайсці каго-небудзь «прытуленага» з беларускіх культурнікаў, студэнтаў... У гасціннай прафесаравай кватэры, на 4-й лініі Васільеўскага вострава, па суботах збіраліся студэнты розных вышэйшых навучальных устаноў Пецярбурга, якія прыехалі сюды з Віцебшчыны, Гродзеншчыны, Магілёўшчыны, Віленшчыны, прыходзіла рабочая моладзь. Звычайна, як расказвае ўдзельнік з першых дзён існавання «Беларускага навукова-літаратурнага гуртка» Я.Ф. Сушынскі, прачытвалі 2-3 рэфераты на тэму гістарычнага, эканамічнага развіцця Беларусі, яе мовы, літаратуры. Тут пазнаёмілі студэнтаў са сваімі першымі краязнаўчымі нататкамі этнографы Мікалай Каспяровіч (пазней адзін з арганізатараў краязнаўства ў Савецкай Беларусі) і Міхал Мялешка. На гэтых «суботніках» яны слухалі новыя запісы беларускіх народных мелодый, зробленыя пецярбургскім служачым Антонам Грыневічам, і абмяркоўвалі назіранні яго над гэтымі мелодыямі. У Эпімах-Шыпілы, дзе не скоўвала афіцыйная абстаноўка, свабодна разгортваліся дыскусіі. У спрэчках звычайна актыўна ўдзельнічаў сам гаспадар. Часта ён вяртаўся з працы разам з Купалам, які жыў на кватэры ў прафесара. Тады яшчэ не астылыя ад спрэчак гуртоўцы слухалі не гучны і не дужа спеўны, але нейкі вельмі задушэўны голас песняра, толькі што складзеныя ім вершы.

Называліся тэмы новых рэфератаў. Браніслаў Ігнатавіч раіў літаратуру па тэме і прыносіў кнігі з універсітэцкай бібліятэкі, дзе працаваў намеснікам дырэктара. Увогуле Эпімах-Шыпіла карыстаўся ў моладзі вялікім аўтарытэтам. У ім бачылі чалавека дэмакратычных поглядаў, высокаадукаванага (ведаў 16 моў), пераемніка культурных беларускіх традыцый XIX ст. і шчыра адданага працаўніка на асветніцкай ніве ў сучаснасці. З маладым запалам браўся ён за выдавецкую справу.

Асабіста знаёмы ў канцы XIX ст. з аўтарам «Дудкі беларускай», Эпімах-Шыпіла захаваў у сэрцы на ўсё жыццё абаяльны воблік паэта,

глыбока любіў яго пранятую народнай нядоляй паэзію, той лад думак, якія яна несла і пераказвала наступным пакаленням.

Суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» дзякуючы такім энтузіястам, як Б.І. Эпімах- Шыпіла, А. Грыневіч, А. Неканда-Трэпка, У. Сталыгва, досыць шырока разгарнула выдавецкую дзейнасць. Выданне твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі ішло адно за другім. Студэнты «Беларускага навукова-літаратурнага гуртка» дзейсна дапамагалі ў працы суполкі. Яны выконвалі функцыі карэктараў, афармляльнікаў. Тарашкевіч таксама ўдзельнічаў у агульнай працы і разам з таварышамі дзяліў радасць выхаду новых кніг. Сябрам ён прызнаваўся, што Пецярбург — горад мастацтва, навукі, дзе ў неўскія воды глядзеліся цудоўныя тварэнні геніяў Кварэнгі, Захарава, Лукіні, Растрэлі, узведзеныя мільёнамі працавітых рук, горад гэты палоніць яго ўсё больш.

Тут скрозь жывым рэхам адгукалася гісторыя. Вось непадалёку ад універсітэта, над Нявой, зямёрлі з неразгаданай усмешкай на абліччы сфінксы з Фіў, міма якіх, ідучы з акадэміі мастацтваў, заўсёды праходзіў Тарас Шаўчэнка. А там далей, праз раку,— пляц, дзе гарматны свінец касіў надзею маладой Расіі, яе сумленне — дзекабрыстаў.

Тут, на Мойцы, на адзін з каналаў-рукавоў, над якім горбяцца маленькія масткі, выходзяць вокны дома, дзе ў змрочную ноч мікалаеўскай рэакцыі «закацілася сонца рускай паэзіі» — Пушкін. Гэтымі плошчамі з цяжкімі думамі аб растаптанай тыранамі Айчыне праходзіў Адам Міцкевіч. Адсюль Лермантаў, кінуўшы ў твар прыдворнай чэрні свой «стих, облитый горечью и злостью», адпраўляўся за каўказскія хрыбты. Тут гнеўна гаварыў аб прыніжанай і абрабаванай працоўнай Расіі, якая, зняўшы шапку, стаяла ля парадных пад'ездаў, пракладвала чыгункі, уздымала гарады, сеяла на неабдымных абшарах імперыі белыя косці і накоплівала ў каторы раз праведны гнеў, Някрасаў.

Ва універсітэцкіх калідорах і недалёка на суседнім востраве, па-над равелінамі Петрапаўлаўскай крэпасці, вітаў неўміручы дух барацьбітоў за свабоду народную — дух Чарнышэўскага, змагароў «Зямлі і волі», польскіх, літоўскіх, беларускіх паўстанцаў, першых рускіх марксістаў. І мо чуліся маладому Тарашкевічу ў вузкім універсітэцкім калідоры крокі Кастуся Каліноўскага, можа, шукаў ён у думках слыхам за мурамі Петрапаўлаўскай крэпасці рана заціхлых крокаў Адама Гурыновіча, свайго земляка, беларускага паэта і рэвалюцыянера новай фармацыі. Горад-цуд будзіў думкі пра многае.

У Пецярбургу Браніславу Тарашкевічу рабіўся ўсё больш даступны той невыказна багаты свет чалавечых пачуццяў, думак, перажыванняў, які тоіць у сабе музыка. У пошуках заробку на хлеб надзённы ён шчасліва трапіў рэпетытарам у адукаваную сям'ю Зябіцкіх. Пасля экзаменаў Браніслаў звычайна «аведваў бацькоў і хутка зноў збіраўся ў дарогу — рыхтаваць да экзаменаў дзяцей Зябіцкіх. Будучы рэпетытарам у гэтай сям'і, Тарашкевіч некалькі сваіх летніх вакацый правёў у Фінляндыі.

Атачэнне маўклівага лесу, скалісты бераг рэчкі, шапэнаўскія эцюды, фартэп'янныя п'есы Чайкоўскага, што часта ліліся з акон дачы Зябіцкіх, горда стрыманыя пры сустрэчы жыхары тутэйшага краю, іх саматнаватыя песні — усё злілося ў адзін светлы ўспамін.

Ва універсітэце Бронька, як клікалі Тарашкевіча сябры-студэнты, з захапленнем спяваў у беларуска-літоўскім хоры, якім дырыжыраваў здольны навучэнец кансерваторыі, пазней вядомы літоўскі кампазітар Станіслаў Шымкус. Шымкус апрацаваў і некалькі беларускіх народных песень, наспяваных яму студэнтамі. Тарашкевіч удзельнічаў і ў драмгуртку, выконваючы ролі ў спектаклях, пастаўленых па п'есах «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі, «Па рэвізіі», «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Модны шляхцюк» К. Каганца і «Паўлінка» Я. Купалы. Рэжысёрам у драмгуртку быў малодшы брат Б. І. Эпімах-Шыпілы Уладзіслаў.

На вечары ў клубе «Пальма» беларускія студэнты разам з рускімі, украінцамі, літоўцамі, грузінамі, латышамі дэманстравалі і культурны набытак свайго народа, яго трохі зажураныя, задушэўныя песні, вясёлыя імклівыя танцы, пранікнёную грамадзянскую паэзію. Сустрэлі іх з энтузіязмам, шчыра.

У канцы 1912 г. для ўдзелу ў этнаграфічным вечары ў Пецярбург другі раз прыехаў Ігнат Буйніцкі. Тарашкевіч асабіста пазнаёміўся з выдатным артыстам і ўдзельнікамі яго трупы.

Грамада студэнцкай беларускай моладзі ў Пецярбургу праяўляе ўсё большую культурна-грамадскую актыўнасць. Гэта пры яе гарачай падтрымцы і жывым удзеле з 1912 г. пачынае выходзіць альманах «Маладая Беларусь». У 1914 г. з'явіўся нумар часопіса «Раніца». А праз колькі часу заходзіць гутарка пра часопіс «Сябра». У лісце да Людвікі Сівіцкай, адрасаваным у рэдакцыю сельскагаспадарчага часопіса «Саха» ў Мінск, Тарашкевіч напрадвесні 1916 г. пісаў аб цяжкасцях з выданнем: ва ўмовах вайны яшчэ больш прычэплівай стала цэнзура, яшчэ цяжэй было з друкарняй. Тарашкевіч жыва цікавіўся навінамі з «нашай сталіцы». З ліста відаць, як паглынала яго культурна-грамадская праца, як хваляваў поспех мастацкай самадзейнасці,

якая ў тых абставінах разглядалася як зарука поспеху будучага нацыянальнага мастацтва: у расінцы хацелася бачыць цэлае сонца.

Як вялікай навіной дзяліўся Тарашкевіч з зямлячкай чуткамі пра тое, што, магчыма, дазволяць адкрыць беларускія школы: «Хто ведае, можа гэта і здзейсніцца...» — з надзеяй заключаў ён свой ліст.

Вясной 1916 г. Тарашкевіч ужо рыхтаваўся да выпускных экзаменаў. Яго здольнасці да навукова-даследчай працы высока ацаніў А. Шахматаў. Цяпер разам з Карскім яны кіравалі работай Тарашкевіча па адбору матэрыялу для беларускай граматыкі. Пасля заканчэння універсітэта Тарашкевіч застаецца пры кафедры рускай мовы і літаратуры. У 1917 г. ён працуе прыват-дацэнтам грэчаскай і лацінскай моў, скарыстоўвае вольны час на завяршэнне граматыкі. Думка напісаць гэту працу цалкам авалодвае свядомасцю маладога вучонага. Садзейнічаць таму, каб народ яго хутчэй і як мага важчэй сказаў сваё слова ў літаратурнай, публіцыстычнай, навуковай і ўсіх іншых галінах дзейнасці,— гэта яго святы абавязак. Тарашкевічу хацелася хутчэй даць падручнік, па якім падрастаючае пакаленне пазнае, ацэніць багацце і хараство роднай мовы, яе вялікія магчымасці. Ён марыў аб тым, каб хутчэй больш сыноў стала да працы на духоўнай ніве народа. Граматыка беларускай мовы патрэбна была, як паветра. Ужо другое стагоддзе, як, пераадольваючы праследаванні і забароны, развівалася новая беларуская літаратура. Некаторыя творы, хоць цярністым шляхам, усё ж траплялі ў друк, іншыя ж былі асуджаны на хаджэнне ў спісках, перадаваліся з рук у рукі на перапісаных лістках, ад сэрца да сэрца, з вуснаў у вусны. Літаратура гэта жыла як сведчанне духоўнай неўміручасці народа, як яго голас. Новай сілы набралася беларускае мастацкае слова пасля першай рускай рэвалюцыі, калі яно стала з усё большай паўнатой выражаць думы і перажыванні працоўных, іх запаветныя імкненні... Яшчэ большай стала патрэба ў агульных навукова апрацаваных нормах літаратурнай мовы, бо яна цяпер рабілася не толькі мовай вершаў, бытавых апавяданняў, а і мовай публіцыстыкі, мовай сцэны і мовай грамадскіх арганізацый.

Яшчэ Францішак Багушэвіч (гэта відаць з яго лістоў да Яна Карловіча, апублікаваных Г. Кісялёвым), задумваючыся над будучыняй культуры свайго народа, гаварыў аб самай пільнай патрэбе ў граматыцы і слоўніку беларускай мовы. Горача марыла пра гэта няўрымслівая Цётка. Думка аб падручніку для беларускіх дзяцей моцна непакоіла ў апошнія гады жыцця Максіма Багдановіча.

Браніслаў Тарашкевіч у параўнанні з іншымі беларускімі інтэлігентамі, якія снавалі думкі аб граматыцы, меў перавагу. У яго, акрамя

адчування, глыбокага ведання народнай моўнай стыхіі, было добрае пазнанне асноўных еўрапейскіх моў, грунтоўная філалагічная падрыхтоўка. Пазней, зняволены польскай буржуазна-памешчыцкай уладай за рэвалюцыйную дзейнасць, ён скажа маладым змагарам падполля ў адказ на іхняе пытанне, як напісаў граматыку, што яму моцна дапамагло вывучэнне практыкі нарматыўнага ўпарадкавання рускай, польскай, украінскай, чэшскай і іншых моў. Аднак Тарашкевіч як сапраўдны вучоны не мог у такой спецыфічнай працы пайсці ў асноўным ад вопыту суседніх, хоць і сваяцкіх, моў. Тут перш-наперш трэба было зыходзіць з самой прыроды народнай мовы, яе жывой сутнасці, канкрэтнага матэрыяльнага праяўлення. Трэба было пачынаць ад асновы. Праўда, нельга сказаць, што было адно голае месца. Адзін з буйных беларусазнаўцаў акадэмік Я.Ф. Карскі ў сваёй фундаментальнай працы «Беларусы» даследаваў і апісаў фанетыку беларускай мовы, яе марфалогію, абагульніў вялізны фактычны матэрыял. Аднак прызнанаму вучонаму штосьці перашкаджала да канца пераадолець пэўныя погляды афіцыйнай навукі ў дачыненні да мовы беларускага народа, перспектыў яе развіцця.

Вучню ж свайму, Тарашкевічу, Карскі ахвотна дапамагаў у нялёгкай працы. А ў дапамозе малады вучоны меў вострую патрэбу, асабліва пры выпрацоўцы беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі.

У прадмове да «Беларускай граматыкі для школ» Тарашкевіч пісаў, вызначаючы асноўны прынцып падыходу да такой адказнай задачы: «Граматыка павінна толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія сама мова ўжо назначыла».

Народнае вымаўленне, моўная практыка (у асноўным літаратурная) на старонках асобных выданняў і перыёдыкі XIX і асабліва пачатку XX ст. былі той асновай, на якую абапіраўся малады вучоны ў афармленні моўных заканамернасцей у правілах пісьма. Тарашкевіч умела абагульніў асноўныя факты, моўныя з'явы беларускай цэнтральнай гаворкі, устанавіў адзіныя граматычныя нормы.

У аснову беларускага правапісу Тарашкевіч паклаў фанетыка-марфалагічны прынцып. Імкнучыся да паслядоўнага правядзення гэтага прынцыпу, ён, аднак, дазваляў сабе адступленне ад яго там, дзе жывое вымаўленне давала нешта больш мілагучнае («праскі», «французскі», «адзінаццаць»).

Граматыка Тарашкевіча складалася з пяці невялікіх раздзелаў і была прыстасавана перш за ўсё да практычнага карыстання ў школе. Аўтар пры падачы матэрыялу свядома пазбягаў якой бы то ні было ўскладненасці, адносячы напісанне «больш навуковай граматыкі на лепшы час у будучым».

Першы раздзел «Беларускай граматыкі» носіць назву «Гукі». У ім разгледжаны ўсе асноўныя фанетычныя з'явы беларускай мовы. Прыклады даюцца выразныя, запамінальныя, ад якіх так і вее водарам народнага слова, словазвароту. Для практыковак узяты тэксты з самай блізкай дзіцячаму ўспрыняццю лексікі. Напрыклад, для хатняй працы даюцца тэкст «Калыханкі», верш Якуба Коласа «Вясковыя дзеці» і г. д.

У раздзеле «Часціны мовы» коратка апісаны ўсе катэгорыі назоўніка, прыметніка, лічэбніка, дзеяслова, упарадкаваны склонавыя і родавыя канчаткі. Трэці раздзел прысвечаны марфалогіі слова, чацвёрты — сказу, асноўным момантам структуры мовы і пяты — правапісу.

У правапісе Тарашкевіча былі правільна акрэслены асноўныя фанетыка-граматычныя нормы: аканне і яканне, напісанне звонкіх зычных перад глухімі, глухіх перад звонкімі і г. д.

Засталося толькі да канца не аформленым напісанне іншамоўных слоў у беларускай мове. Тарашкевіч тут пайшоў у двух напрамках. Ён увесь чужаслоў падзяліў на даўно запазычаныя, якія арганічна ўліліся ў нашу мову, і на нядаўна запазычаныя. На першыя ён пашырыў адну са спецыфічных рыс беларускай мовы — «вялікае аканне» (Б. Тарашкевіч), а таксама не менш характэрнае дзеканне і цеканне. Другую групу слоў пакінуў у тым выглядзе, у якім яны ўжываліся ў мове-мацеры.

Наколькі добра была выканана першая работа ў галіне беларускай лінгвістыкі, сведчыць той факт, што правапіс, унармаваны Тарашкевічам, ляжыць у аснове правапісных норм беларускай літаратурнай мовы аж да сёння.

У 1918 г. «Беларуская граматыка» Браніслава Тарашкевіча ўбачыла свет і адразу атрымала шырокае грамадскае прызнанне. Правапіс Тарашкевіча без афіцыйнага зацверджання стаў агульнапрызнанай нормай у газетнай, вучэбна-педагагічнай і ўсёй культурна-грамадскай практыцы Беларусі.

Час, калі ў цішы ўніверсітэцкіх кабінетаў Тарашкевіч спасцігаў заканамернасці развіцця мовы свайго народа, абдумваў граматычныя правілы-нормы, у якіх можна іх перадаць, быў часам вялікіх гістарычных падзей. Займаўся век новай эры, наканоўваліся новыя шляхі.

У лютым 1917 г. рухнуў царызм, развалілася шматвяковая дэспатыя, што гняла, высушвала жывыя сілы цэлых народаў, пазбаўляла працоўны люд элементарных чалавечых правоў. Праз некалькі месяцаў пасля падзення абсалютызму на «апошні і рашучы бой» устаў рускі пралетарыят на чале са сваім авангардам — партыяй бальшавікоў.

Буржуазны дзяржаўны апарат быў зломлены, уладу ў свае рукі ўзялі працоўныя масы горада і вёскі.

Тарашкевіча ў гэты бурлівы час сэрца кліча на бацькаўшчыну. Сацыяльны аспект грамадскага жыцця яшчэ не дастаткова акрэсліўся ў яго свядомасці. Яго найбольш хвалюе культурна-грамадская праца. Пазіцыя асветніка не дае Тарашкевічу магчымасці адразу зразумець да канца велізарную вызваленчую місію сацыялістычнай рэвалюцыі, якая хутка вырашыць усе карэнныя праблемы, як сацыяльныя, так і нацыянальныя. Яшчэ ў веснавую сесію 1918 г. імя Тарашкевіча значылася ў спіску прафесарска-выкладчыцкага персаналу Пецярбургскага універсітэта па кафедры рускай мовы. Аднак увосень ён ужо паказваецца ў Мінску і Вільні. У 1919 г. у час існавання Літоўска-Беларускай савецкай рэспублікі Браніслаў Тарашкевіч актыўна ўзяўся за адкрыццё школ для працоўных. Яго граматыка становіцца першай важкай цаглінай у падмурак беларускай школы, якая разам з выхадам на палітычную арэну беларускіх працоўных мас пачынае заваёўваць права на жыццё. Тарашкевіч едзе на павятовыя з'езды настаўнікаў, выступае з заклікам арганізоўваць працоўную школу на роднай мове, змагаецца супраць вынесеных з казённых семінарый некаторымі настаўнікамі поглядаў. Знаходзячыся ў Вільні, Тарашкевіч прыкладае намаганні, каб арганізаваць мясцовыя навуковыя сілы. Ён дзейсна працуе ў заснаваным у 1918 г. Беларускім навуковым таварыстве (БНТ), на пасяджэннях якога часта зачытваліся рэфераты, абмяркоўваліся першыя падручнікі і дапаможнікі для беларускіх школ, напісаныя Максімам Гарэцкім, Леанілай Чарняўскай, Аляксандрай Смоліч, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Антонам Грыневічам і інш. Таварыства аб'ядноўвала нешматлікія навуковыя сілы Заходняй Беларусі. Былі ў ім людзі розных палітычных поглядаў і рознай ступені адаронасці. Сярод іх творчай актыўнасцю вылучаўся сакратар Таварыства Уладзімір Самойла, той самы Самойла, які ў 1908 г. адным з першых адгукнуўся рэцэнзіяй на купалаўскую «Жалейку». Пазней Самойла пад псеўданімамі Суліма, Чэмер актыўна выступаў у левым заходнебеларускім друку як востры публіцыст і вядомы літаратурны крытык. Прыгнятальнікі беларускіх працоўных мас не раз адчулі вастрыню яго пяра ў брашурах «Які самаўрад гатуе беларускаму народу Польская рэспубліка», «Што такое «Wyzwolienie» з беларускага пункту гледжання» (была канфіскавана паліцыяй), «Kurs «nowy» і «najnowszy» polityki polskiej w sprawie białoruskiej» і інш.

Быў членам БНТ і Ігнат Канчэўскі, рана памёршы старэйшы брат Арсена Канчэўскага, вядомага дзеяча Кампартыі Заходняй Беларусі. Ігнат Канчэўскі скончыў філалагічны факультэт Маскоўскага

універсітэта. Пасля рэвалюцыі вярнуўся на радзіму, уцягнуўся ў грамадскую і культурную працу, якая тут закіпала. Акрамя філасофскіх нарысаў, ён пісаў вершы. Каля дзесятка іх пад псеўданімам Галубянка І. Канчэўскі змясціў у газеце «Змаганне», якую рэдагаваў Язэп Лагіновіч, будучы сакратар ЦК КПЗБ, з 1924 г. таксама член БНТ.

Тарашкевіч, Самойла, Канчэўскі і іншыя ўносілі ў працу Беларускага навуковага таварыства сапраўды творчы пачатак. Сярод іх Тарашкевіч вылучаўся ўменнем спалучыць у сваёй даследчай працы сацыяльны і нацыянальны аспекты.

Барацьба за стварэнне беларускай школы складала сэнс дзейнасці Тарашкевіча ў так званай Сярэдняй Літве, штучным палітычным утварэнні польскай улады ў адарваных ад Савецкай Беларусі заходніх яе землях. Аднак акупацыйная адміністрацыя хутка зводзіць на нішто гэту працу: закрывае школы і звальняе настаўнікаў.

Браніслаў Тарашкевіч становіцца на чале ўтворанай у 1919 г. Віленскай беларускай гімназіі, якая з часам зрабілася ў пэўным сэнсе кузьняй кадраў вызваленчага і культурнага руху ў Заходняй Беларусі.

К сакавіку 1921 г. буржуазная Польшча афіцыйна замацавала сваё становішча на Усходзе. Краіна Саветаў, знясіленая працяглай грамадзянскай вайной, барацьбой з інтэрвентамі, вымушана была згадзіцца на ўмовы Рыжскага міру, якія аддавалі Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь ва ўладу паноў. Яшчэ перад падпісаннем Рыжскага трактата, выступаючы ў канцы 1920 г. на з'ездзе рабочых і служачых скураной вытворчасці, У. І. Ленін гаварыў: «Мы... заявілі самым афіцыяльным, самым урачыстым чынам, што мы прапануем мір на тагачаснай лініі, бо мы цанілі рабочых, якія павінны былі загінуць у гэтай вайне... Вырашэнне пытання аб Беларусі мы мелі на ўвазе не сілай зброі, а выключна толькі шляхам развіцця барацьбы ўнутры Польшчы»[2].

Ленінскае прадбачанне здзейснілася. Гэта барацьба хутка разгарэлася. Умовы, у якія паставілі польская буржуазія і абшарнікі працоўных, паскаралі яе развіццё.

«Крэсы всходне» — як афіцыйна пачала называць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну акупацыйная адміністрацыя — былі наводнены войскам, жандармерыяй, паліцыяй. Пачалі вяртацца, акрыяўшы ад страху, гаспадары маёнткаў і замкаў — паны і магнаты. Органы мясцовай улады (гмінныя рады, павятовыя сеймікі) абсаджваліся шляхтай, збяднелымі абшарнікамі, уцекачамі з Усходу, якіх рабочасялянская ўлада выкінула з радавітых патомных гнёздаў.

---

[2] У.І. Ленін. Творы, т. 31, стар. 274-275.

Становішча ж працоўнага люду было нязмерна цяжкім. Значная частка рабочых Заходняй Беларусі не магла вярнуцца на месца сваёй ранейшай працы. За гады вайны і інтэрвенцыі былі амаль зусім знішчаны прамысловыя прадпрыемствы Гродна, Брэста, Кобрына, Слоніма, Смаргоні і іншых гарадоў, уцалелае прамысловае абсталяванне вывезена ў Германію.

Частка заходнебеларускіх прамысловых прадпрыемстваў (тытунёвыя і запалкавыя) па прычыне слабасці айчыннага польскага капіталу трапіла ў рукі замежных манаполій і часткова была закрыта імі з-за нерэнтабельнасці. Разглядаючы Беларусь як сыравінны прыдатак, буржуазны ўрад не клапаціўся аб развіцці мясцовай прамысловасці. Рабочая сіла ў Заходняй Беларусі не мела выхаду і на тых шляхах, дзе яна звычайна яго шукала: Рыга, Петраград, Лібава былі адрэзаны дзяржаўнымі граніцамі. Знайшоўшы няпэўны прыпынак на дробных і сярэдніх прадпрыемствах, асноўная маса рабочых, працуючы ў дзень па 10-12 гадзін, павінна была за бесцань прадаваць мазольныя рукі. У краі ўзнікла хранічнае беспрацоўе, якое ахапіла, акрамя горада, і вёску, што задыхалася ад малазямелля.

Заставалася эміграцыя — шлях на чужыну — у Францыю, Паўднёвую Амерыку і Латвію. Зноў, як дзяды і бацькі, кожны год разбрыдаліся па свеце ад рурскіх вуглекапальняў да плантацый і руднікоў у Амерыцы тысячы сем'яў у пошуках працы, хлеба. А ў краі ляжалі некранутымі ці вывозіліся за мяжу або ў цэнтральную Польшчу прыродныя багацці гэтай зямлі, распрацоўваючы якія можна было накарміць сотні тысяч абяздоленых.

У той час калі на ўсход ад рыжскай мяжы вёска рупліва гаспадарыла на былых панскіх аблогах, заходнебеларускі селянін, «правучаны» жандармамі за пасяганне на панскую маёмасць — зямлю, зноў вярнуўся да сваіх вузенькіх шнуроў-палосак, заціснутых паміж велізарнымі зямельнымі латыфундыямі радзівілаў, плятараў, друцкіх-любецкіх і інш.

Абшарніцкія і магнацкія маёнткі, не складаючы і аднаго працэнта ліку ўсіх гаспадарак, мелі ў сваім распараджэнні 40,5 працэнта ўсіх зямельных угоддзяў; 4,3 працэнта кулацкіх гаспадарак (ад 20 да 50 га) належала 10,3 працэнта зямлі; 383 з лішкам тысячам бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак заставалася 49,1 працэнта ўсёй зямельнай плошчы. Калі ўлічыць, што 85 працэнтаў насельніцтва Заходняй Беларусі жыло ў вёсцы, працавала на зямлі, то няцяжка ўявіць, на якую беднасць, амаль галечу была асуджана асноўная маса жыхароў краю. У 1921-1922 гг. па дамоўленасці з Савецкім урадам на заходнебеларускія землі вярнулася з бежанства звыш 500 тысяч сялян, якіх на

бацькаўшчыне чакалі здзірванелыя гоні ды шчэбень і быльнёг на руінах самотных сяліб. Сырыя цёмныя зямлянкі — вось што мог прапанаваць сваім новым грамадзянам буржуазны ўрад. Дрэва на адбудову заставалася абяцанкай на паперы, а ў гэты час пад драпежнай сякерай трашчаў беларускі лес. Не вельмі пэўна чуючы сябе на заваяванай зямлі, паны спяшаліся прадаць гэты прыродны дар, сплавіць за мяжу, як мага хутчэй набіць кішэні больш устойлівай, чым польскія маркі (з 1924 г. злоты), валютай. Англійскія лесапрамысловыя фірмы заключылі выгадныя ўмовы на пастаўку драўніны. Сквапна накінуліся на беларускае зялёнае золата бельгійскія прадпрыемцы.

Нязмернай бядой, сапраўдным насланнём для заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх зямель сталі асаднікі — праваднікі і выканаўцы каланіялісцкай палітыкі польскіх буржуазна-памешчыцкіх урадаў. Асаднікі, былыя добраахвотнікі легіёнаў Пілсудскага, атрымлівалі зямельныя надзелы, грашовую дзяржаўную дапамогу і рассяляліся па Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, найбольш уздоўж усходняй граніцы. Яны павінны былі стварыць, па задуме аўтараў праекта аб асадніках, моцную, надзейную апорную паласу. Ужо к пачатку 1923 г. у Заходняй Беларусі асела каля 5 тысяч пераважна вайсковых асаднікаў.

З усталяваннем савецка-польскай граніцы буржуазная ўлада зусім «забылася» на «прынцыпы зямельнай рэформы», прынятай летам 1919 г. у перыяд нарастания рэвалюцыйнага руху і дапоўненай праз год (калі Чырвоная Армія ў контрудары дайшла да Віслы) «Выканаўчымі правіламі да закону аб зямельнай рэформе ад 10 ліпеня 1919 г.».

Пры актыўнай падтрымцы сацыял-згоднікаў з партыі «Вызволеня» ў 1925 г. буржуазна-памешчыцкая большасць працягнула праз сейм так званы закон аб ажыццяўленні зямельнай рэформы, які стаў вядомы пад назвай «Закону аб парцэляцыі і асадніцтве». У ім ні слова не ўпаміналася аб прымусовай парцэляцыі (паводле закону 1920 г. ад гаспадарак з плошчаю ўгоддзяў звыш 400 га лішкі зямель павінны былі адыходзіць дзяржаве з тым, каб іх размеркаваць сярод беззямельных). У аснове новага закону ляжаў прынцып так званай прыватнай парцэляцыі. Толькі са згоды самога памешчыка сяляне маглі купіць у яго лішкі зямлі. Прытым цэны на зямельныя ўчасткі вызначаліся акруговымі зямельнымі ўстановамі, у якіх рэй вяло мясцовае панства ў хаўрусе з надасланымі на ўсход чыноўнікамі. Не дзіва таму, што цэны былі нязмерныя для беднякоў і серадня коў, і той, хто наважыўся прыдбаць надзел, асуджаў сябе на доўгія гады, пакуль ішла выплата, на паўгалоднае існаванне і катаржную працу.

Два моманты «зямельнага ўпарадкавання»: ліквідацыя сервітутаў і камасацыя — прымусовае рассяленне на хутары, як і асадніцтва, закранралі кроўныя жыццёвыя інтарэсы бядняцкага і незаможнага сялянства.

Ліквідацыя сервітутаў, пашавых угоддзяў, якія яшчэ з часоў адмены прыгону знаходзіліся ў супольным карыстанні памешчыка і вёскі, праводзілася так, што сялянам даставаліся самыя непрыдатныя ўчасткі або, як было найчасцей, яны атрымлівалі невялікую грашовую кампенсацыю. Бядняцкая частка вёскі пры гэтым пазбаўлялася самага неабходнага, на чым звычайна трымалася гаспадарка,— магчымасці прахаваць карову.

Хутарызацыя вяла да ўмацавання ў вёсцы кулацкай праслойкі — сацыяльнай апоры ўлады, да раз'яднання сялянства. З прыходам у маі 1926 г. да ўлады Пілсудскага гвалтоўная хутарызацыя як новы курс «санацыйнага» рэжыму асабліва настойліва пачала праводзіцца ў жыццё. Для малазямельнай паўразбуранай заходнебеларускай сялянскай гаспадаркі яшчэ больш нясцерпным, чым для якой-небудзь іншай, быў падатковы цяжар, які ўзвалілі на плечы працоўных пануючыя класы Польшчы. Каб утрымаць вялізную адміністрацыйную бюракратыю, каваць зброю для будучых захопніцкіх паходаў, улада ўсё тужэй завінчвала падатковы прэс. Постаць зборшчыка нядоімак, секвестратара, які не мог абысціся без паліцэйскага, пастаянна маячыла на вясковых вуліцах. Сяляне, аднак, давалі ім рашучы адпор.

Такім чынам, усе мерапрыемствы ўрада: асадніцтва, ліквідацыя сервітутаў, камасацыя і непасільны цяжар падаткаў — усё мацней зацягвалі і без таго тугі вузел супярэчнасцей і падрыхтоўвалі глебу для шырокага вызваленчага руху.

Яны ўсе па-свойму садзейнічалі палітычнай актывізацыі сялянства і арыентацыі яго на Кампартыю як рашучага і надзейнага абаронцу інтарэсаў працоўных. Пазней нездавальненне і супраціўленне выльюцца ў форме масавага адпору аж да ўзброенай барацьбы.

Сацыяльныя беды і выпрабаванні, якія выпалі на долю заходнебеларускага работніка, селяніна і працоўнага інтэлігента, давяршаліся нацыянальным прыгнётам, разгулам шавінізму, якім былі літаральна заражаны адміністрацыя, асадніцтва, клер — усё тое, што прадстаўляла панска-буржуазную ўладу і чыімі намаганнямі яна трымалася.

Абсалютнае ігнараванне нацыянальных правоў беларусаў і ўкраінцаў — такой стала ад першага дня падпісання Рыжскага трактата палітыка-адміністрацыйная практыка буржуазных урадаў даваеннай Польшчы. Яна імкнулася абаперціся на «салідную» навуковую традыцыю, аснова якой была закладзена буржуазнай навукай яшчэ ў

пачатку XIX ст. і якую завяршалі даследаванні і публіцыстычныя скетчы эпохі імперыялізму.

Ні пра які беларускі народ не можа быць гутаркі, з запалам, годным лепшага прымянення, заяўляў вядомы публіцыст У. Студніцкі. Тэарэтычна абгрунтаваў патрэбу неадкладнай дэнацыяналізацыі і паланізацыі Беларусі, выступіў з цэлай праграмай на гэту тэму другі прадстаўнік ваяўнічага шляхецтва Ст. Грабскі. Узначальваючы на працягу некалькіх год урад Польшчы, ён імкнуўся правесці свае погляды ў жыццё, асабліва злосна праследаваў беларускую асвету. Згасіць, культурна-асветныя ачагі, спыніць рост палітычнай свядомасці, штуршок якому дала Кастрычніцкая рэвалюцыя,— такім быў прамы разлік акупацыйнага рэжыму. Ужо к лету 1921 г. Цывільная адміністрацыя ўсходніх зямель паспела закрыць 150 беларускіх школ на адной толькі Гродзеншчыне, ліквідаваць Свіслацкую і Барунскую настаўніцкія семінарыі. Грамадскасць Савецкай Беларусі з трывогай і абурэннем сачыла за тым гвалтам, які пачаў чыніцца над іх братамі на захад ад рыжскай мяжы.

У ноце пратэсту Наркамата замежных спраў БССР, падпісанай старшынёй Савета народных камісараў і народным камісарам па замежных справах А. Чарвяковым 25 снежня 1921 г., называліся абураючыя факты гвалту ў дачыненні да беларускіх культурна-грамадскіх установ, кааператываў, школ і грамадзян, якія выступаюць з патрабаваннем, каб іх дзяцей вучылі на роднай мове.

Кіраўнік беларускага савецкага ўрада меў поўнае маральнае права напомніць кіраўнікам Рэчы Паспалітай некаторыя пункты Рыжскага трактата, што датычылі ўзаемных абавязкаў аб правах нацыянальных меншасцей, аб прадстаўленні ім гарантыі культурна-нацыянальнага развіцця. К пачатку навучальнага 1921 г. у Савецкай Беларусі (а яе тады складалі толькі 6 паветаў, фактычна Міншчына) было адкрыта 2243 школы, у тым ліку і польскія. У гэтым жа годзе ў культурным жыцці рэспублікі адбылася падзея, значэнне якой выходзіла за межы Савецкай Беларусі: адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта напаўняла гордасцю і надзеяй сэрцы беларускіх працоўных, што жылі за межамі БССР.

1922 год прынёс новыя здабыткі на фронце культурнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі і страты — ў Заходняй. У Мінску распачаў сваю працу першы ў гісторыі Беларусі навуковы цэнтр — Інбелкульт, які заняўся глыбокім даследаваннем усіх галін матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа, стаў зародкам Акадэміі навук. Інбелкульт згуртаваў лепшыя навуковыя сілы рэспублікі. Сярод супрацоўнікаў яго былі выдатныя прадстаўнікі навуковай думкі — М.

Доўнар-Запольскі, У. Пічэта, З. Даўгяла, Я. Воўк-Левановіч, А. Ляўданскі, М. Шчакаціхін, А. Шлюбскі, В. Друшчыц і многія іншыя.

1922 г. пасля далучэння так званай Сярэдняй Літвы да Польшчы на Віленшчыне была закрыта яшчэ 101 беларуская школа. Значная частка беларускіх настаўнікаў была інтэрніравана ў лагерах, а астатнія разагнаны.

Каланізатарская палітыка асабліва выразна праяўлялася ў такіх дзікіх формах нацыянальнага прыгнечання, як звальненне са службы, замена мясцовых чыгуначнікаў прывезенымі з карэннай Польшчы, замена мясцовых лесарубаў балахоўцамі і г. д.

Неабходна заўважыць, што ўсе буржуазныя тэарэтыкі і практыкі, прадстаўнікі гістарычна асуджанага класа трацілі элементарнае пачуццё сучаснасці. Яны ўмудрыліся не заўважыць, што жывуць у эпоху сацыялістычных рэвалюцый, знішчэння ўсякага прыгнёту на зямлі — саныяльнага і нацыянальнага. А што да беларускіх працоўных, то яны хутка даказалі ўсім гэтым гора-тэарэтыкам, адэптам імперыялізму, што яны маюць справу не з этнаграфічнай масай, цёмнай і безнадзейна забітай, а з народам, які ўсвядоміў сваю годнасць як нацыя, мае сваю шматвяковую культуру і гатовы яе абараняць да канца. І, з другога боку, што працоўныя масы яго дзякуючы працы КПЗБ ужо к 30-м гадам глыбока ўспрынялі перадавыя ідэі свайго часу — ідэі навуковага сацыялізма і зрабілі іх здабыткам, зброяй свайго штодзённага жыцця і змагання.

У першыя гады заняволення Заходняй Беларусі белапалякамі насельніцтва яе жыло ў пастаянным чаканні палітычных перамен, марыла пра хуткі зварот савецкай улады. Чыноўнікі дзяржаўнай паліцыі тых часоў вымушаны былі ў сваіх справаздачах з месяца ў месяц канстатаваць факты суцэльнай варожасці насельніцтва да польскай дзяржавы. З розных месц ішлі трохі вар'іраваныя паведамленні накшталт: стан адносін да дзяржавы «непрыхільны, часткова варожы, у невялікай колькасці лаяльны». «Калі гаварыць праўду,— зрывалася з вуснаў валожынскага каменданта, які ўжо не меў змогі ўтойваць ад начальства сапраўднага стану рэчаў, — то на пальцах можна палічыць лаяльных беларусаў. Не зраблю памылкі, — працяваў ён, — калі скажу — лаяльных няма».

Ужо ў 1921-1923 гг. усенародная нянавісць разгарэлася полымем паўстанчага партызанскага руху. Палескія лясы і балоты, Налібоцкая і Белавежская пушчы, Нарачанскі край прытулі народных мсціўцаў, усіх тых, што са зброяй у руках узняліся на барацьбу. Весткі аб разгроме народнымі мсціўцамі паліцэйска-вайсковага гарнізона ў Стоўбцах і вызваленні палітзняволеных з мясцовай турмы, аб дзёрзкім

нападзе партызан ля станцыі Лясной на цягнік з ваяводам Даўнаровічам, аб знішчэнні паліцэйскіх участкаў у мястэчках Крывічы, Вішнева, Кажан-Гарадок і інш., аб расправе з асабліва злоснымі і ненавіснымі мясцоваму насельніцтву панамі і асаднікамі маланкава разляталіся па Заходняй Беларусі і па-за яе межамі.

Нягледзячы на здвоеныя кантынгенты войска і жандармерыі на заходнебеларускіх землях, акупацыйная ўлада не магла справіцца з партызанскім рухам. Не дапамаглі карныя экспедыцыі генерала Янушайціса і ўведзеныя ваенна-палявыя суды. Дэлегацыі ад асаднікаў і абшарнікаў на чале з ратмістрам Пыхальскім дамагаліся ад урада ўвядзення афіцыйнага надзвычайнага, ваеннага становішча, пагражаючы распачаць грамадзянскую вайну. Правая прэса біла трывогу, застрашваючы кіруючыя колы і падказваючы ім метады расправы з партызанамі і насельніцтвам, якое іх падтрымлівала. Урад не прымусіў сябе доўга ўгаварваць. Ён накіраваў на падаўленне ўзброенага супраціўлення спецыяльныя фарміраванні пад камандай заядлага рэакцыянера генерала Рыдз-Сміглага.

К гэтаму часу працоўныя адабраных белапалякамі беларускіх зямель мелі ўжо самага надзейнага кіраўніка вызваленчага руху, які, зыходзячы з канкрэтных умоў барацьбы ў краі, карэнных інтарэсаў яго працоўнага люду, павёў іх на змаганне за сацыяльную і палітычную свабоду, за ўз'яднанне з БССР,— Кампартыю Заходняй Беларусі.

## У ЦЭНТРЫ ПАРЛАМЕНЦКАЙ БАРАЦЬБЫ

Паралельна з узрастаючай узброенай барацьбой супраць польскага імперыялізму ў Заходняй Беларусі пачала развівацца яшчэ адна форма барацьбы працоўных, якую яны павялі на легальным грунце праз сваіх прадстаўнікоў у сейме.

На сходзе лета 1922 г. па ўсёй Рэчы Паспалітай разгарэлася перадвыбарная кампанія. У Заходнюю Беларусь, спадзеючыся на палітычную няспеласць шырокіх сялянскіх мас, іх забітасць, кідаюцца ў пошуках пасольскіх мандатаў розныя буржуазныя партыі. Не скупячыся на абяцанкі, прыкрываючыся радыкальнай фразай, асабліва напорыста выступалі «Польска партыя сацыялістычна» (ППС) і «Вызволене». Іншыя буржуазныя партыі, такія, як «эндэкі» (нацыянальныя дэмакраты), «хадэкі» (хрысціянскія дэмакраты), «Пяст», ваявалі за галасы ў асноўным у самой Польшчы. Значную колькасць галасоў набраў у Заходняй Беларусі выбарчы спісак «Саюзу пралетарыяту горада і вёскі». Нацыянальныя меншасці Польшчы ў сваю чаргу ўступілі ў адзіны апазіцыйны блок: пайшлі на выбары са сваімі лозунгамі.

У Вільні быў створаны Цэнтральны беларускі выбарчы камітэт. Вакол яго аб'ядналіся асноўныя легальныя грамадска актыўныя сілы Заходняй Беларусі. Партыйна гэтыя сілы к моманту выбараў не былі аформлены ў маштабе краю, за выключэннем Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА), якая ўзнікла ў 1922 г. Паўсталы з пачатку заняволення Заходняй Беларусі радыкальны друк стаў апорнай базай передвыбарчай агітацыі. Беларускія выбарчыя камітэты былі заснаваны і ў правінцыі. Іх актыўнымі ўдзельнікамі там сталі беспрацоўныя настаўнікі і асабліва моладзь, якая вярнулася з Савецкай Расіі.

У лістападзе 1922 г. 12 абраннікаў заходнебеларускіх працоўных утварылі Беларускі пасольскі клуб (БПК), на чале якога нягледзячы на тое, што ў склад яго ўваходзілі і такія ўжо вядомыя культурна-грамадскія дзеячы, як Аляксандр Уласаў, былы рэдактар «Нашай нівы» і інш., стаў самы малады сярод беларускіх дэпутатаў Браніслаў Тарашкевіч. Яго кіпучай энергіі, палітычнаму тэмпераменту, глыбіні адданасці народным інтарэсам была аддадзена перавага.

Грамадку беларускіх паслоў, неспрактыкаваных у парламенцкай барацьбе, у Варшаве чакалі немалыя цяжкасці. Перад выездам на першую сваю сесію ў сейм беларускія паслы выпрацавалі палітычную і сацыяльную праграму, асновы тактыкі. З'езд дэпутатаў ад выбарчых арганізацый усіх паветаў Заходняй Беларусі зацвердзіў складзеную

пасламі праграму і ўхваліў тактычны план. Ён яшчэ раз перадаў сваім абраннікам у сейм наказ заходнебеларускіх вёсак, мястэчак і гарадоў адстайваць іхнія інтарэсы.

Пачыналася падарожжа ў невядомае. І першае адчуванне, якое яднала гэтых розных па перакананнях і поглядах людзей, было тое, што яны ўваходзяць у палату, дзе засядае вярхоўны орган улады, насуперак волі ўладароў становішча, што іх пасталі сюды насельнікі занядбаных, прыбітых горам вёсак, прыніклых мястэчак і гарадскіх ускраін, пасталі прыгнечаныя.

Першы палітычны крок Беларускага пасольскага клуба быў неабачлівы. Дэпутаты легкаверна паддаліся абяцанкам урадавага кабінета генерала Сікорскага і падтрымалі яго сваім галасаваннем. Гэтым самым яны садзейнічалі расколу ў блоку нацыянальных меншасцей. Урад Сікорскага слова не стрымаў. Нават пры жаданні ён не ў сілах быў што-небудзь змяніць: буржуазна-памешчыцкая большасць сейма, а таксама згоднікі з ППС і «Вызволеня» і слухаць не жадалі аб нейкіх там уступках «крэсавым хлопам». Памылка тлумачылася не толькі палітычнай неспрактыкаванасцю, але і дробнабуржуазнай абмежаванасцю часткі паслоў клуба. Першая памылка, аднак, была вельмі павучальнай. У далейшым беларускія прадстаўнікі ў сейме ні разу сваім аўтарытэтам, давер'ем не падтрымалі хоць бы адзін крок урада. З гэтага часу яны занялі паслядоўную апазіцыю ў дачыненні да ўсіх урадавых кабінетаў, настойліва выкрывалі антынародную буржуазна-капіталістычную сутнасць іхняй палітыкі: адны з рэфармісцкіх пазіцый, другія — з рэвалюцыйна-дэмакратычных.

«Фашызм — гэта перш за ўсе прынцып мілітарысцкага кулака, кулака нацыяналістычнага і імперыялістычнага.

Паслухайце, што кажа Мусаліні. Ці ў ягоных словах не чуваць падземных штуршкоў вулкана, які штохвілі можа выбухнуць вайной? Чытайце прамовы Мусаліні і параўноўвайце іх са стылем маршалка Пілсудскага. А гэткіх паноў, як Мусаліні, штораз больш знаходзіцца ў Еўропе, і вынікам гэтай дактрыны з'яўляецца вайна, новы сусветны пажар»,— гаварыў 25 чэрвеня 1926 г. з трыбуны польскага сейма пасланец заходнебеларускіх сялян і рабочых прафесар Браніслаў Тарашкевіч.

Але да такой палітычнай пранікнёнасці, да такіх цвёрдых сацыялістычных перакананняў Тарашкевіч прыйшоў пасля пэўнага развіцця палітычных падзей у краіне, пасля глыбока асабістага вопыту парламенцкай барацьбы, атрыманага ў сейме.

Напачатку ён верыў, што шляхам націску левых партый у сейме можна будзе прымусіць урад выканаць перад працоўнымі абяцанне забяспечыць іх правы, задаволіць патрэбы. У сваёй першай сеймавай прамове ён яшчэ спасылаецца на маральнае права, «якое носіць народ у сваім сэрцы», грашыць ілюзіямі шчырага дэмакрата, выхаванага на класічнай рамантычнай паэзіі. Аднак ужо публіцыстычная спадчына Тарашкевіча 1923-1924 гг. малюе нам вобраз палымянага і таленавітага абаронцы інтарэсаў працоўнага люду і дазваляе выразна прасачыць дыялектыку развіцця палітычнага светапогляду аднаго з выдатных прадстаўнікоў грамадскай думкі Беларусі.

Абмовімся адразу. У публіцыстычнай спадчыне Тарашкевіча праглядваюць самыя лепшыя традыцыі рэвалюцыйна-дэмакратычнай публіцыстыкі Кастуся Каліноўскага. Адначасова яна з'яўляецца зусім новым, вышэйшым этапам развіцця легальнай беларускай грамадскай думкі ў Заходняй Беларусі.

Палітычнае жыццё 20-х гадоў міжваеннай Польшчы было вельмі інтэнсіўным. Яго складанасць і насычанасць падзеямі былі абумоўлены вострай класавай і нацыянальнай барацьбой. Першыя гады незалежнасці Польшчы былі гадамі пэўнага шавіністычнага ўгару. Буржуазія і землеўласнікі, значная частка інтэлігенцыі, цесна звязаная з пануючымі класамі, літаральна хварэлі на шавінізм, квазіпатрыятызм. Ахвярай гэтых нездаровых настрояў, між іншым, з'явіўся прэзідэнт Нарутовіч, які здаўся рэакцыйным сілам занадта дэмакратычным і недастаткова патрыятычна настроеным. Сваімі хваравіта ўзвінчанымі настроямі ваяўнічая буржуазія і шляхта хацелі заразіць і шырокія слаі грамадства. У невялікай ступені ім гэта ўдалося. Польскія рэфармісцкія партыі, асабліва кіруючая іх праслойка, не пазбеглі гэтых нездаровых уплываў. Аднак польскі пралетарыят рашуча заявіў, што не падзяляе ўльтрапатрыятычных вялікадзяржаўных настрояў. Кракаўскія рабочыя ў вулічных баях далі буржуазіі сур'ёзны ўрок. Камуністычная партыя Польшчы мацавала свае пазіцыі, вырываючы масы з-пад уплыву дробна-буржуазных нацыяналістычных партый.

На II з'ездзе КПРП польскія камуністы пад уздзеяннем росту нацыянальнага вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, пад уплывам поспехаў ленінскай нацыянальнай палітыкі ў СССР адкінулі застарэлыя люксембургіянскія погляды на сялянскае і нацыянальнае пытанні. У нацыянальна-вызваленчым руху беларускіх і ўкраінскіх працоўных КПРП заканамерна ўбачыла вялікую патэнцыяльную сілу, важную і неабходную для перамогі пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы. У выніку рашэнняў II з'езду КПРП (кастрычнік 1923 г.) на правах аўтаномных тэрытарыяльных арганізацый былі ўтво-

раны Кампартыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны са сваімі ЦК і друкаванымі органамі. КПЗБ аб'яднала ў сабе ўсе арганізацыі КПБ, якія з адыходам Чырвонай Арміі пайшлі ў падполле, арганізацыі Кампартый Літвы і Польшчы, што дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. У КПЗБ улілася таксама Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, лідэры якой адыгралі пазней відную ролю ў камуністычным руху Заходняй Беларусі.

З развіццём вызваленчай барацьбы адбылося цеснае збліжэнне рэвалюцыйна-дэмакратычных (левае крыло сеймавага прадстаўніцтва) і камуністычных сіл. Спачатку, аднак, яны дзейнічалі разрознена: падполле — па сабе, ускладаючы вялікія надзеі на паўстанчы партызанскі рух, дэпутаты сейма — легальным шляхам — па сабе.

На сеймавай арэне тым часам з першых дзён разгаралася вострая палітычная барацьба. Тарашкевіч ведаў, як сустрэне яго парламенцкая большасць, калі 23 студзеня 1923 г. першы раз падымаўся на сеймавую трыбуну. Правыя лавы густа абселі пасланнікі буржуазіі, памешчыкаў, капіталістаў, клеру — эндэкі і хадэцыя. Сярод тых, што занялі левы бок лаў, далёка не ўсе прадстаўлялі працоўны народ. Пэпээсы (члены Польскай партыі сацыялістычнай), кулацкая вярхушка «Пяста», большасць «вызволенцаў» ішлі за «роднай» буржуазіяй і шляхтай як прывязаныя. Не былі аднароднымі ў сацыяльных адносінах і групы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, якія заселі ў левым сектары.

Тарашкевіч не чакаў спагады і адразу ішоў на «вы». «Высокая, але пустая палата (палавіна паслоў яшчэ не вярнулася з буфету пасля перапынку), — пачаў ён, папярэджваючы выклік большасці залы. — Насуперак зводным разлікам нашых ворагаў, якія, на жаль, зараз не прысутнічаюць (паказвае на правы сектар), насуперак іх розным выпадам... і нават звыш спадзяванняў нашых нешматлікіх прыяцеляў мы пераступілі парог сейма Рэчы Паспалітай. Пераступілі мы гэты парог фактычна лікам неадпаведным да масы беларускага люду, але дастатковым для таго, каб не толькі перад Польшчай, але і перад усім светам засведчыць, што жыве народ беларускі»[3].

Першая частка вялікай прамовы Тарашкевіча — агляд беларускай гісторыі, пераканаўчая красамоўная водпаведзь наскокам буржуазна-памешчыцкіх прадстаўнікоў, якія гвалтам крычалі: «Няма такога беларускага народа!»

[3] Выступленні Тарашкевіча ў сейме Рэчы Паспалітай тут і далей цытуюцца па копіі стэнаграм, арыгіналы якіх захоўваюцца ў архіве Інстытута гісторыі пры ЦК ПАРП у Варшаве.

Далей прамоўца перайшоў да характарыстыкі балючых надзённых пытанняў жыцця заходнебеларускага сялянства. Зямля... Для заходнебеларускага працаўніка, які ў масе сваёй (85 працэнтаў усяго насельніцтва) жыў з зямлі, яна была пытаннем кавалка хлеба, пытаннем жыцця. Беззямельнае і малазямельнае сялянства (асноўная маса жыхароў краю) білася ў галечы і нястачах. 30 тысяч рамеснікаў у гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі таксама былі цесна звязаны з сельскай гаспадаркай. Засяваючы свае вузкія палоскі, заходнебеларускі селянін з тугой глядзеў на абшары панскай зямлі, на шчодрыя асадніцкія надзелы. Урад, сейм абяцалі яму зямлю, але не давалі. Барацьба за зямлю для сялянства стала важнейшым пунктам праграмнай дзейнасці беларускага сеймавага прадстаўніцтва.

Тарашкевіч востра выкрываў каланізатарскую палітыку буржуазных урадаў Польшчы на Усходзе, на беларускіх і ўкраінскіх землях. Ён паказаў, якім здзекам над праўдай з'яўляецца закон аб так званых пакінутых землях, прыняты сеймавай большасцю (гутарка ішла аб занятцці польскімі асаднікамі, найчасцей афіцэрамі і падафіцэрамі, угоддзяў, да якіх яшчэ не паспелі вярнуцца з бежанства сяляне Гродзеншчыны, Дзісеншчыны, Віленшчыны і Навагрудчыны).

Тарашкевіч звязвае факты арыштаў у Заходняй Беларусі, праследавання культурна-грамадскіх арганізацый, спажывецкай каапераціі з планавым наступам на элементарныя правы працоўных, называе гэтыя акты адміністрацыі парушэннем канстытуцыі і міжнародных трактатах, падпісаных кіраўнікамі Польскай дзяржавы. Ён абвінавачвае ўрадавыя органы ў імкненні знішчыць беларускую асвету як аснову развіцця нацыянальнай культуры, каб лягчэй было дэнацыяналізаваць неасвечаныя масы. Прамоўца апелюе да чалавечнасці, да павагі ўласнай канстытуцыі, так урачыста прынятай у свой час сеймам.

Ускрываючы класавыя корані распаўсюджання шавінізму і вялікадзяржаўных настрояў, Тарашкевіч гаварыў: «У пашырэнні гэтай нянавісці ёсць пэўная дэмагогія, дэмагогія слаёў, што чуюць хуткі канец, іменна тых слаёў, у якіх з-пад ног уцякае грунт, апора... Клас землеўласнікаў чуе гэта і хоча абаперці ўсю сваю сілу і нават усю сваю здольнасць да жыцця на гэтай нацыянальнай нянавісці».

Спакойна і важка кідаў ён у вочы шляхецтву сацыяльныя і нацыянальныя крыўды свайго народа, успамінаў гістарычныя «грахі» яго, дасціпна, з годнасцю чалавека, за плячыма якога стаіць цэлы народ, адбіваў наскокі-рэплікі, што так і сыпаліся з правага боку залы. У канцы прамовы як старшыня беларускага парламенцкага прадстаўніцтва Тарашкевіч зачытаў дэкларацыю Беларускага пасольскага клуба. У аснову платформы беларускіх сеймавых прадстаўнікоў

былі пакладзены некаторыя надзённыя патрабаванні заходнебеларускага сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі. У сваёй праграмнай заяве (у якой было 14 пунктаў) сеймавыя прадстаўнікі заходнебеларускіх працоўных патрабавалі: неадкладнага спынення штучнай каланізацыі і ліквідацыі асадніцтва, нацыяналізацыі ўсіх лясоў, ажыццяўлення зямельнай рэформы, якая павінна надзяліць зямлёй без выкупу мясцовае беззямельнае і малазямельнае сялянства, вяртання рэпатрыянтам канфіскаванай зямлі, неадкладнага выдання законаў, якія забяспечылі б беларускаму насельніцтву культурнае і асветнае развіццё, дапушчэння беларускай мовы ў адміністрацыю і суд і г. д.

Як бачым, патрабаванні былі сціплыя: не выходзілі за рамкі патрабаванняў аўтаноміі. Аднак гістарычнае значэнне гэтага выступлення Тарашкевіча заключалася ў тым, што ўпершыню з высокай трыбуны былі выказаны перад прадстаўнікамі грамадскасці, перад шырокімі яе масамі кроўныя крыўды заходнебеларускага. працаўніка, што гэты працаўнік упершыню ў прадстаўнічым органе пачуў голас сапраўднага свайго абаронцы.

На працягу 1923 г. Браніслаў Тарашкевіч яшчэ многа разоў выступае ў сейме на пленарных пасяджэннях і ў розных камісіях. Ён настойліва і ўсё з большым перакананнем імкнецца давесці да прадстаўнікоў шырокіх колаў грамадскасці Рэчы Паспалітай праўду аб Заходняй Беларусі, праўду аб патаптанні чалавечых і грамадзянскіх правоў, аб «знішчэнні асноў эканамічнага жыцця народных мас. Ён яшчэ не губляе веры ў тое, што праз народапрадстаўніцтва, праз згуртаванне левых сіл у сейме можна вырваць з рук абшарнікаў зямлю, без якой гібела ў бядоце заходнебеларуская вёска, вырваць у варожай адміністрацыі беларускую школу, якая неабходна была дэмакратам не толькі для асветы народа, а і для ўзняцця яго свядомасці.

Тарашкевіч раскрывае палітычныя матывы складальнікаў закону аб асадніцтве і парцэляцыі (каланіялізм, абарона абшарніцкіх інтарэсаў), заклікае не забываць і чыста маральных чалавечых прынцыпаў («зямля, на якой народ сядзіць тысячы гадоў, на якой ён вякамі пралівае пот і кроў, зямля гэта павінна яму належаць»), нарэшце, пагражае пануючым класам паўстаннем, выклікаючы гэтым люты гнеў іх прадстаўнікоў: «Цяпер народ хвалюецца і калі так пойдзе далей задуманая каланізацыя, то верце, што будзе не тысячы арыштаваных, як цяпер, а дзесяткі тысяч. ...Памятайце, паны, засцерагаю вас, што калісь прыйдзе страшная ноч, у якую ўсе

асадніцкія калоніі могуць пайсці «z dymem pożarów z kurzem krwi bratniej».

Выступаючы ў снежні 1923 г. з выпадку абмеркавання закону аб парцэляцыі і асадніцтве, якім буржуазна-абшарніцкія колы імкнуліся падмяніць абяцаную зямельную рэформу, Тарашкевіч зрывае ўсе пярэстыя вопраткі фраз, паказвае ў сапраўдным святле класавыя намеры аўтараў новага законапраекта. Прамоўца перш-наперш паказвае перадгісторыю новага закону. Ён напамінае, што іменна ў крытычныя для польскіх памешчыкаў і буржуазіі моманты польска-савецкай вайны на парадак дня ставілася зямельная рэформа, каб ашукаць сялян.

«Мінулыя тры гады, — гаварыў далей Тарашкевіч, — думка абшарнікаў працавала вельмі напружана, каб знайсці які-небудзь спосаб эрзац рэформы, знайсці які-небудзь сродак, што загамаваў бы імкненне селяніна да зямлі, які б ашукаў гэту яго патрэбу. І вось цяпер урад, утвораны ва ўлонні лагера памешчыкаў і самых багатых мужыкоў, з тых мужыкоў, якія прадстаўляюць нешта падобнае на таго французскага караля, які казаў, што хацеў бы, каб кожны селянін меў на абед курыцу, а яны цвярдзяць, што хочуць, каб кожны селянін меў сто гектараў зямлі, — зразумела гэта абсурд — менавіта гэты ўрад прыходзіць ні з чым іншым, як з эрзацам зямельнай рэформы. Трэба, аднак, зазначыць, што гэта ўжо не называецца зямельнай рэформай, а завецца вельмі сціпла: «Закон аб парцэляцыі і асадніцтве». Робіць гэта чэсць шчырасці аўтараў закону».

Прамоўца ўказвае на тры краевугольныя камені аграрнай палітыкі ўраду, на сапраўдныя мэты новаспраектаваных законаў.

Першым такім унутрана пабуджальным матывам буржуазных «рэфарматараў», згодна з думкай Тарашкевіча, было імкненне да захавання буйной зямельнай уласнасці, захавання класа памешчыкаў. Другім момантам была экспансія на этнаграфічна няпольскія землі з мэтай каланізацыі, трэцім — ваенна-палітычны аспект.

Тарашкевіч грунтоўна спыняецца на ідэалогіі асадніцтва і з канкрэтнымі фактамі ў руках разбівае асноўныя аргументы яе прыхільнікаў і праваднікоў.

Канкрэтна аналізуючы зямельныя адносіны ў Заходняй Беларусі, ён паказвае, што найбольш распаўсюджанай беларускай сялянскай гаспадаркай з'яўляецца гаспадарка ў 3-4 дзесяціны зямлі. Пры гэтым прамоўца звяртае ўвагу паслоў на ступень ураджайнасці глебы і кліматычныя ўмовы ў Заходняй Беларусі, на тое, што з-за адсутнасці прамысловасці ў краі ёсць вялікая колькасць беззямельных («15 працэнтаў па даваеннай статыстыцы, зараз больш»).

Параўнаўшы шчыльнасць насельніцтва Заходняй Беларусі са шчыльнасцю насельніцтва ў іншых краінах, Тарашкевіч канчаткова даводзіць, што гутарка аб лішках зямлі на ўсходніх ускраінах — чыстай вады дэмагогія, свядомы падман. «Я лічу гэты закон, — гаварыў заходнебеларускі пасол, — ганебным, правакацыйным... Усё ашуканства гэтай зямельнай рэформы беларускі і ўкраінскі народы ўжо зразумелі, і спадзяюся, што польскі народ таксама зразумее і дасць належным чынам адпор. А зямельная рэформа павінна быць праведзена дзеля многіх прычын. І перш-наперш таму, што адчуваецца страшэнны зямельны голад...»

Ужо ў канцы 1923 г. Тарашкевіч зазначыў, што «зямельная рэформа парцэлюе (дзеліць.— А.Л.) не толькі зямлю, але і клубы». Словы гэтыя праз паўтара гады будуць мець прамое дачыненне і да лёсу самога Беларускага пасольскага клуба.

А цяпер Тарашкевіч, як і ў сакавіцкім сваім выступленні, папярэджвае пануючыя колы, каб не злоўжывалі народным цярпеннем. Вера ў сілу працоўных, у рост іх самасвядомасці гучыць у словах прадстаўніка працоўных Заходняй Беларусі: «Памятайце, паны, калі селянін зямлі не атрымае, то папомсціцца перад усім на вас. Селянін сам зробіць зямельную рэформу. Сярод беларускага народа пашырана песня, якую паны некалькі дзён таму назад чулі ў гэтай палаце:

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі.
Мы знаем, што трэба рабіць:
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку...

а далей ёсць два варыянты. Адзін варыянт кажа «асвету здабыць», а другі — «зладзеяў пабіць». Калі вы не даеце нам школ, калі вы вырываеце зямлю з рук беларускага селяніна, то беларускі селянін будзе спяваць не той першы варыянт «асвету здабыць», а другі — «зладзеяў пабіць».

Заканчэнне прамовы Тарашкевіча, прысвечанай праекту Закону аб парцэляцыі і асадніцтве, сімптаматычна ў сэнсе надзей яго на парламенцкае рашэнне гэтай актуальнай праблемы: «Увогуле калі б быў у гэтым сэнс, тут, перад гэтай палатай і ў гэтых палітычных абставінах, гаварыць аб прынцыпах ажыццяўлення шырокай зямельнай рэформы, то мы б сказалі, што ўся зямля павінна быць забрана і аддадзена сялянам без выкупу».

Браніслаў Тарашкевіч, як і ўсе беларускія паслы, меў за плячыма год парламенцкай практыкі, год змагання. Ужо першыя сеймавыя прамовы яго сведчаць, што будучы кіраўнік Беларускай сялянска-

работніцкай грамады добра разбіраўся ў класавай прыродзе ўзноўленай Польшчы, перспектывах яе сацыяльна-палітычнага развіцця, хоць яшчэ і не зжыў пэўных ілюзій у дачыненні да буржуазнай дэмакратыі. З самага пачатку сваёй парламенцкай дзейнасці ён крытыкуе тыя польскія партыі, якія, прыкрываючыся левымі фразамі, ашуквалі давер'е працоўных.

Выказваючы 2 чэрвеня 1923 г. ад імя беларускага сеймавага прадстаўніцтва недавер ураду, Тарашкевіч гаворыць аб салідарнасці беларускіх паслоў з усімі левымі партыямі, затрымліваецца на тым, што яднае іх з гэтымі сіламі. Пры гэтым ён падкрэслівае, што «слова «дэмакратыя» цяпер ужо не ёсць зусім выразнае... Ёсць розная дэмакратыя: дэмакратыя сацыяльная, хрысціянская і яшчэ іншая».

Тарашкевіч удакладняе і растлумачвае сваё азначэнне працоўнай дэмакратыі наступным чынам: «Мы не можам мець да паноў (урада, сеймавай большасці.— А. Л.) даверу, г.зн. што мы салідарызуемся з тымі прадстаўнікамі народа, якія абапіраюцца менавіта на тыя шырокія сялянскія і рабочыя масы, што яшчэ не ўзбагаціліся».

Кіраўнік беларускіх дэпутатаў заклікае польскую дэмакратыю пры адпаведнай сітуацыі стварыць рабоча-сялянскі ўрад. «Лічым, што польская дэмакратыя павінна стварыць такі ўрад!» — заканчвае ён сваё выступленне. Неабходна зазначыць, што паняцце «рабоча-сялянскі ўрад» у разуменні Тарашкевіча, якім яно склалася ў яго ў 1923 г., яшчэ далёкае ад таго палітычна акрэсленага паняцця, якім яно аформіцца ў наступныя гады, калі Тарашкевіч канчаткова прыйдзе да перакананняў рэвалюцыянера-марксіста.

Так у агульных рысах выглядаў першы год парламенцкай працы. Тарашкевіч і яго калегі па працы, барацьбе імкнуліся пры кожным зручным выпадку выказаць крыўды заходнебеларускага працаўніка «на свет цэлы», дэмаскавалі палітыку буржуазных урадаў. Па якому б пытанню ні выступаў Тарашкевіч з сеймавай трыбуны, ён заўсёды паслядоўна і настойліва, таленавіта і горача бараніў інтарэсы працоўных. І хоць рэальныя вынікі працы былі сціплыя, усё ж зерне падала не на камень.

Камітэт, у які ўваходзілі прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый Заходняй Беларусі, у сваёй рэзалюцыі, што падводзіла вынікі парламенцкай працы беларускіх паслоў, канстатаваў: «Нашы паслы шчыра і сумленна стараліся выпаўніць тое, што абяцаліся выбаршчыкам. Не іх віна, што вынікі іх працы — дужа невялікія. Затое іх голас, іх выступленні пачуў як увесь працоўны польскі народ, што гаруе не менш за нас, так і ўсенькі свет. Справядлівыя дамаганні беларусаў вядомы ўсім...»

Хоць прадстаўнікі заходнебеларускіх мас у польскім сейме на працягу 1923 г. і адчулі неабходнасць больш цеснага збліжэння з усімі левымі сіламі, наяўнымі ў ім, аднак дзейсна яго не рэалізавалі. Фактычна ў розных канкрэтных пытаннях выступалі разам толькі з аднымі «сябрамі па нядолі» (Б. Тарашкевіч) — украінцамі. Кантакту з польскімі левымі сіламі не было. Існавала толькі ўзаемная маральная падтрымка. Але ўжо ў наступны год супрацоўніцтва набыло канкрэтныя практычныя формы.

Думка, што толькі абапіраючыся непасрэдна на арганізаваныя масы можна чагосьці дабіцца, наспела ў Тарашкевіча ў 1924 г. Але для таго каб ён з левым крылом дзеячаў вызваленчага руху практычна падышоў да стварэння масавай рабоча-сялянскай арганізацыі як рэальнай сілы ў барацьбе з імперыялізмам, спатрэбіўся яшчэ час — год з лішнім пошукаў і расчараванняў, год глыбейшага пазнання жыцця, настрояў народа, год бесперапыннай барацьбы ў польскім парламенце.

У 1924 г. Тарашкевіч часцей, чым у папярэднія гады, ездзіць па гарадах, мястэчках і вёсках Заходняй Беларусі, выступае перад працоўнымі са справаздачамі аб дзейнасці беларускага сеймавага прадстаўніцтва. Пільна прыглядаецца ён да жыцця, прыслухоўваецца да думак і настрояў розных слаёў народа. Вырасшы ў народнай гушчы, Тарашкевіч змалку ведаў жыццё працоўнага чалавека. Цяпер жа абвостраным зрокам палітыка ўглядаецца ён ва ўсе працэсы, што адбываюцца ў заходнебеларускай рэчаіснасці, узважвае ўнутраныя і знешнія фактары, якія яе фарміруюць.

Акрамя асабістага вопыту, вынесенага з сеймавай барацьбы, было яшчэ некалькі прычын, якія садзейнічалі пераходу Тарашкевіча на пазіцыі паслядоўнага рэвалюцыйнага дэмакрата, а пазней і на пазіцыі сацыялізма.

На працягу 1923 г. Беларускі пасольскі клуб увесь час адчуваў на сабе пільную ўвагу левых сіл, добразычлівую крытыку сваёй дзейнасці злева.

У газеце «Вольны сцяг» (пазней «Змаганне»), якую рэдагаваў Я. Лагіновіч, змяшчаліся артыкулы з бескампраміснай крытыкай некаторых крокаў беларускага парламенцкага прадстаўніцтва.

«Змаганне» ад 23 лістапада 1923 г. надрукавала падрабязны выклад артыкула кіраўніка камуністычнай фракцыі сейма дэпутата Крулікоўскага, змешчанага ў аднадзёнцы «Z frontu robotniczego». Прадстаўнік польскага пралетарыяту досыць рэзка крытыкаваў у ім малаактыўную дзейнасць Беларускага і Украінскага пасольскіх клубаў, даказваў, што, не маючы выразнай сацыяльнай праграмы,

нельга весці паслядоўнай барацьбы і за нацыянальныя правы свайго народа. Ад сябе рэдакцыя «Змагання» дадавала: «Час аб'яднацца з тымі, хто на сваім сцягу напісаў сярод рада сацыяльных лозунгаў таксама лозунг самавызначэння народа без усякіх агаворак». У артыкуле «Наспеўшая патрэба» («Змаганне» ад 10 студзеня 1924 г.) сацыялістычны элемент у Беларускім пасольскім клубе прама заклікаецца да ініцыятывы ў справе стварэння «сацыялістычнай партыі ўзорам украінскай сацыял-дэмакратычнай партыі».

Справа ў тым, што ва Украінскім пасольскім клубе ўжо адбылося размежаванне палітычных сіл згодна з класавым прынцыпам. У ходзе абвастрэння сацыяльнай барацьбы ў 1924 г. адбыўся раскол і ў польскай партыі «Вызволене». Група сеймавых прадстаўнікоў яе на чале з С. Ваявудскім, Ф. Галавачом, Ст. Баліным выйшла з «Вызволеня» і ўтварыла радыкальную Незалежную партыю хлопску (НПХ). Паслы яе С. Ваявудскі, Ф. Галавач, Ст. Балін, М. Федаркевіч, У. Шэпель увайшлі ў цесны кантакт з Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім і іншымі будучымі лідэрамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

Паглыбіліся асабістыя кантакты Тарашкевіча і з былымі кіраўнікамі БРА, у 1924 г. ужо актыўнымі дзеячамі Кампартыі Заходняй Беларусі — Я. Лагіновічам, з якім Тарашкевіч працаваў у 1922 г. у Цэнтральным беларускім выбарчым камітэце і якога ведаў як таленавітага публіцыста; Л. Радзевічам, вядомым тады паэтам і тэатральным дзеячам, а пазней членам рэдкалегіі тэарэтычнага органа ЦК КПЗБ часопіса «Бальшавік»; Арсенем Канчэўскім, вядомым у Вільні кааператарам, пазней членам ЦК КПЗБ, палымяным рэвалюцыйным барацьбітом. Гэта былі людзі шырокіх грамадскіх поглядаў, высокай асабістай культуры, шчыра адданыя справе вызвалення народа.

Тым часам унутры клуба беларускіх паслоў на працягу ўсяго 1924 г. адбываюцца сур'ёзныя спрэчкі па пытаннях стратэгіі і тактыкі вызваленчага руху, па пытаннях адносін да іншых партый. Разыходжанні адлюстроўвалі не толькі асабістую палітычную дасведчанасць таго ці іншага пасла, а перш за ўсё яго сацыяльна-класавую пазіцыю. Ф. Ярэміч і А. Станкевіч катэгарычна выступалі супраць кантактаў і блакіроўкі з любымі польскімі партыямі, у тым ліку і з левымі.

На сеймавай арэне гэтыя ўнутраныя разыходжанні праяўляюцца пакуль што не вельмі выразна. Беларускія паслы ў поўным узаемакантакце выступаюць з сеймавай трыбуны. Парламенцкае змаганне

працягваецца па ранейшай лініі — зямля, палітычныя правы сялян і рабочых, культурныя іх патрабаванні.

Выступленні Тарашкевіча ў сейме ў 1924 г. гаворыць аб паглыбленні сацыяльнага аналізу, аб росце яго аратарскага майстэрства.

У сваім выступленні з выпадку ўрадавай справаздачы прэм'ера Грабскага Тарашкевіч пераканаўча паказвае, што прычына цяжкага эканамічнага становішча краіны не ў кепскіх грашах, інфляцыі, а ў глыбокім эканамічным крызісе — хваробе, якая паралізуе гаспадарчае развіццё не толькі Польшчы, а і цэлага рада капіталістычных краін. Тут жа Тарашкевіч дае марксісцкі аналіз прычын гэтай ненармальнай з'явы. У сувязі з разглядам гаспадарчага становішча беларуекі пасол спыняецца над падатковай сістэмай, паказвае некаторыя абсурдныя моманты ў ёй, непасільнасць для бядняцкага сялянства і пралетарыяту. Гіпертрафія, неадпаведнасць розных частак бюджэта, асабліва вялізныя ваенныя расходы (57 працэнтаў), на думку Тарашкевіча, неабходны перш за ўсё для таго, каб «трымаць у паслухмянасці нацыянальныя меншасці — беларусаў і ўкраінцаў, весці іх дэнацыяналізацыю, каб эксплуатаваць працоўныя нізы польскага народа». У гэтай сувязі прамоўца гаворыць аб канкрэтных фактах праяўлення паліцэйскага тэрору на заходнебеларускіх землях. Сваё выступленне Тарашкевіч заканчвае словамі: «Свет ідзе налева — і сёння сейм гэты зрабіў бы найлепшую рэч, даўшы адстаўку пану Грабскаму, а заадно і сабе. Не маем таксама надзеі, што і будучы сейм здолее парламентарным шляхам вырашыць нашы справы». Гэта быў ужо пачатак новага падыходу да разумения беларускім грамадскім дзеячам задач палітычнай барацьбы, задач бягучага моманту яе.

Летам 1924 г. праз сейм Рэчы Паспалітай урадавая кааліцыя паспешліва працягвала праект так званых моўных законаў для нацыянальных меншасцей. Законапраект гэты быў падрыхтаваны эндэцкім урадам Грабскага не без націску мас, аднак разлічаны ён быў на дэзарыентацыю грамадскай думкі за мяжой. Трэба было стварыць бачымасць культурна-нацыянальных правоў і апекі для 40 працэнтаў няпольскага насельніцтва дзяржавы. Буржуазная прэса падняла вакол моўных законаў вялікі шум. У напышлівых і траскучых фразах аб стварэнні ўмоў культурна-нацыянальнага і палітычнага сужыцця народаў імкнуліся схаваць сутнасць новага закону, які аб'яўляўся вялікім дарам, узорам высокай дзяржаўнай мудрасці і г.д.

Камуністычная фракцыя, Беларускае і Украінскае сеймавыя прадстаўніцтвы выкрылі гэты намер кіруючых колаў як данайскі дар. У тым, што шырокія колы грамадскасці не толькі беларускай, але і

польскай адразу пазналі па-езуіцку ўкрытыя мэты і замеры буржуазных заканадаўцаў, — вялікая заслуга Тарашкевіча, які каменя на камені не пакінуў ад «моўнага законапраекта». Тарашкевіч даказаў, што пры існуючых сацыяльна-палітычных умовах у Польшчы і канкрэтуа на беларускіх і ўкраінскіх землях гутарка аб рэалізацыі нават такіх крывадушных уступак — палітычнае ашуканства, здзек.

Зыходзячы з канкрэтных фактаў суровай заходнебеларускай і заходнеўкраінскай рэчаіснасці, Тарашкевіч даў абагульненую гістарычную карціну палітычнага становішча працоўных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны 20-х гадоў: «Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна сілай зброі адарваны ад сваіх мацярынскіх рэспублік. Насельніцтва гэтых зямель, інкарпарыраваных у Рэч Паспалітую Польшчу, знаходзіцца ў становішчы, вартым жалю. Яго нішчаць матэрыяльна, у культурных адносінах і нават фізічна. Адбіраецца зямля, школа, яно беспакарана тыраніцца і катуецца. Дзяржава, якая не ўмее гарантаваць сваім грамадзянам элементарнай асабістай бяспекі, вымагае ад іх нязмерных падаткаў, а ў недалекім будучым, напэўна, і бязмерных паслуг крыві і ўсёй маёмасці». І далей, выклікаючы лютую нянавісць правых дэпутатаў сейма, Тарашкевіч спасылаўся на вырашэнне нацыянальнага пытання ў СССР, падкрэсліваў, якое вялікае значэнне мае гэта для працоўных Заходняй Беларусі, «І ў гэты час па той бок граніцы бальшавіцкі ўрад, хоць і не без вялікіх цяжкасцей, але адначасова з незвычайнай настойлівасцю будуе новы дом беларускай дзяржаўнасці... У такіх умовах Заходняя Беларусь і Украіна не могуць больш маўчаць і цярпліва пераносіць невыноснае становішча».

Вярнуўшыся яшчэ раз да ўкрытых мэт моўных законаў, Тарашкевіч гаварыў пра іх разлік на палітычнае ашуканства, і ў словах ягоных была яснага асабістых перакананняў, перакананняў усяго свайго народа.

З пазіцыі сацыяльных і нацыянальных інтарэсаў беларускіх і ўкраінскіх працоўных Тарашкевіч даў вострую водпаведзь польскім буржуазным палітыкам і культуртрэгерам, якія любілі спасылацца на сваю цывілізатарскую місію, на свой духоўны капітал, нібыта ўкладзены імі ў беларускія і ўкраінскія землі. Тарашкевіч бліскуча дэмаскаваў каланізатараў: «Паклікаецеся на традыцыі сваёй культуры на нашых землях, — звяртаўся ён да прадстаўнікоў польскай буржуазіі і абшарнікаў, — на сваю цывілізатарскую місію. Гэта вельмі добра. Але ваша шляхецкая традыцыя з'яўляецца для нас традыцыяй эксплуатацыі, гвалту і крывавай працы. ...Шляхціцам, здаецца, ніколі не абыходзіла цывілізацыйная місія, а толькі пэўная місія. І меў і мае тую

пэўную місію шляхціц з нашай працы, з нашых незлічоных бароў і лясоў.

Але, што шляхціц польскі, прыбыш ці спаланізаны, меў некалькі стагоддзяў пэўную місію з працы беларускага і ўкраінскага селяніна, то з гэтага, шаноўныя паны, яшчэ не вынікае ніякае для вас права ўласнасці ані на нашы землі, ані на нашы душы. Памятайце пра гэта! Усялякія прэтэнзіі на нас накшталт сённяшніх моўных законаў з абурэннем адкідаем».

І ўжо не без пачуцця гонару за свой народ і за яго палітычнае абуджэнне Тарашкевіч заяўляў: «Беларускі народ абудзіўся з векавога летаргічнага сну. Да ўсяго прыглядаецца ўважліва, крытычна і ведае, чаго хоча. Хто мае вушы, каб чуць, няхай прыпадзе да зямлі, то пачуе голас працоўнага люду. Ніякімі хітрымі законамі вы не ашукаеце!

Скажа, — верыў у канстытуцыю, ды гвалтам і здзекамі выбілі яе ў мяне з галавы, а цяпер, — скажа,— ведаю, што нам рабіць: выкінуць усю варварскую паліцыю, адміністрацыю, а разам з імі асаднікаў і памешчыкаў, утварыць свой рабоча-сялянскі ўрад, уласную адміністрацыю, школы і войска і адбудаваць непадзельную і суверенную Беларусь».

Праз год тыя палітычныя моманты, якія цяпер выступалі як намётка новай праграмы дзеянняў рэвалюцыйнай дэмакратыі, лягуць у аснову партыйнай праграмы Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

З часу абрання Тарашкевіча паслом сейма ўвесь свой творчы запал ён аддае палітычнай барацьбе. Яна захапляе яго цалкам, амаль засланяючы навуковыя і літаратурныя інтарэсы. Усё глыбейшым становіцца яго сацыяльна-палітычны аналіз грамадскіх адносін, расстаноўкі палітычных сіл у Польшчы. Нямала часу забіраюць паездкі па Заходняй Беларусі, дзе ён усё часцей выступае на мітынгах, сустракаецца з мясцовымі грамадскімі і культурна-асветніцкімі працаўнікамі. К гэтаму часу – ўжо складаецца самы цесны кантакт левага крыла Беларускага пасольскага клуба з масамі, якія аказалі ў свой час паслам шчыры і высокі давер. Працоўныя шлюць сваім абранцам лісты, тэлеграмы, у якіх паведамляюць аб фактах разгулу, сваволля мясцовых «кацыкаў» (бажкоў), аб патаптанні элементарных грамадскіх правоў насельніцтва з боку паліцыі, войтаў, секвестратараў і т.п.

Для расследавання злачынных дзеянняў турэмнай адміністрацыі, пастарунковай паліцыі паслы неаднаразова выязджаюць на месца. Тарашкевіча можна было сустрэць у розных кутках Заходняй Беларусі.

Часта прадстаўнікі працоўных самі прыязджалі ў сакратарыят БПК у Вільню, іншы раз надсылалі падрабязны матэрыял аб злоўжыванні і здзеках адміністрацыі.

Усе факты праследавання насельніцтва: беспадстаўныя арышты, біццё, звальненне рабочых і служачых па прычыне няпольскай нацыянальнасці, злоснае праследаванне беларускіх школ, апазіцыйнай прэсы і г.д. — афармляліся пасламі ў выглядзе інтэрпеляцый, запытанняў на імя міністра ўнутраных спраў, міністраў справядлівасці, працы, асветы. Надрукаваныя ў левай прэсе, інтэрпеляцыі гэтыя становіліся здабыткам шырокіх слаёў грамадскасці і тым самым набывалі агітацыйнае значэнне, уплывалі на складванне грамадскай думкі.

Нярэдка інтэрпеляцыі (было сярод іх нямала тэрміновых, з патрабаваннем ад урада даць неадкладна адказ) складаліся і падпісваліся сумесна з прадстаўнікамі ўкраінскага сеймавага прадстаўніцтва, яўрэйскага прадстаўніцтва, а таксама прадстаўнікамі левых польскіх сіл. Гэтыя інтэрпеляцыі — яскравы і непадробны дакумент эпохі. Праз некалькі год яны былі сабраны і выдадзены ў Савецкай Беларусі, у Мінску, і сталі здабыткам сусветнай прагрэсіўнай грамадскасці. Рэцэнзіруючы іх, орган чэхаславацкіх камуністаў — газета «Rude pravo» назвала зборнік «Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у польскім сейме 1922-1926 гг.» «крывавай кнігай» — такі страшэнны малюнак заходнебеларускага жыцця прадстаўляла яна перад светам.

У першыя гады сваёй парламенцкай дзейнасці пры ўсёй занятасці Браніслаў Тарашкевіч не пакідаў і навуковай працы. Перш-наперш ён імкнуўся закончыць пачатую яшчэ пасля напісання «Беларускай граматыкі» працу над сінтаксісам беларускай мовы. У выдадзенай у 1923 г. «Хрэстаматыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага на рэкламнай старонцы значыўся «Сінтаксіс беларускай мовы» Браніслава Тарашкевіча. У 1923 г. вучоны настойліва працаваў над падрыхтоўкай рукапісу да друку. Да гэтай працы ён вяртаўся і ў Вільні, і ў Варшаве, куды, ад'язджаючы на сеймавыя сесіі, браў з сабою рукапіс. Тарашкевіч адчуваў, ведаў, як важна ў пару станаўлення розных стыляў беларускай літаратурнай мовы даць ім натуральную народную аснову. Глыбокі знаўца народнай гаворкі, народна-паэтычнай творчасці, ён, трэба думаць, імкнуўся аформіць у граматычных правілах, улічыць спецыфіку, лад народнай, нацыянальнай мовы. На жаль, праца гэта не ўбачыла свет. Ужо амаль цалкам закончаная, яна згубілася дзесь у Варшаве, і хіба якая-небудзь зусім малаверагодная выпадковасць магла закінуць яе ў дзе-які архіў.

Па сведчанню Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай, у пачатку 20-х гадоў Браніслаў Тарашкевіч яшчэ снаваў планы напісаць кніжку пра

Георгія Скарыну, першадрукара, выдатнага беларускага асветніка-гуманіста. Кніжкі гэтай ён, аднак, не напісаў. Магчыма, палітычная барацьба, якая цалкам захапіла яго, магчыма, тое, што такая манаграфія ўжо выйшла ў Заходняй Беларусі, а ў дадатак з'явілася ў Савецкай Беларусі цэлая скарыніяна, Тарашкевіч абмежаваўся толькі рэфератам «Век Скарыны», зачытаным у сакавіку 1925 г. у Вільні на ўрачыстым пасяджэнні ў гонар скарынінскага юбілею.

Літаратурна-перакладчыцкая дзейнасць Тарашкевіча на нейкі час таксама была прыпынена.

Завяршалася першая чвэрць XX ст., барометр грамадска-палітычнага жыцця ў Заходняй Беларусі паказваў на буру. Вось-вось павінна была пачацца новая паласа нацыянальна-вызваленчага руху. Браніслаў Тарашкевіч акажацца ў самым цэнтры, на стрыжні гэтай магутнай рэвалюцыйнай плыні. Ён аддасць надыходзячаму ўздыму мас свой бліскучы талент арганізатара і прапагандыста, свой палымяны палітычны тэмперамент, чуццё байца і кіраўніка змагання. Усе іншыя інтарэсы — навуковыя, літаратурныя — у Тарашкевіча заўсёды падпарадкоўваліся патрыятычным пабуджэнням і як другарадныя ў новым гістарычным моманце будуць адсунуты на некалькі год назад. Адной вялікай мэце, адной волатаўскай рабоце — палітычнай асвеце заходнебеларускіх мас, мабілізацыі іх творчых сіл, згуртаванню пад адзіным сцягам сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы — цяпер была прысвечана ўся дзейнасць Браніслава Тарашкевіча.

Ужо ў сеймавай прамове ад 25 красавіка 1925 г. Тарашкевіч выразна накрэсліў новую тактыку і шляхі вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі. Кіраўнік беларускага парламенцкага прадстаўніцтва зрабіў агляд грамадска-палітычнага і сацыяльнага жыцця ў маштабе ўсёй Польшчы.

Развенчваючы беспадстаўны аптымізм прэм'ера, які меў звычку ўсе свае выступленні пачынаць словамі «Я вельмі шчаслівы...», Тарашкевіч гаварыў: «Бачым на працягу двух-трох гадоў, што пастаянна ёсць блага і не робіцца лепш, а ўсё пагаршаецца. Прошэ паноў, калі глянем на прамысловасць, гарады, то прамысловасць стаіць, лічба беспрацоўных увесь час расце. Да лепшага не ідзе. Гандлёвы баланс, платны баланс дзяржавы стала пагаршаецца. Польская буржуазія і польскае абшарніцтва прадае Польшчу. Прадае лясы, прадае капальні — усё, што можна прадаць, прадаецца... Капіталы ўцякаюць за мяжу. Калі глянем на вёску, то такой галечы, як цяпер, не бачылі нават у час вайны».

Ад агульнай карціны жыцця дзяржавы Тарашкевіч пераходзіў да паказу становішча, умоў жыцця ў Заходняй Беларусі, гаварыў, што ў

выніку імперыялістычнай палітыкі Польшчы захопленыя ёю беларускія землі перажываюць страшэнны гаспадарчы заняпад. Шляхі зносін, якія звязвалі з прамысловымі цэнтрамі, перарэзаны граніцамі, на месцы дрэваапрацоўчай прамысловасці няма, лес прададзены, але стаіць на пні.

Беззямельнае сялянства пры такіх умовах проста вымушана паміраць з голаду. Тарашкевіч паказвае няўменне буржуазіі кіраваць краінай у новых сацыяльна-эканамічных і палітычных умовах і падкрэслівае, тым самым гістарычную асуджанасць яе як класа.

Спыніўшыся на хвалі арыштаў у Заходняй Беларусі, Тарашкевіч выкрывае ілжывасць буржуазнай дэмакратыі. Аналізуючы факты палітычнага тэрору, ён дэмаскаваў дыктатуру буржуазіі і капіталістаў, сутнасць якой прыкрывалася напышлівымі словамі аб грамадзянскіх правах, аб свабодзе асобы. «Улада — гэта сотні, тысячы шпіёнаў. У кожнай вёсцы сядзіць некалькі тайных агентаў і дэфензіва ўсім кіруе. Дэфензіва судзіць, дэфензіва правіць», — гаварыў Тарашкевіч, і гэта не былі словы перабольшвання, якія кідаюць у палемічным запале. Гэта было перакананне, вынесенае з жыцця, з безлічы яго фактаў і праяў. Такой была буржуазна-панская рэчаіснасць. Тарашкевіч толькі абагульніў яе палітычную сутнасць.

Зжыўшы ўласныя ілюзіі ў дачыненні буржуазнай дэмакратыі, парламентарызму, Тарашкевіч хацеў да канца выкараніць іх і ў розных слаях грамадства. Праз галовы прадстаўнікоў пануючых класаў, праз галовы патэнтаваных сацыялістаў з ППС Тарашкевіч звяртаўся прама да працоўных: «Мы сёння павінны выразна сказаць свайму народу, разбіваючы гэтыя ўгодніцкія ілюзіі (ілюзіі, якія сеялі дробнабуржуазныя партыі, апартуністы з лагера правых сацыялістаў — А.Л.), што там, дзе кіруе буржуазія, дзе кіруе абшарніцтва, а яны фактычна кіруюць усім краем, не можа быць ні вызвалення, аніякіх нацыянальных правоў, ужо не кажучы аб аўтаноміі. Няхай селянін наш разумее, што толькі поўная змена ўрада, не ўрада тут, на гэтай лаве, але ўрада ва ўсім краі можа яму даць вызваленне. Менавіта такая змена, каб гэты ўрад быў сялянска-рабочы і каб узяў у свае рукі ўсю ўладу».

Тарашкевіч рашуча адкідае парламенцкі шлях барацьбы як асноўны, бо ісці па ім далей, па перакананню барацьбіта, — значыць ашукваць масы, воляй-няволяй іграць на руку буржуазіі. Углядаючыся ў перспектыву палітычнага развіцця краіны, Тарашкевіч адзначыў, што «беларускі селянін, беларускія працоўныя масы павінны ў гэтай барацьбе падаць руку ўкраінскім, польскім сялянам і ўсяму працоўнаму люду, бо толькі супольным фронтам — селянін поплеч з

селянінам, селянін поплеч з рабочым — на роўных правах могуць здабыць для сябе сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, вызваленне палітычнае і нацыянальнае адраджэнне».

У сувязі з наспяваннем рэвалюцыйнай сітуацыі Тарашкевіч лічыў неабходным перасцерагчы масы ад непадрыхтаваных, стыхійных выступленняў, якія ўрад мог бы выкарыстаць для расправы з самым дзейсным актыўным элементам. У ацэнцы вайны, гістарычнай ролі буржуазіі ён ужо цалкам зыходзіць з ленінскіх пазіцый, а больш канкрэтна — з палажэнняў, развітых Леніным у працы «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізму». «Кожны з нас ведае, што працоўныя не хочуць вайны, ненавідзяць вайну. Вайна для іх наогул ёсць найцяжэйшая рэч. Але, з другога боку, не можам ашукваць масы байкамі аб міры, бо ведаем, што буржуазія ўсяго свету рыхтуецца да вайны, што з'яўляецца яе пракляццем».

Далей Тарашкевіч спыняецца на аб'ектыўных прычынах, якія ва ўмовах капіталістычнага спосабу вытворчасці, імперыялістычнага падзелу свету непазбежна вядуць да ваеннага канфлікту. Буржуазія «можа даць сабе раду на некалькі год, але яна ўжо не ў сілах справіцца з эканамічным крызісам, які ахапіў увесь свет». Ён зазначае, што цяжка сказаць, як доўга гаспадарча-палітычная раўнавага будзе існаваць, але нельга не быць упэўненым, што «буржуазія нацыяналістычна настроеная, буржуазія, якая канкуруе між сабою, не здолее стварыць той арганізацыі прадукцыі, якая б прывяла да гаспадарчай раўнавагі і выключыла б на доўгі час канкурэнцыю... дала б магчымасць праз гэта ўнікнуць вайны... Бачым, што з фатальнасцю буржуазны свет коціцца да новай бойні, да новай вайны».

Развіваючы пункт гледжання класавага падыходу да вайны, Тарашкевіч ставіць задачу выхавання мас у духу інтэрнацыяналізму, у плане стаўлення іх да імперыялістычных войнаў як да войнаў, выключна варожых інтарэсам працоўных. «Да чаго павінны весці свае масы? — задаваў прамоўца рытарычнае пытанне.— Ці накшталт розных левых адвакатаў і экспертаў імперыялізму павінны заклікаць масы да так званай абароны айчыны, асабліва калі наша Айчына раздзелена?» І адказваў: «Не, павінны свае масы навучыць, што імперыялістычная вайка, якая праводзіцца ў мэтах здабычы, не ёсць вайна, праводзімая ў іх інтарэсах, а толькі ёсць вайна буржуазіі, што праводзіць імперыялістычную вайну ў мэтах падзелу, здабычы, дзеля новых калоній, дзеля заваёў чужых тэрыторый».

Такім чынам, к пачатку 1925 г. новы напрамак развіцця легальных форм вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі ўжо выразна вызначыўся. Рэальны практычны крок рэвалюцыйнай дэмакратыі

быў наканаваны. Два з лішнім гады парламенцкай барацьбы хоць і не беспаспяховай, але небагатай рэальнымі вынікамі быў за плячыма. За гэты час адбыліся значныя зрухі як унутры краіны, так і за яе межамі.

Расла прыцягальная сіла першай у свеце Краіны Саветаў, якая хоць і не без цяжкасцей, але паспяхова вырашала сацыяльныя, нацыянальныя праблемы, задачы дзяржаўнага будаўніцтва. І як палітыка і вучонага і перш за ўсё як адданага сына свайго народа Тарашкевіча захаплялі велізарныя змены на Усходзе.

З Мінска ў Заходнюю Беларусь рэгулярна прыходзілі многія перыядычныя выданні, кнігі беларускіх савецкіх паэтаў і пісьменнікаў. Цэлая плеяда прадстаўнікоў маладой беларускай паэзіі, натхнёнай, светлай, як перспектывы новага жыцця, загаварыла гучна, свежа, свабодна, і голас яе даходзіў праз мяжу. Заходнебеларускую інтэлігенцыю, студэнцкую моладзь не маглі не ўразіць тоўстыя фаліянты навуковых прац, якія пачалі выдаваць Інстытут беларускай культуры і Беларускі дзяржаўны універсітэт.

Браніслаў Тарашкевіч не мог не адчуваць, не бачыць, як моцна народ трымаў там уладу ва ўласных руках, як рупліва кіпела яго праца ва ўсіх галінах — і на фронце прамысловасці, сельскай гаспадаркі, і на культурнай ніве. Яго, хто песціў надзею на свабоднае развіццё ўсіх творчых, духоўных сіл роднага народа, не магло не ўразіць, не захапіць гэта новае станаўленне, гэты велічны пачатак.

Як у многім гэта прадвызначыла будучыню рэвалюцыйнай дэмакратыі Заходняй Беларусі, яе палітычныя шляхі, лёс!

Дробнабуржуазныя партыі ў Польшчы цалкам выкрылі сябе як згодніцкія, апартуністычныя, якія ўрэшце рэшт заўсёды ідуць за вярхамі, выконваюць іх волю. Элемент паслядоўна сацыялістычны выпаў з іх радоў і кансалідаваўся вакол Кампартыі. Рабочы клас Польшчы, вызваляючыся з-пад уплыву нацыяналістычных дробнабуржуазных партый, усё больш рашуча заяўляў аб сабе як аб сіле, здольнай супрацьстаяць націску буржуазіі, абшарнікаў і капіталістаў, здольнай узяць палітычную ініцыятыву ў свае рукі. Польскі пралетарыят недвухсэнсоўна выказаў свае сімпатыі нацыянальна прыгнечаным народам краіны — беларусам, украінцам, літоўцам. Ягоны авангард — КПП засведчыла, што глядзіць на нацыянальна-вызваленчы рух украінцаў і беларусаў як на рэальную сілу, надзвычай важны фактар вызваленчай пралетарскай справы ў Польшчы.

III з'езд КПП (сакавік 1925 г.) паставіў перад партыяй задачу заваявання на свой бок большасці рабочых і сялян усіх нацыянальнасцей, стварэння цеснага саюзу пралетарыяту с шырокімі сялянскімі масамі. Кіруючыся гэтым рашэннем, пераадолеўшы ў сваіх радах раскол-

нікаў і носьбітаў лявацкіх заскокаў з іх авантурыстычнай устаноўкай на неадкладнае паўстанне, Кампартыя Заходняй Беларусі ўзяла курс «на разгортванне масавага рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, на арганізаваны ахоп яго, на ўвязку яго з агульнапольскім рэвалюцыйным рухам».

Такім чынам, заходнебеларускія рэвалюцыйныя дэмакраты і камуністы самім аб'ектыўным ходам гістарычнага развіцця, логікай канкрэтных умоў былі пастаўлены перад неабходнасцю зрабіць адны другім рашучы крок насустрач.

Што датычыць лепшых прадстаўнікоў заходнебеларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі — Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы, Валошына і інш., то пераход іх на пазіцыі сацыялізма быў заканамерным працягам іх палітычнага развіцця, рашучай барацьбы за народныя інтарэсы. Вельмі моцна яны зрасліся з глебай, якая іх узняла як грамадскіх дзеячаў, глыбока праніклісся горам народным, лепшымі імкненнямі працоўных, каб цяпер пайсці на нейкі кампрамісны шлях, а не на той, што падказваў палітычны вопыт, сумленне, само жыццё. «Мы разумеем, што так ці іначай... будзе грамадская рэвалюцыя і толькі гэта сацыяльная рэвалюцыя можа даць нам палітычныя правы, прынесці... нацыянальнае адраджэнне і вызваленне. У імя гэтага высокага ідэалу будучыні, у імя сацыялізма павінны ісці да мас і ўзняць іх свядомасць»,— гаварыў Браніслаў Тарашкевіч вясной 1925 г., напярэдадні шырокага ўздыму нацыянальна- вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі.

## ГРАМАДОЎСКІ ЎЗДЫМ

Ідэя, якая насілася ў паветры, цяпер стала прама на парадак дня. У чэрвені 1925 г. у Беларускім пасольскім клубе адбыўся раскол. Левае крыло яго (дэпутаты Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётра Мятла, Павел Валошын) на чале з Браніславам Тарашкевічам выйшла са складу агульнай нацыянальнай фракцыі і заснавала асобны пасольскі клуб Беларускай сянска-работніцкай грамады.

Знешнім повадам для расколу ў беларускім нацыянальным прадстаўніцтве на сейме паслужыла вынясенне на парадак дня новага законапраекта зямельнай рэформы. Частка беларускіх паслоў, звязаная сацыяльнымі інтарэсамі з заможнымі вясковымі вярхамі, з кулацтвам, не жадала згадзіцца з тым, што ў падрыхтаванай камуністычнай фракцыяй сейма і Незалежнай партыяй хлопскай прапанове максімальны зямельны надзел быў гранічна абмежаваны. Так, прынамсі, тлумачыў повад расколу сам Браніслаў Тарашкевіч у газеце «Walka». Зразумела, што прычыны расколу ляжалі значна глыбей. Справа была ў прынцыповай розніцы поглядаў сацыялістычна настроеных дэпутатаў і іх калег па пасольскаму клубу на шляхі і метады вызваленчага руху, на некаторыя канчатковыя мэты яго. Шляхі беларускіх дэпутатаў усё больш разыходзіліся. Дыферэнцыяцыя наспявала няўхільна.

Натуральна, што новастворанае аб'яднанне беларускіх палітычных сіл, як і аналагічныя групоўкі польскія і ўкраінскія, шукала шляхоў узаемазбліжэння для сумеснай барацьбы з рэакцыйным лагерам. І для збліжэння ў іх была рэальная аснова — ідэнтычнасць поглядаў на сацыяльныя праблемы.

Асабістыя кантакты камуністычных паслоў, лідэраў НПХ і грамадоўцаў аблягчалі ідэалагічную і арганізацыйную сувязь паміж імі і партыямі, якія яны прадстаўлялі.

Вельмі дзейсную падтрымку пасольскі клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады з часу свайго заснавання адчуў з боку КПП і КПЗБ. ЦК Камуністычнай партыі Польшчы, Кампартыі Заходняй Беларусі і ЦК КПБ паслалі сваіх прадстаўнікоў у канцы лета 1925 г. у Гданьск для абгаварэння з лідэрамі БСР Грамады пытанняў, звязаных з нацыянальна-вызваленчым рухам. Кампартыя ў плане рашэнняў III з'езду аб выкарыстанні ўсіх легальных форм барацьбы за масы ўдзяляе Грамадзе асабістую ўвагу.

Ужо ў чэрвені 1925 г. камуністычная пасольская польская фракцыя, НПХ і грамадоўцы ідуць у сейме адзіным блокам. Ад імя гэтага новага рабоча-сялянскага блока выступіў Тарашкевіч з прапановай

рэвалюцыйнага па сваёй сутнасці метаду рашэння зямельнага пытання: «Мы ўносім сваю прапанову, якая абапіраецца на тры пункты: зямля без выкупу, без кампенсацыі; падзел зямлі сялянскімі камітэтамі; максімум ад 30 да 60 га.

Толькі такая рэформа сапраўды дасць зямлю сялянскім масам і стане падставай для адбудовы новай грамадскай структуры, абароніць нас ад асадніцтва і стане асновай сапраўды братэрскага ўзаемаразумення народаў».

Грамадоўскі лідэр, зразумела, не разлічваў, што гэта прапанова можа сустрэць падтрымку ў пераважнай большасці сейма. Яму як прадстаўніку толькі што заснаванай радыкальнай арганізацыі было важна заявіць аб адным з асноўных палажэнняў праграмы яе, вельмі важна было сказаць масам, дзеля чаго іх заклікаюць аб'ядноўвацца ў радах БСР Грамады.

Зразумела, аддача селяніну зямлі хоць і была адной з самых актуальных задач, якія ставілі перад сабою рэвалюцыйныя дэмакраты Заходняй Беларусі, хоць барацьбе за зямлю яны аддавалі шмат сіл і энергіі, усё ж ніяк нельга лічыць гэту задачу асноўнай, тым больш канчатковай іх мэтай.

Браніслаў Тарашкевіч і ўсе лепшыя прадстаўнікі рэвалюцыйнай дэмакратыі разумелі, што зямля з'яўляецца тым рычагом, абапіраючыся на які можна ўзняць шырокія масы на сапраўдную барацьбу і ўжо ў ходзе яе, яшчэ больш палітычна ўсвядоміўшы народ, здзейсніць усе палітычныя і сацыяльныя мэты — заваяваць сацыяльную і нацыянальную свабоду. Аб тым, што ў аснове нацыянальна-вызваленчага руху ў калоніях — у Індыі, Егіпце і г.д. ляжала аграрная праблема, заходнебеларускія рэвалюцыянеры добра ведалі, спасылаліся на гэта ў сваіх публіцыстычных выступленнях.

У ліпені 1925 г. буржуазна-памешчыцкі блок апошні раз спраўляў хаўтуры зямельнай рэформе. Камуністы і радыкалы вырашылі да канца выкрыць перад працоўнымі палітычныя мэты і класавыя матывы кіруючых вярхоў.

Сеймавая трыбуна стала арэнай самай вострай палітычнай схваткі. У дыскусіі па землеўпарадкаванню выступілі ўсе чатыры грамадоўскія паслы, дэпутаты НПХ, украінскія радыкалы і камуністычныя дэпутаты. Амаль да адзінага прамаўлялі і ўсе члены БПК.

Адным з першых у дыскусіі слова ўзяў Тарашкевіч. Каланіялізм, вялікадзяржаўныя імкненні польскай буржуазіі і абшарніцтва, жаданне чаго б там ні каштавала захаваць буйное землекарыстанне ў краіне — мэты і матывы, з-за якіх, на думку Тарашкевіча, сеймавая большасць так настойліва спяшалася пахаваць зямельную рэформу.

Выкрывальніцкі агонь, абурэнне Тарашкевіч абрушыў на парламентарызм, які стаў шырмай для буржуазнай дыктатуры. «Край зразумеў, — гаварыў пасланец Заходняй Беларусі, — што ў гэтай палаце адбываецца паміж толькі на выгляд варожымі партыямі сапраўдная картачная гульня, гульня памечанымі картамі, свайго роду Comedia del artae. Comedia del artae, уступіўшы месца драме, сышла са сцэны на парламенцкія трыбуны і на працягу XIX ст. пажынала вялікія трыумфы, мела заслужаны поспех».

Са з'едлівай іроніяй скідае Тарашкевіч шаты, якімі на працягу пяці год польская буржуазія, абшарнікі і іх прыслужнікі прыкрывалі свае класавыя інтарэсы, ашуквалі сялянства абяцанкамі даць, нарэшце, зямлю.

17 ліпеня Тарашкевіч выступіў з пратэстам супраць законапраекта аб парцэляцыі і асадніцтве. «Рашучая барацьба за зямлю ўваходзіць у новую фазу. Сейм зямлі сялянам не даў і не дасць. Зямлю сяляне павінны ўзяць і возьмуць яе самі», — такімі словамі закончыў ён сваю заяву ад імя толькі што створанага рабоча-сялянскага блока.

Гаворачы аб аграрнай праблеме, Тарашкевіч адначасова выражаў свой погляд на задачы легальнага вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, на чале якога станавілася БСР Грамада. Па сутнасці Тарашкевіч звяртаўся з наказам да мас: «Уся памешчыцкая і царкоўная зямля з будынкамі і інвентаром павінна быць канфіскавана без кампенсацыі і бясплатна падзелена сялянскімі камітэтамі паміж беззямельным і малазямельным насельніцтвам. Тварыць сялянскія камітэты — гэта наказ моманту».

Далей грамадоўскі лідэр акрэслівае яшчэ паўней, аб'ёмней ролю сялянскіх камітэтаў. На яго думку, сялянскія камітэты павінны аб'ядноўваць масы на аснове барацьбы іх за свае самыя надзенныя інтарэсы і тым самым практычна і непрыкметна ўцягваць усё шырэйшыя слаі іх у змаганне, канчатковая мэта якога — сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Сялянскія камітэты ўяўляліся Тарашкевічу нечым накштalт Саветаў сялянскіх дэпутатаў. «Стварыць сялянскія камітэты для масавай барацьбы за зямлю для сялян без выкупу, для барацьбы з разбазарваннем зямлі невялічкай жменькай вясковых багатыроў, для барацьбы з падатковым прыгнётам, для барацьбы супраць уціску і гвалтаў паліцыі, для арганізацыі мас пад знакам змагання за рабоча-сялянскі ўрад» — так канкрэтызаваў Браніслаў Тарашкевіч задачы гэтых камітэтаў.

Як агульныя цэнтры каардынацыі ўсёй зямельнай справы прапаноўвалася стварыць «галоўныя сялянскія камітэты Заходняй

Украіны і Заходняй Беларусі, выбраныя з'ездамі дэпутатаў павятовых сялянскіх камітэтаў».

Тарашкевіч падкрэсліваў, што палітыцы, «каланізатарскай і паланізатарскай, якую праводзяць пануючыя класы Польшчы, працоўныя ўсіх нацыянальнасцей павінны супрацьставіць класавую салідарнасць — гарант поспеху ў барацьбе. Зямля на тэрыторыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі з'яўляецца спрадвечнай уласнасцю мясцовых сялян, з дапамогай сілы вырваная ў іх шляхтай. Зямлю гэтую беларускія і ўкраінскія працоўныя масы вернуць у саюзе з польскімі сялянамі і рабочымі і патрапяць яе абараніць перад усімі замахамі абшарніцтва і буржуазіі».

Сваё выступленне Тарашкевіч закончыў словамі: «Да вызвалення вядзе адзіны шлях бязлітаснай барацьбы».

У пачатковы перыяд існавання БСР Грамады кіраўніцтва яе побач з узмацненнем агітацыйнай кампаніі праз сеймавую трыбуну ўзяло ўстаноўку на разгортванне культурна-масавай работы. Як відаць з пратаколаў першых сходаў нізавога звяна Грамады — гурткоў, члены іх (сябры) чыталі і абмяркоўвалі выступленні сваіх паслоў у сейме, палітычнае становішча ў краіне і, як правіла, прымалі рэзалюцыі аб стварэнні бібліятэкі, аб арганізаванай барацьбе за беларускую школу. На гэтыя мэты збіраліся ахвяраванні і адлічвалася значная частка (да 40 працэнтаў) партыйных узносаў.

Орган Грамады «Беларуская ніва» становіцца люстрам росту грамадскай актыўнасці мас і адначасова рычагом уздыму гэтай актыўнасці. На старонках газеты ўсё паўней пачынаюць адлюстроўвацца настроі шырокіх мас, іх патрабаванні, іх барацьба. «Беларуская ніва» грунтоўна інфармуе чытача аб рабочым руху ў Польшчы і за мяжой.

Летам і восенню 1925 г. БСР Грамада правяла шырокую кампанію барацьбы за нацыянальную школу. На аснове моўных законаў была разгорнута шырокая акцыя падачы заяў ад імя бацькоў з патрабаваннем адкрыцця школ з выкладаннем на роднай мове. Кампартыя Заходняй Беларусі актыўна падтрымала гэты масавы рух працоўных. Яна выпусціла адозвы да працоўнай інтэлігенцыі, рабочых і сялян з заклікам байкатаваць польскую клерыкальную школу, змагацца за свае правы на культурна-нацыянальнае развіццё.

У студзені 1926 г. было пададзена 16 тысяч заяў аб адкрыцці больш 400 беларускіх школ. Польская асветніцкая адміністрацыя, аднак, злосна ігнаравала гэта імкненне заходнебеларускіх працоўных. Адбылося тое, аб чым гаварыў у сейме Тарашкевіч, — заявы клаліся пад сукно, актывістаў паліцыя арыштоўвала. Адміністрацыя злосна

прагнула знішчыць беларускую школу як асяродак, у якім маглі рыхтавацца кадры свядомых барацьбітоў з акупацыйным рэжымам.

Ужо на пачатку сваёй дзейнасці грамадоўцы вымушаны былі распачаць барацьбу з новаўтворанай групоўкай дробнабуржуазнага напрамку, узначаленай пасламі Рагуляй і Ярэмічам. Выступаючы як прадстаўнікі заможнай кулацкай часткі беларускай вёскі, Ярэміч і Рагуля ідэалагічна супрацьпаставілі Грамадзе Беларускі сялянскі саюз (БСС). У першым жа нумары свайго перыядычнага органа — газеце «Сялянская ніва» яны выступілі з праграмнай заявай, у якой прапаведавалі супрацьлегласць і нават варожасць інтарэсаў сялян і працоўных горада. Супраць гэтай ілжывай прапаганды, супраць гэтага мяшчанства ў палітыцы выступіла «Беларуская ніва». Тарашкевіч спяшаўся растлумачыць масам і некаторым грамадскім дзеячам, не вельмі спрактыкаваным у палітычнай барацьбе, вялікую шкоднасць падобных ідэй, іх класавую сутнасць. Ён даказваў, што «калі паміж сялянамі і рабочымі не стаіць пасрэднік: фабрикант, абшарнік, гандляр, там, дзе гаспадарчым жыццём кіруе супольная воля сялян і работнікаў (як у СССР. — А.Л.), там ніякае супярэчнасці паміж інтарэсамі іх няма і быць не можа. Працоўная вёска і працоўнае места ўзаемна неабходны, узаемна зацікаўлены ў росквіце места і вёскі».

Браніслаў Тарашкевіч паказвае, што сялянскі рух заўсёды цярпеў паражэнне якраз з-за таго, што ў час не меў падтрымкі з боку працоўнага горада. Пры гэтым ён завастрае ўвагу на тым, што і «ў беларускім адраджэнні найвялікшай нястачай з'яўлялася дый у Заходняй Беларусі з'яўляецца і цяпер! — акурат тое, што беларускія сілы ў месце слабыя... Заваяванне места для беларускай справы (справы сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення беларускіх мас. — А.Л.) настолькі важнае, што аб гэтым не могуць не ведаць тыя, хто маніцца быць павадыром нашага сялянства!»

Патрэба ў выкрыцці дробнабуржуазнай ідэалогіі, у якой эклектычна спалучаны эсэраўскія і нацыяналістычныя ўстаноўкі, ва ўмовах сялянскай Заходняй Беларусі была асабліва важнай. Не выпадкова КПЗБ і БСР Грамада увесь час удзялялі неаслабную ўвагу палеміцы з «сельсаюзнікамі» і беларускімі «хадэкамі», якія ўтварылі супольную платформу ў сваіх атаках на ідэалогію Кампартыі і Грамады.

Неабходна, аднак, заўважыць, што спачатку Тарашкевіч яшчэ не бачыць да канца, што дэалогія кіраўнікоў БСС выяўляе ўжо не толькі палітычную недасведчанасць лідэраў, а зусім асобны напрамак у лагеры вызваленчага руху, гэта пачатак першаму буйнаму разлому у яго радах, бо да ўтварэння БСР Грамады нацыянальна-вызваленчы

фронт вызначаўся пэўнай маналітнасцю. Усе заходнебеларускія палітычныя групоўкі, не лічачы мізэрнай групкі палітычных спекулянтаў тыпу Алексюка, Паўлюкевіча, Вернікоўскага і да іх падобных, знаходзіліся роўна ў апазіцыі да ўлады, і гэта прадрашала ў многім іх унутраныя супярэчнасці.

Цяпер жа барацьба распачыналася ўнутры вызваленчага фронту. Адбывалася яго палітыка-сацыяльная дыферэнцыяцыя. Пачыналася барацьба за масы. Па гэтай лініі БСР Грамада пры падтрымцы КПП і КПЗБ зробіць вельмі многа.

III канферэнцыя КПЗБ, якая адбылася ў самым пачатку 1926 г., нацэліла партыю на «збіранне ўсіх сіл пралетарскага, сялянскага і нацыянальнага руху Заходняй Беларусі шляхам прымянення тактыкі адзінага фронту на аснове частковых, самых актуальных патрабаванняў рабоча-сялянскіх мас».

У тэзісах аб палітычнай сітуацыі і задачах партыі, прынятых IV канферэнцыяй КПП і III канферэнцыяй КПЗБ, былі акрэслены задачы на бліжэйшае будучае. Партыя выступала супраць падпарадкавання Польшчы іншаземнаму капіталу, за эканамічнае збліжэнне з СССР, супраць палітыкі ўзбраення, за адмену надзвычайнага становішча і звальнення палітвязняў, за захаванне дэмакратычных свабод і г.д.

У рабочым пытанні партыя змагалася за 8-гадзінны рабочы дзень і павышэнне заработнай платы, супраць выкідвання мясцовых рабочых з фабрык і заводаў, за павелічэнне дапамогі беспрацоўным. У сялянскім пытанні яна выступала за канфіскацыю памешчыцкіх, царкоўных і казённых зямель і перадачу іх мясцоваму сялянству праз сялянскія камітэты, за адмену закону аб парцэляцыі і асадніцтве, за вызваленне беднаты і серадcommittee ад падаткаў, супраць пазбаўлення сялян права на карыстанне сервітутамі і інш. У нацыянальным пытанні партыя вяла барацьбу за права Заходняй Беларусі на самавызначэнне, за дзяржаўную школу на род- най мове, за дапушчэнне ва ўсе ўстановы беларускай і іншых нацыянальных моў, супраць пазбаўлення працы служачых няпольскай нацыянальнасці, супраць праследавання прэсы нацыянальных меншасцей, супраць паланізацыі беларускага насельніцтва праз касцёлы і цэрквы.

Важнай заслугай III канферэнцыі КПЗБ з яўлялася тое, што яна нацэліла камуністычную арганізацыю Заходняй Беларусі на стварэнне саюзу рабочага класа і сялянства, на мацаванне саюзу працоўных усіх нацыянальнасцей, на разгортванне шырокага фронту нацыянальна-вызваленчага руху. У рабоце III канферэнцыі КПЗБ Браніслаў Тарашкевіч удзельнічаў ужо як член Кампартыі.

Эвалюцыя яго светапогляду скончылася прыходам прызнанага дзеяча нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі ў КПП — адзін з атрадаў сусветнага пралетарскага руху.

III канферэнцыя КПЗБ адбылася напярэдадні важных падзей. Класавыя баі станавіліся ўсё больш абвостранымі. Працоўная Заходняя Беларусь, як і пралетарская Польшча, дэманстрацыямі і мітынгамі шырока адзначыла 1 Мая 1926 г. Выступленні заходнебеларускіх рабочых і сялян прайшлі ў асноўным пад лозунгамі КПЗБ і БСР Грамады. «Чырвоны сцяг» (орган ЦК КПЗБ) і «Беларуская справа» (орган ЦК Грамады) далі шырокую інфармацыю аб першамайскім святкаванні ў Заходняй Беларусі і ва ўсёй краіне. «Беларуская справа» ў заметцы Крывавы дзень у Вільні» падрабязна апісала маніфестацыю віленскага пралетарыяту і сутычку рабочых з фашысцкімі пагромшчыкамі (bojuwkami), нацкаванымі манархічнай буржуазна-абшарніцкай прэсай. Услед за пралетарыятам Варшавы, Лодзі, Львова класавую салідарнасць, узрослую свядомасць пераканаўча прадэманстравалі ў першамайскія дні 1926 г. працоўныя Беластока, Баранавіч, Гродна. Святочныя мітынгі і дэманстрацыі адбыліся нават у заштатных мястэчках Заходняй Беларусі. Палітычнаму ўздыму мас моцна садзейнічаў прамысловы і фінансавы крызіс, які патрасаў увесь дзяржаўны арганізм Польшчы і які буржуазія імкнулася беспаспяхова пераадолець перастаноўкай урадавых кабінетаў. К маю 1926 г. крызіс эканамічны і палітычны яшчэ больш абвастрыўся. Паў урадавы кабінет Скшынскага, які толькі ў канцы 1925 г. замяніў урад Грабскага. Услед за Скшынскім прэм'ерам быў назначаны Вітас, лідэр партыі «Пяст». Унутранае становішча краіны заставалася катастрафічным. Прамысловасць занепадала, расло беспрацоўе. Злоты падаў у цане. Залаты запас раставаў, як веснавы снег. Замежны капітал заваёўваў у краіне ключавыя эканамічныя пазіцыі.

Каб пакрыць плацяжы замежнай пазыкі, мацней заціскаўся падатковы прэс, увесь цяжар якога непасрэдна клаўся на плечы рабочасялянскіх мас. Памешчыкі аб'яўлялі сябе «сапраўднымі жабракамі». Тарашкевіч, між іншым, патрабаваў у сейме выдаць антыжабрачы закон супраць іх.

Кіруючыя вярхі, ахоўваючы свае класавыя інтарэсы, «даравалі» ім падатковую запазычанасць. Кіруючыся такім жа імкненнем захаваць капіталістаў ад разбурэння, сейм пад націскам справа прымаў рашэнні даравання нядоімкі паасобным прадпрыемствам. Польскія тавары не вытрымлівалі ніякай канкурэнцыі на міжнародным рынку, і некаторыя патэнтаваныя сацыялісты дагаварыліся да таго, што, маўляў, польскія рабочыя павінны працаваць звыш нормы дзеля таго,

каб польскія тавары здолелі вытрымаць канкурэнцыю з вырабамі англійскіх, нямецкіх, французскіх фірм.

У гэтых абставінах рэакцыйныя сілы актывізавалі сваю дзейнасць. Самыя крайнія летуцелі аб манарху («крулю»), сярод вайскоўцаў і дробнай буржуазіі было нямала прыхільнікаў маршалка Пілсудскага. Над краінай усё больш выразна навісаў цень дыктатара. Тарашкевіч ускрыў адну з асноўных прычын гэтай катастра- фічнасці: «З крывава заробленых масамі грошай вялізныя сумы ідуць на армію, бо гэтага вымагае праводзімая ўрадам імперыялістычна-захопніцкая палітыка. Велізарныя сумы ідуць на ўтрыманне паліцыі, таму што буржуазна-памешчыцкі ўрад вядзе барацьбу з прыгнечаным класам, з украінскім і беларускім народамі. Гэта падвойнае наступление ўрада, унутранае і знешняе, для якога патрэбны вялікія кадры войска і паліцыі, пажырае больш чым палавіну дзяржаўных даходаў. Усе «крэсы», калі не ўся Польшча, без перабольшвання, з'яўляюцца суцэльнай турмой для сялян і рабочых, для беларускай, украінскай і літоўскай інтэлігенцыі, якая працуе над культурным і грамадскім адраджэннем і вызваленнем сваіх народаў. Паліцыя яўная і тайная, як саранча, апанавала ўвесь край, сеючы проста нечуваны варварскі жах і тэрор».

Характарызуючы палітыку правячых колаў Польшчы, Тарашкевіч адзначаў спецыфіку палітычнага моманту, якая, на яго думку, заключалася ў тым, што «масы даведзены да апошняй тупені галечы, цярпенне іх амаль вычарпана». Ён выкрываў палахлівасць буржуазіі, імкненне яе ўтаіць сапраўдны стан рэчаў. Ён адзначаў важнасць гістарычнага моманту. «Набліжаецца пераломны момант, і працоўныя масы стануць перад дылемай: ці Польшча з'яўляецца калоніяй іншаземнага капіталу, а працоўны люд ператворыцца ў рабочую жывёлу капіталістычных плантатараў, або стырно палітыкі павінен урэшце ўзяць сялянска-рабочы ўрад, які вызваліць працоўныя масы з пут галечы і эксплуатацыі і дасць свабоду прыгнечаным народам. Альбо альбо. Tertium non datur. Іншага шляху няма. Польская буржуазія, аднак, баіцца адсланіць гэту праўду перад грамадскасцю, свядома ашуквае працоўныя масы, каб усыпіць іх пільнасць і загамаваць актыўнасць».

Аднак працоўныя не здолелі выкарыстаць рэвалюцыйную сітуацыю. На гэты раз польскую буржуазію і абшарніцтва адратавала ваеншчына, выратаваў Юзэф Пілсудскі.

12-13 мая Варшава была сведкай зацятых баёў паміж прыхільнікамі прэзідэнта Вайцэхоўскага і вайсковымі часцямі, адданымі маршалку Пілсудскаму. Урад Вітаса быў нізложаны. Пераможца заявіў аб сваім намеры неадкладна аздаравіць грамадскае жыццё Польшчы.

Гэта была тая моцная асоба, якой чакалі, на якую спадзяваліся правыя групоўкі ў дзяржаве.

Узяўшы ўладу ў свае рукі, Пілсудскі не спяшаўся выходзіць на авансцэну. Адразу ён не займаў пасады ні прэм'ера, ні прэзідэнта, а высунуў на кіруючыя пасты сваіх людзей. Сам жа стаў за іх спіной. Прэм'ерам быў абраны пілсудчык Бартэль, якога Тарашкевіч трапна ахрысціў пад выбух смеху ўсіх паслоў «віцэ-дзядкэм» («дзядэк» — так інтымна называлі Пілсудскага яго прыхільнікі. — А.Л.). Пасаду прэзідэнта заняў таксама стаўленік дыктатара прафесар Масціцкі. Як адзначалася ў паведамленні сеймавага клуба БСР Грамады аб удзеле ў выбарах прэзідэнта Польскай рэспублікі, беларускія і ўкраінскія паслы падалі свае галасы за доктара Федаркевіча, каб «гэтым адзначыць нашу салідарнасць з працуючымі масамі Польшчы ў змаганні з польскім капіталізмам і абшарніцтвам»[4].

Урад Пілсудскага, пакуль становішча яго было недастаткова моцнае, не паскупіўся і на жэсты ў бок нацыянальных меншасцей. Старашляхецкі федэраліст яшчэ фліртаваў, не перастаў марыць аб федэрацыі. Зразумела, яго абяцанкі ўступак у нацыянальным пытанні, як і ўвогуле сацыяльная дэмагогія, не маглі дэзарыентаваць левыя сілы. У далейшым яму ўдалося пераманіць на свой бок толькі мізэрную кучку прадстаўнікоў беларускай буржуазіі і кулацтва, якая намагалася стварыць праўрадавую арыентацыю і стала заснавальніцай сумнай памяці «беларускай санацыі».

Неабходна, аднак, адзначыць, што ў першы момант БСР Грамада ўслед за Кампартыяй Польшчы дапусціла памылку ў ацэнцы майскага перавароту. Яна памылкова ўспрыняла яго як бунт дробнай буржуазіі супраць буйной. Праўда, трэба сказаць, да гонару левых партый, што свой промах яны адразу ж выправілі і заклікалі масы да барацьбы з дыктатурай.

Як і трэба было чакаць, Пілсудскі павёў наступленне на грамадзянскія правы, на правы парламента. Праз месяц пасля майскага перавароту ён запатрабаваў ад сейма паправак да канстытуцыі.

Пілсудскі і пілсудчыкі патрабавалі ні многа ні мала — прадстаўлення прэзідэнту паўнамоцтваў на роспуск сейма. Камуністычныя паслы, грамадоўцы і паслы НПХ выкарысталі гэту прапанову ўрада Бартэля, каб раскрыць перад шырокай грамадскасцю, перад усімі працоўнымі масамі змову рэакцыі — усталяванне адкрытай дыктатуры асабістай

---

[4] А. Федаркевіч цяпер жыве ў Варшаве. У 1959 г. апублікаваў кнігу ўспамінаў з 1922-1927 гг. пад назвай «Dobre czasy», у якой расказвае і пра памятныя, поўныя рэвалюцыйнага пафасу сеймавыя прамовы Тарашкевіча.

улады. Прасочваючы гнасеалогію развіцця буржуазнай дэмакратыі ў Польшчы, Тарашкевіч асудзіў буржуазны парламент, буржуазныя «свабоды» як сродак пануючых класаў утрымаць сваё панаванне, як завуаляваную форму буржуазнай дыктатуры. Адначасова лідэр Грамады ўскрываў усю палітычную падаплёку сэнсу майскіх падзей: «Буржуазія, польская шляхта, абшарнікі, фабрыканты сталі непадзельнымі гаспадарамі ладу і няладу ў Рэчы Паспалітай. Дабраліся, аднак, да гэтай улады вельмі хітра і асцярожна, разумеючы, што адразу так не варта паказваць кіпцюроў, што любой цаной яны пад пагрозай страты сваіх маёнткаў, сваіх фабрык і нават свайго жыцця павінны ўтрымацца на хвалях надыходзячай рэвалюцыі. Адразу ж пачалі радзіцца, вельмі асцярожна і вельмі ўвішна шукаць дошкі ратунку. Гэтай дошкай ратунку, вельмі шырокай і здольнай працяглы час трымаць панаванне буржуазіі, была парламенцкая дэмакратыя».

Тарашкевіч з'едліва паказвае, як «тварылі» канстытуцыю буржуазнай Польшчы, што яна сабою прадстаўляе ў сапраўднасці: «Канстытуцыя была толькі шыльдай, засталася толькі той глінянай статуяй, у якую не ўдыхнута жыццё. За гэту статую станавіліся, калі было трэба, каб захаваць свае ўладанні і фабрыкі. І вось прыйшлі майскія дні. Гарматы Пілсудскага скрышылі гэту статую без вялікай цяжкасці».

Палемічны гнеў, публіцыстычны запал Тарашкевіча абрушваецца на дыктатара, на яго гульню ў дэмакратыю, на імкненне ўкрыць сутнасць неабмежаванай улады канстытуцыйнымі махінацыямі: «Нікому не сакрэт, што ўся ўлада ў руках Пілсудскага, што Пілсудскі de facto з'яўляецца неабмежаваным дыктатарам, што сейм неўпаўнаважаны, сейм... паслухмяна галасуе пад свіст нагайкі дыктатара. Нашто ж больш тая канстытуцыя, нашто ўсе гэтыя гаварэнні, гэта прытворства. Знешнасць падманлівая і ўласна на тое патрэбна, каб увесці ў зман шырокія масы працоўнага люду, зрабіць выгляд, што нібыта ізноў ёсць дэмакратыя, што ніякай рэвалюцыі не трэба, што адбылася рэвалюцыя без рэвалюцыйных вынікаў».

Самае важнае ў антыдыктатарскай прамове Тарашкевіча было паказаць на тых, хто стаіць за плячыма Пілсудскага, каму патрэбны папраўкі да канстытуцыі. Грамадоўскі лідэр спецыяльна спыняецца на міжнародным аспекце ўстанаўлення дыктатуры ў Польшчы: «Каму гэта патрэбны ўсялякія змены ў напрамку ўмацавання ўлады? Першнаперш усяму праваму лагеру, які выступае як прастаўнік так званых гаспадарчых сфер, як прадстаўнік капіталістаў, абшарнікаў. Далей, яшчэ патрэбна гэта дыктатарская ўлада прэзідэнта і ўрада іншаземным капіталістам, якія шукаюць у Польшчы выгаднага прылажэння свайму капіталу, калоніі».

Тарашкевіч прама ўказвае на франка-англійскі і амерыканскі імперыялізм, які ў палітычных і эканамічных мэтах аказвае падтрымку дыктатарскаму рэжыму ў Польшчы: «Польскую буржуазію, якая прайграла ў гэтай палітычнай гульні, не могучы даць сабе рады, сёння ратуе еўрапейская буржуазія, буржуазія амерыканская, відавочна, у сваіх уласных інтарэсах, а не ў інтарэсах Польшчы ці ў інтарэсах польскага працоўнага люду. Хоча няшмат. Усяго толькі, каб была «моцная ўлада», улада, неабмежаваная парламентам, каб не трэба было размаўляць з парламентам, а ўсяго толькі з пэўнай групай ці з адным чалавекам».

На канкрэтных фактах заходнебеларускай рэчаіснасці, палітычнага жыцця ва ўсёй Польшчы (Тарашкевіч гаворыць аб судах пры закрытых дзвярах, аб распаясанні ваеншчыны на крэсах і г. д.) кіраўнік Грамады паказвае ўсю ілжывасць слоў аб роўных правах, аб палітычных свабодах, нібыта гарантаваных канстытуцыяй.

Ад уздыму рэвалюцыйных настрояў мас, ад іх шырокага грамадскага ўсведамлення, ад іх жыватворнага аптымізму браў Тарашкевіч веру ў перамогу працоўных, у сацыялізм на гэтым гістарычным раздарожжы даваеннай Польшчы. Ён звяртаўся да народа з пазіцый марксіста-ленінца: «Сапраўднай перамогай для працоўных будзе не тое ці іншае паляпшэнне канстытуцыі, але ўзяцце ўлады, стварэнне рабоча-сялянскага ўрада, стварэнне ўрада на аснове працоўнай дэмакратыі, а не на аснове парламентарна-дэмагагічнай балбатні.

Аж да таго часу, пакуль уся ўлада не пяройдзе ў рукі сялян і рабочых, ніякая пісаная канстытуцыя не забяспечыць іх інтарэсаў».

Якраз у дні майскага перавароту ў Вільні на расшыраным пасяджэнні рады Грамады з прадстаўнікамі гмінных і павятовых камітэтаў яе былі прыняты праграма і статут Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Праект праграмы за месяц да таго быў апублікаваны ў красавіцкім нумары «Бюлетэня БСРГ». З гэтага выпадку «Беларуская справа» ад 23 красавіка 1926 г. пісала: «Мала таго, каб вёска пазнаёмілася з намечанай яе павадырамі праграмай: трэба, каб яна крытычна аднеслася да гэтае праграмы, каб падала свой погляд на праграму ў цэлым і на паасобныя пункты яе. Мы ахвотна дамо месца гэткім водгукам... і заклікаем сялян і работнікаў прысылаць свае думкі і заўвагі...»

У праграме БСР Грамады, складзенай у сваёй аснове Тарашкевічам, перш за ўсё былі акрэслены агульныя нацыянальна-вызваленчыя мэты і задачы. Грамада зыходзіла з самавызначэння народаў.

Палітычныя і нацыянальныя імкненні беларускіх працоўных былі акрэслены формулай: «Усе беларускія землі павінны быць злучаны:

аб'яднаны ў адну незалежную рэспубліку пад уладай сялян і рабочых». Асноўная маса заходнебеларускага сялянства і рабочых, а таксама працоўнай інтэлігенцыі разумела гэты момант як далучэнне сваіх зямель да БССР. Так разумела гэты параграф большасць лідэраў БСР Грамады. Прынамсі, грамадоўскі друк прызнаваў БССР, урад Савецкай Беларусі за адзіна законнага прадстаўніка беларускага народа, выразніка яго іктарэсаў. Другі і трэці параграфы праграмы БСР Грамады гаварылі адначасова аб задачах вызваленчага руху і спосабах дасягнення вызначаных мэт.

Праграма падкрэслівала, што «толькі сялянска-рабочы ўрад можа даць народам свабоду, сялянам зямлю, рабочым работу, перабудаваць увесь дзяржаўны і грамадскі лад», а стварэнне такога ўрада магчыма толькі ў цесным саюзе рабочых і сялян.

Падыход да зямельнай праблемы як кардынальнай праблемы ва ўмовах Заходняй Беларусі ў грамадоўцаў быў у аснове рэвалюцыйны. Праграма іх патрабавала канфіскацыі абшарніцкіх і царкоўных зямель без кампенсацыі, перадачы зямель у рукі сялянскіх камітэтаў, якія павінны надзяліць беззямельных, малазямельных сялян, батракоў зямлёй бясплатна. Праграма патрабавала таксама безумоўнай і неадкладнай канфіскацыі вайсковага і цывільнага асадніцтва. Ідэолагі Грамады падтрымлівалі хутарызацыю пры ўмове прырэзкі зямлі малазямельным і аказанні эканамічнай дапамогі, танных крэдытаў сялянам. Тарашкевіч, аднак, бачыў шкоднасць ідэі хутарызацыі. «У вёсцы людзі жывуць сваім малым інтарэсам, — гаварыў ён у час судовага працэсу над Грамадой. — Іх цяжка згуртаваць...» І далей ён папярэджваў некаторых грамадоўцаў ад перабольшання надзей на сялянства як рухаючую сілу вызвалення Заходняй Беларусі: «Сялянства для сябе зробіць толькі мукі падкалаціць крапіву. Селянін сёння ідзе за намі. А заўтра яму дадуць зямлю і ён сціхне, супакоіцца. А часам якая няўстойка, ён пабяжыць на свой хутар і схаваецца там».

Праграма Грамады перш-наперш ставіла самыя актуальныя надзённыя праблемы, вырашэнне якіх па меры магчымасці задаволіла б шырокія масы і падрыхтавала наступны, завяршальны этап вызваленчай барацьбы. Ідучы па лініі задавальнення жыццёва вострых патрэб працоўных Заходняй Беларусі, яна патрабавала перакладання падаткаў на маёмасныя класы і поўнага вызвалення ад іх малазямельных сялян і сялян-сераднякоў».

З пазіцый задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі падыходзіла БСР Грамада да задавальнення патрабаванняў рабочага класа. Яе праграма прадугледжвала свабоду стачак і прафесіянальных саюзаў, «заканадаўчае прызнанне фабрычных рабочых камітэтаў з правам

удзелу ў назіранні за вытворчасцю», устанаўленне 8-гадзіннага рабочага дня, забеспячэнне мінімуму заработнай платы, дзяржаўнае страхаванне і г. д. Вельмі важным момантам была ўстаноўка, зробленая ў праграме БСР Грамады, на стварэнне фабрычных камітэтаў.

Імкнучыся да гаспадарчай арганізацыі працоўных мас, да аб'яднання іх на эканамічнай аснове, Грамада высоўвала задачу развіцця спажывецкай, вытворчай і крэдытнай кааперацыі «як сродку аховы працоўных ад дарагавізны і спекуляцыі і прывучэння іх да арганізаванай самадзейнасці».

У адносінах культуры праграма Грамады выстаўляла патрабаванне адзінай працоўнай школы на роднай мове з бясплатным навучаннем. Свабода сумлення і аддзяленне царквы ад дзяржавы і палітыкі таксама было адным з патрабаванняў грамадоўскай праграмы.

Як бачым, у праграме БСР Грамады знайшлі вырашэнне асноўныя задачы дэмакратычнай рэвалюцыі. Разам з тым яна ўключала і некаторыя праграмныя моманты рэвалюцыі сацыялістычнай. Гэта можна зразумець, калі мець на ўвазе, што, па-першае, рэвалюцыйна-дэмакратычнае кіраўніцтва БСР Грамады не думала спыняцца на буржуазна-дэмакратычным этапе рэвалюцыі і поўнае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных Заходняй Беларусі бачыла неаддзельна ад перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі; па-другое, нацыянальна-вызваленчы рух, які абдымала арганізацыйнымі формамі Грамада, адбываўся ўжо ў эпоху, што жыла пад знакам Вялікага Кастрычніка, і, натуральна, пачуваў на сабе жыватворны ўплыў яго ідэй і здзяйсненняў.

Згодна са статутам БСР Грамады, усёй дзейнасцю арганізацыі кіраваў яе Цэнтральны камітэт. Намеснікам Тарашкевіча на пасадзе старшыні ЦК БСР Грамады быў абраны Сымон Рак-Міхайлоўскі. У склад ЦК, акрамя грамадоўскіх паслоў, увайшоў Максім Бурсевіч, які з чэрвеня 1926 г. узначаліў Цэнтральны сакратарыят — апарат, створаны спецыяльна для бягучай арганізацыйнай работы Грамады. У статуце было запісана, што «ў выпадку пільнай патрэбы выявіць становішча ўсёй Грамады ў паасобных справах ЦК склікае раду Грамады, складзеную з прадстаўнікоў павятовых камітэтаў і мужоў давер'я».

Адразу пасля прыняцця праграмы БСР Грамады старшыня яе Тарашкевіч піша «Інструкцыю аб тым, як тварыць арганізацыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады на месцах». Інструкцыя напісана ў форме гутаркі, з парадамі. Аўтар яе выявіў глыбокае веданне жыцця беларускай вёскі, народнай псіхалогіі. У даходлівай размоўнай форме ён растлумачвае, як стварыць першае вогнішча,

асяродак свядомых барацьбітоў за народную справу. Тарашкевіч не навязваў катэгарычных гатовых рэцэптаў. Увогуле ўвесь дух гэтага цікавага дакумента эпохі на ўстаноўцы на калектыўную грамадскую ініцыятыву, на калектыўную палітычную творчаасць. «Абгаварвайце і крытыкуйце ўсіх тых, хто кіруе палітыкай і.. калі ў чым не згаджаецеся з палітыкай нашай сялянска-работніцкай Грамады, дык не маўчыце, а зараз жа пішыце да нас, каб мы маглі прыслухацца да вашага голасу разам папраўляць свае памылкі».

Праз усю «Інструкцыю» праходзіць думка аб тым, што сіла, зарука перамогі працоўных у іх саміх. Тарашкевіч настойліва паўтарае: гуртуйцеся, станавіцеся плячо к плячу ў адну арганізацыю, і мы разам усе дамо рады сваім бедам і крыўдам. Вы — сіла! Вы — права! Пасля цэлга рада практычных, самых дэталёвых парад, што датычаць арганізацыі працы, Тарашкевіч зноў настойліва паўтараў, нібы стукаўся ў кожнае сэрца пад сялянскай світкай і рабочай блузай: «Дабіцца лепшае долі можна толькі ўласнымі рукамі, бо ніхто не дасць самохаць ні зямлі, ні працы, ні волі, ні правоў. Ніхто з ласкі не дасць ані сацыяльнага, ані нацыянальнага вызвалення. Для гэтага трэба самім працаваць і змагацца партыйнымі, культурнымі і эканамічнымі арганізацыямі. Трэба абняць, пераплесці і звязаць увесь край, прыцягнуць да работы ўсіх — старых і маладых, мужчын і жанок».

З сярэдзіны 1926 г. пасля апублікавання праграмы грамадоўцы лягчэй знаходзяць тыя самыя ёмкія дзейсныя арганізацыйныя формы і метады работы з масамі, якія далі магчымасць за некалькі месяцаў ускалыхнуць народную стыхію да самага дна. Спачатку, нягледзячы на пэўную падрыхтаванасць грамадскай глебы, творцы Грамады, відаць, адразу не спадзяваліся на такі ўзрост свядомасці мас, на такі хуткі размах руху. Відавочна, яны ўяўлялі яго як больш працяглы працэс...

Але калі ў пачатку руху ён застаў кіраўнікоў недастаткова падрыхтаванымі да вырашэння, а часам нават пастаноўкі кардынальных задач палітычнай барацьбы, то з цягам часу яны самі (задачы) выкрышталізоўваліся і толькі варта было іх тэарэтычна асэнсоўваць і практычна вырашаць. Адной з такіх форм барацьбы, якую падказвала само жыццё і якую грамадоўцы не замарудзілі арганізацыйна пашырыць, скарыстаць, было аб'яднанне мас на грунце надзённых жыццёвых задач у лакальным маштабе. Прыклад паспяховага ажыццяўлення такой тактыкі і добрыя вынікі яе давала дзейнасць КПЗБ. У плане пазнання тактыкі вызваленчай барацьбы, як яе разумела грамадоўскае кіраўніцтва, значную цікавасць прадстаўляе артыкул, змешчаны ў «Беларускай справе» ад 31 ліпеня 1926 г., пад назвай

«Вёска арганізуецца». «Першай задачай унутранага жыцця кожнае арганізацыі Грамады будзе палітычнае ўзгадаванне яе сяброў, палітычнае ўзгадаванне вёскі наогул... Другая задача — гэта арганізацыя сіл вёскі дзеля штодзённага змагання за яго правы».

Калі пралетарскі горад ужо добра зразумеў, якая моц схавана ў яднанні сіл, то вёсцы, што ўзнімалася на барацьбу стыхійна, далёка яшчэ не хапала гэтай навукі, гэтай практыкі. Аднак жыццё пачало настойліва даваць ёй урокі грамадскага змагання. Напрыклад, адбіраў абшарнік сервітут у сялян, і стыхійна яны аб'ядноўваліся, узнімаліся на абарону сваіх жыццёвых інтарэсаў. У час Грамады сяляне пачалі адчуваць падтрымку зверху. Недзе ёсць паслы, што бароняць іх права і заклікаюць дружна самім стаць за яго. На ўласным вопыце вясковая бедната пераконвалася, што, згаварыўшыся ўсёй аколіцай, можна прымусіць пана больш заплаціць за падзённыя палявыя работы.

Так задачы барацьбы за дэмакратычныя свабоды ў шырокім сэнсе гэтага слова, за зямлю, школу, за правядзенне ў самаўрады сваіх людзей увязваліся з частковымі, прыватнымі, мясцовымі. Масы паступова ўцягваліся ва ўсё большы круг грамадскіх праблем, якія неабходна было неадкладна вырашаць.

Адной з шырокіх палітычных акцый, якая, як і ў свой час падача заяў на школу, ахапіла ўсю краіну, вылілася ў магутную хвалю пратэсту супраць тэрору, была акцыя барацьбы за амністыю палітзняволеным. Гэту барацьбу па ініцыятыве Кампартыі ўзнялі левыя сілы ўсёй краіны.

22 чэрвеня 1926 г. у сейм паступіла спешная прапанова паслоў камуністычнай пасольскай фракцыі, БСР Грамады, Незалежнай партыі хлопскай, а таксама дэпутатаў Беларускага і Украінскага клубаў (усяго 52 подпісы) з патрабаваннем безадкладнага звальнення ўсіх палітзняволеных, звароту ім усіх без выключэння грамадзянскіх правоў, скасавання кары смерцю і надзвычайных судоў на ўсім абшары Польскай рэспублікі.

Дамаганне Тарашкевіча паставіць пытанне аб амністыі на парадак дня буржуазна-абшарніцкімі прадстаўнікамі было сустрэта ў штыкі і правалена.

Тады Кампартыя, НПХ, Грамада, ППС-лявіца, стварыўшы Міжпартыйны сакратарыят па барацьбе за амністыю, распачалі шырокую кампанію за звальненне палітычных вязняў, звязваючы яе з барацьбой за шырокія дэмакратычныя свабоды. У Заходняй Беларусі работу па збору подпісаў, па правядзенню мітынгаў і сходаў праводзілі КПЗБ, Грамада і НПХ. Праз газету «Беларуская справа» ЦК Грамады з

нумара ў нумар звяртаўся да беларускіх сялян, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі з заклікам падтрымаць рух за амністыю. «Патрабуем амністыі!», «Палітычным вязням — волю!», «Справа амністыі палітычным вязням!» — гэта передавіцы грамадоўскай перыёдыкі, у якіх востра ставілася адна з актуальных праблем грамадскага жыцця.

У гэты час Тарашкевіч выступае з вострымі антыімперыялістычнымі прамовамі перад працоўнымі, умела акцэнтуе ўвагу грамадскасці на задачах палітычнага моманту. Адным з такіх выступленняў, якое закончылася нападам паліцыі на мітынг, было выступленне яго ў Вільні, у клубе «Геліюс».

Масы жыва адгукнуліся на заклік барацьбы за амністыю, на голас чалавечнасці, свабоды. Сходы і мітынгі хваляй пракаціліся па ўсім краі. На іх гаварылі аб барацьбітах за народнае шчасце, выносілі рэзалюцыі пратэсту, вырашаліся канкрэтныя пытанні дапамогі сем'ям вязняў, збіраліся сродкі на МОПР. Адбыліся паасобныя выступленні супраць белага тэрору. Асабліва бурным было выступленне навагрудкіх рабочых і рамеснікаў. Дзесяткі тысяч подпісаў з патрабаваннем вызваліць зняволеных барацьбітоў сабрала Заходняя Беларусь. Барацьба за амністыю садзейнічала больш цеснаму згуртаванню працоўных, вышэй узняла іх грамадскую актыўнасць.

Ужо з пачатку 1926 г. грамадоўскія паслы пачынаюць пераносіць сваю асноўную агітацыйна-прапагандысцкую працу з сейма непасрэдна ў народныя гушчы.

Справаздачы паслоў сталі праходзіць пры вялікім удзеле працоўных і вылі́ліся ў мітынгі. Мітынгі праводзіліся ў гарадах і мястэчках, а часам і ў вёсках звычайна ў святочныя ці рыначныя дні, калі там збіралася вялікая колькасць народу. Паслы расказвалі масам аб той палітычнай працы, якую яны праводзілі ў сейме, аб задачах арганізаванай барацьбы пад сцягам Грамады, заклікалі да аб'яднання. У сустрэчных выступленнях прадстаўнікоў з месц гучалі ўсе крыўды, што пачувалі на сабе працоўныя горада і вёскі, выражаліся іх самыя вострыя патрэбы, дамаганні.

Адну з важнейшых сваіх задач грамадоўскія паслы бачылі ў мацаванні саюзу працоўных горада і вёскі, без якога нельга было разлічваць на поспех у вызваленчым змаганні.

Аграрнае пытанне як кардынальная праблема жыцця асноўнай масы насельніцтва Заходняй Беларусі самым цесным чынам звязваецца грамадоўскімі ідэолагамі з умовай стварэння саюзу працоўных горада і вёскі. Так, у артыкуле «Зямля і сялянства» вельмі пераканаўча даводзіцца, што «селянін без работніка, а работнік без селяніна ніколі не здзейсняць сваіх найвышэйшых ідэалаў».

Пастаянная рубрыка «Рабочае жыццё» ў грамадоўскіх друкаваных органах шырока асвятляла барацьбу рабочых цэнтраў краіны і сусветны вызваленчы рух.

На мітынгах у Беластоку, Вільні, Брэсце, выступаючы перад рабочымі, Тарашкевіч шмат гаварыў аб росце палітычнай свядомасці сялянства. У сваіх прамовах, звернутых да сялян і рамеснікаў у мястэчках Дунілавічы, Глыбокае і інш., ён тлумачыў сялянам, што адным ім зямлі ў абшарнікаў не забраць, што патрэбна падтрымка рабочых, якія ў сілах паралізаваць камунікацыі, спыніць фабрыкі і заводы, узяць буржуазію і капіталістаў што называецца за горла.

Прынятыя на мітынгах пастановы-рэзалюцыі адлюстроўвалі імкненні і настроі шырокіх слаёў працоўных, а таксама той напрамак агітацыйнай работы, якую праводзілі паслы-грамадоўцы.

У рэзалюцыях, прынятых у Брэсце, Вільні, Беластоку, Гродна, Скідэлі, Вілейцы, мястэчках Крынкі, Лунна, Трабы, Лунінец, Індура і інш., было нямала агульнага, што адлюстроўвала праграмныя патрабаванні Грамады, але і былі палажэнні, што адбівалі ў сабе мясцовыя ўмовы і асаблівасці, узровень палітычнай актыўнасці мас дадзенай мясцовасці, іх класавы склад.

Пасля выступлення Тарашкевіча на грамадоўскім мітынгу рабочых у Брэсце 21 лютага 1926 г. была прынята, напрыклад, разгорнутая пастанова, якая патрабавала адмены кары смерцю, спынення тэрору, поўнай амністыі для палітвязняў, спынення асадніцтва і каланізацыйнай палітыкі, надзялення зямлёй усіх беззямельных і малазямельных з дворных абшараў без выкупу і сплаты і г.д. У справе беспрацоўя рэзалюцыя дамагалася: аказання дапамогі ўсім беспрацоўным без выключэння, наладжвання публічных работ, спынення выкідання беспрацоўных з кватэр, бясплатнай лекарскай дапамогі і г.д.

З ростам свядомасці працоўных іх патрабананні набывалі большае палітычнае значэнне. Так рэзалюцыя грамадоўскага мітынгу ў мястэчку Крынкі, прынятая працоўнымі 8 ліпеня 1926 г. пры ўдзеле Паўла Валошына, адлюстроўваючы наспеўшыя пытанні часу, выстаўляла патрабаванні агульнапалітычнага плана, а іменна патрабаванне самавызначэння народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, стварэння сянска-рабочага ўрада, увядзення рабочага кантролю над прамысловасцю і г.д.

Улетку 1926 г. пачынаецца імклівы рост гурткоў Грамады ва ўсёй Заходняй Беларусі, павялічваецца колькасць яе членаў (сяброў). У ліпені Грамада налічвала толькі 122 гурткі, якія аб'ядноўвалі больш 3 тысяч членаў. У жніўні ў ёй згуртавалася ўжо 12 500 сялян і рабочых.

У верасні тысяча грамадоўскіх гурткоў налічвала ў сваіх радах 30 тысяч членаў.

Выступаючы перад працоўнымі Гродна, Тарашкевіч даў вычарпальную палітычную характарыстыку чарадзе змяняўшых адзін другі польскіх урадаў. Ужо шырока прызнаны ў той час кіраўнік нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі на яскравых фактах даводзіў, як пэпээсаўскія міністры і важакі «Пяста», увайшоўшы ва ўрадавы кабінет, нічога не далі працоўным, а толькі прыкрывалі сваёй уяўнай сацыялістычнай прыналежнасцю дзеянні правых сіл, аб'ектыўна служылі пануючым класам зручнай шырмай. Тарашкевіч вылічаў грахі польскіх патэнтаваных сацыялістаў і ўказваў, што лістападаўскія падзеі ў Кракаве, рабочыя ахвяры польскага горада Каліша і інш. ляжаць на іх сумленні. Сваю хвалюючую прамову перад гродзенцамі Тарашкевіч закончыў заклікам: «Няхай жыве супольны фронт работнікаў і сялян! Няхай жыве гродзенскі пралетарыят!»

У лістападзе Грамада арганізацыйна аб'ядноўвала 62 тысячы чалавек у 1658 гуртках. Асабліва паспяхова шырыўся грамадоўскі рух у Дзісенскім, Навагрудскім, Гродзенскім і Слонімскім паветах. У кожным з іх БСР Грамада налічвала звыш 10 тысяч членаў.

Пачалося нешта незвычайнае для гэтага кінутага на гістарычных дарогах краю. Усё лепшае, жывое, дзейснае, што ў ім было, пайшло за простымі, даходлівымі лозунгамі Грамады, памкнула пад чырвоны сцяг яе.

«Грамадой у Грамаду» — гэты лозунг стаў дэвізам часу. Здаралася, што цэлыя вёскі прымалі рашэнне запісацца ў арганізацыю, якая абараняе селяніна і рабочага ад іх спрадвечнага ворага, іх імкненні-мары напісала на сваім сцягу.

Цэнтральны сакратарыят Грамады, створаны ў чэрвені 1926 г., як арганізацыйны апарат не мог справіцца з усёй бягучай работай, хоць працаваў з 6 гадзін раніцы да 10 гадзін вечара.

ЦК Грамады, Цэнтральны сакратарыят даслоўна засыпалі заявамі з просьбай зарэгістраваць новыя гурткі, прысланць літаратуру, даць парады...

Для паспяховага забеспячэння арганізацыйнай работы ЦК Грамады быў вымушаны узяць у апарат Цэнтральнага сакратарыята амаль увесь штат галоўнай управы Таварыства беларускай школы (ТБШ). «Не паспявалі выпісваць партыйныя білеты», — успамінае лета 1926 г. былы супрацоўнік Цэнтральнага сакратарыята БСР Грамады, сёння старэйшына дзеячаў беларускай музычнай культуры Рыгор Раманавіч Шырма.

Для ўмацавання нізавога актыву Грамады, для падрыхтоўкі сакратароў мясцовых гмінных і павятовых камітэтаў яе на сходзе лета 1926 г. Тарашкевіч арганізаваў у Радашковічах спецыяльныя курсы. У прыгранічнае мястэчка сышліся і з'ехаліся тыповыя заходнебеларускія інтэлігенты-гарапашнікі. Большасць з іх пасля закрыцця польскай адміністрацыяй беларускіх школ зарабляла на хлеб надзённы тым спосабам, якім зараблялі іх дзяды і бацькі, — ідучы за плугам, касой, стаўшы да шавецкага варштата.

Тарашкевіч чытаў слухачам настаўніцкіх курсаў скарочаны практычны курс беларускай граматыкі, праводзіў бясeды аб палітычным становішчы ў краіне і задачах вызваленчага руху. Лекцыі па іншых дысцыплінах чыталі будучыя паслы ў сейм ад клуба «Змаганне за інтарэсы сялян і работнікаў» Язэп Гаўрылік, Ігнат Дварчанін і яшчэ некаторыя настаўнікі Радашковіцкай гімназіі. У арганізацыі курсаў актыўны ўдзел прымаў і Аляксандр Уласаў як прадстаўнік кіраўніцтва ТБШ і ўраджэнец Радашковічаў.

Большасць курсантаў, беспрацоўных інтэлігентаў пасля заканчэння курсаў сталі старшынямі і сакратарамі вясковых, гмінных і павятовых арганізацый БСР Грамады.

Грамадоўскі рух рос углыб і ўшыркі. І гэта выяўлялася не толькі ў колькасным прытоку новых членаў, а і ва ўсёй палітычнай атмасферы краю. Шырокія масы далучаліся да грамадскага жыцця. Вялікая палітыка прыйшла ў сялянскую хату, у сутарэнь рамесніка не як нешта далёкае, а як рэальная зразумелая справа, пад якую трэба было падставіць і сваё плячо.

Рэвалюцыйны энтузіязм, небывалы ўздым ахапіў народныя масы. Народ адчуў сваю сілу. Сяляне пераставалі плаціць падаткі, біцца, каб апошні грош аддаць на кавалак зямлі, які каштаваў непамерна дорага. Член КПЗБ з 1924 г. жыхар мястэчка Астрыно Сцяпан Антановіч расказвае: «Як паявілася Грамада, адкрыўся новы свет. Людзі на нешта спадзяваліся і не шкадавалі сябе...»

«У час Грамады моладзь была так арганізавана, — успамінае былы палітвязень Картуз-Бярозаўскага канцлагера Лукаш Капытка, — што панам не было месца на зямлі. Хіба на небе...» Рыгор Шырма прыгадвае, як падчас сходу сяброў грамадоўскага гуртка ў мястэчку Мір хлопцы адабралі ў паліцыянта вінтоўку, паставілі яе ў качарэжнік, а самога ахоўніка парадку замкнулі ў хляўчук, каб не перашкаджаў, пакуль ідзе сход.

У 1929 г. Міністэрства ўнутраных спраў накіруе ва ўсе камендатуры і пастарункі (аддзяленні паліцыі) сакрэтны цыркуляр, дзе прад-піша за гімн Грамады «Адвеку мы спалі» прыцягваць да адказ-

насці згодна з артыкулам 129 карнага кодэкса. Але ў час Грамады ахоўнік дзяржаўных устояў і правапарадку мусіў з павагай стаяць і слухаць, пакуль адгучыць гімн гэтых «абуджаных хлопцаў». Са шпікамі і інфарматарамі (канфідэнтамі) камуністы і грамадоўцы абыходзіліся, як правіла, яшчэ менш далікатна...

Адным з паказчыкаў абуджэння і бурнага развіцця ініцыятывы, творчых сіл народа быў росквіт вызваленчага друку, выдавецкай дзейнасці ўвогуле. Акрамя падпольнай камуністычнай перыёдыкі, прадстаўленай газетамі і часопісамі «Чырвоны сцяг», «Малады камуніст», «Бальшавік», «Kujmy bron», «Route fon» (на яўрэйскай мове) і інш., быў створан шырокі легальны грамадоўскі друк. Не лічачы ўжо названых «Беларускай нівы», «Народнай справы», «Беларускай справы», ідэі непакорнасці і змагання неслі газета «Жыццё беларуса» і двухтыднёвы гумарыстычны часопіс «Маланка». Грамадоўскі ўздым выклікаў да жыцця часопіс літаратуры і мастацтва «Родныя гоні», сельскагаспадарчы часопіс «Саха», часопіс для дзяцей «Заранка» і інш.

Аб сваім штодзённым жыцці, аб сваіх надзеях і імкненнях гучна загаварыла праз камуністычны і грамадоўскі друк уся працоўная Заходняя Беларусь. Маўчаўшая вякі, яна спяшалася, каб выгаварыць, паказаць свае крыўды на свет цэлы, знайсці на іх раду, падзяліцца новым адчуваннем сваёй сілы, чалавечага і народнага права.

«Без хлеба, без грошай працуй», «З сялян толькі падаткі бяруць», «Дзе права?», «Не запужаюць!», «За што арыштоўваюць?», «Панская сваволя і здзекі», «Жануць вон пэпээсаў», «Скачы, ўража, як пан кажа», «Свайго не даруем!», «Ашуканцаў — на чыстую ваду» — вось загалоўкі карэспандэнцый з месц, узятыя з газеты «Народная справа» за верасень 1926 г. Па духу, зместу гэтых заметак адчуваеш, што ў іх гучаў узрушаны, непадробны ў сваёй шчырасці і прастаце голас народа, які сам узнімаўся палепшыць сваю долю, уголас снаваў свае запаветныя мары.

Рост духоўных запатрабаванняў працоўных Заходняй Беларусі з надзвычайнай пераканаўчасцю выразіўся ў культурна-грамадскай працы. Грамада ўдыхнула жыццё ў Таварыства беларускай школы, радыкальную культурна-асветную арганізацыю, якая нямала зрабіла і для палітычнай асветы мас, для ўздыму іх грамадскай актыўнасці. Летам 1926 г. гурткі ТБШ густой сеткай пакрылі Заходнюю Беларусь. Яны арганізоўвалі бібліятэкі і народныя дамы, наладжвалі канцэрты і спектаклі, дзе з самадзейнай сцэны гучалі баявое мастацкае слова і рэвалюцыйныя песні, знаходзячы ў сэрцы слухача жывы водгук, парываючы яго да новага, сапраўднага жыцця.

У 1926 г. Таварыства ў сваіх гуртках аб'яднала ўжо звыш 10 тысяч актыўнай, дзейнай творчай моладзі, шчыра адданай справе культуры свайго народа, справе вызвалення працоўных. Тарашкевіч вельмі сур'ёзна глядзеў на гэту арганізацыю, згодна слоў Р. Шырмы, называў яе «нашай другой лініяй акопаў».

Каб задаволіць патрэбы самадзейных драмгурткоў і хораў, якія існавалі пры гуртках ТБШ, Беларускае выдавецкае таварыства, выдавецтва Знамяроўскага, выдавецтва «Левін і сын» і інш. выпусцілі ў свет дзесяткі сцэнічных твораў, спеўнікаў.

Асабліва вялікую цікавасць выклікалі творы класікаў беларускай літаратуры, дэмакратычнай і рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі, у якой масы шукалі і знаходзілі выражэнне сваіх дум і настрояў. Вялікую ролю ў духоўным жыцці народа набыла сацыяльна яркая, патрыятычная лірыка Янкі Купалы і Якуба Коласа. Творы гэтых выдатных прадстаўнікоў беларускай культуры ў Заходняй Беларусі 20-х гадоў завучвалі на памяць, яны станавіліся гімнамі вызваленчага руху.

Лепшы дарэвалюцыйны зборнік купалаўскай паэзіі «Шляхам жыцця» двойчы перавыдаваўся ў Заходняй Беларусі і разышоўся да адзінага экземпляра. Выдадзены і перавыдадзены былі ўсе зборнікі і буйныя творы Якуба Коласа. Шырокай ракой ішлі ў народ кнігі заходнебеларускіх паэтаў, чыя творчасць нараджалася і гартавалася ў полымі вызваленчага змагання. Асобнымі зборнікамі выйшлі вершы Л. Радзевіча, У. Жылкі, М. Машары, М. Васілька.

Цеснае духоўнае адзінства, якое адчувалі працоўныя Заходняй Беларусі са сваімі братамі на Усходзе і якое паўсядзённа выражалася ў вызваленчай барацьбе, не менш пераканаўча выявілася ў культурным плане. Заходнебеларуская перыёдыка, настольныя календарыкнігі на сваіх старонках надзвычай многа месца адводзілі творам беларускіх савецкіх паэтаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Цішкі Гартнага, Кандрата Крапівы, Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Дудара, Паўлюка Труса, Андрэя Александровіча і інш.

З'явіліся беларускія мастацкія пераклады лепшых здабыткаў сусветнай літаратурнай класікі (рускай, польскай, англійскай, французскай), а таксама досыць багатая арыгінальная і перакладная навукова-папулярная літаратура. Асаблівая ўвага была ўдзелена народна-паэтычнай і музычнай спадчыне народа. І ўся гэта вялікая кніжная прадукцыя не магла паталіць духоўнай смагі працоўных. Перавыданні побач з новымі выданнямі паўтараліся зноў і зноў.

А к канцу 20-х гадоў Беларускі пасольскі клуб «Змаганне» арганізаваў легальнае выданне твораў спадчыны класікаў навуковага сацыялізма. Перакладзеныя з мастацкім чуццём беларускага слова,

яны беражліва даносілі да заходнебеларускіх працоўных ідэйнае багацце твораў Маркса, Энгельса, Леніна, Пляханава. Мяркуючы па мове перакладу, можна гіпатэтычна дапусціць, што некаторыя з іх належаць Браніславу Тарашкевічу.

На працягу другой палавіны 1926 г. кіраўніцтва БСР Грамады прыкладае ўсе намаганні на ўмацаванне сярэдняга звяна сваёй арганізацыі — павятовых камітэтаў, узмацненне іх пасрэдніцкай сувязі паміж цэнтрам і перыферыяй, увогуле аддае ўсю ўвагу актывізацыі палітычнай работы.

Ліпень — лістапад 1926 г. — перыяд бурнага развіцця грамадоўскага руху. За гэты час Тарашкевіч толькі адзін раз выступаў у сейме, каб даць водпаведзь рэакцыі, яе зласлівым паклёпам на Грамаду, каб расказаць шырокай грамадскасці Польшчы аб сапраўдных задачах і мэтах гэтай масавай арганізацыі працоўных Заходняй Беларусі.

Асноўны час Тарашкевіч аддаў на кіраўніцтва партыйным штабам Грамады, на паездкі па краю са справаздачнымі дакладамі, на арганізацыю мас у маштабе паветаў. У гэты час руплівa ішло стварэнне і ўмацаванне раней створаных павятовых камітэтаў БСР Грамады, якія маюць вялікае значэнне для партыйнай работы наогул, для аб'яднання, звязвання ўсіх актыўных сіл у павеце. «Толькі павятовы камітэт партыі, — пісала газета «Народная справа», — з якім у сталай сувязі будзе кожны вясковы ці гмінны гурток, меціме магчымасць горача адгукнуцца на кожную балячку вёскі, можа наладзіць агульнае выступленне насельніцтва ў той ці іншай справе перад мясцовымі ўладамі і ўстановамі, можа аказаць уплыў на самаўрад, пакіраваць выбарамі ў яго і г.д.».

Са жніўня пачаліся павятовыя з'езды Грамады, якія адыгралі выключна вялікую ролю ў мабілізацыі мас вакол іх радыкальнай арганізацыі. Першы такі з'езд адбыўся на Дзісеншчыне, у Глыбокім. Ён выявіў, што працоўны люд Наддзвіння ахоплен вызваленчым парывам і суцэльнай масай ідзе за Грамадой. На гэты з'езд дабіраліся пешкі і на падводах за дзесяткі кіламетраў — з-пад Галубіцкай пушчы і Задзвіння. Кінатэатр «Оаза» не мог змясціць і пятай долі ўсіх жадаючых паслухаць паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і Мятлу. Была створана свая грамадская міліцыя для аховы парадку.

Адзінагалосна выбраны за старшыню павятовага з'езду, Тарашкевіч выступіў з гарачай прамовай аб зямлі і асадніцтве, аб падатках і самаўрадах, аб адміністрацыі, войску і паліцыі, аб перавароце маршалка Пілсудскага... Асобна спыніўся ён на важнасці саюзу рабочых і сялян для справы вызвалення. Рак-Міхайлоўскі прамаўляў аб палітычным і культурным значэнні барацьбы за школу, аб адносінах Грамады

да іншых партый. Узрушыў землякоў сваёй прамовай аб палітвязнях, аб неабходнасці змагання за амністыю Пётра Мятла.

Пасля пасольскіх дакладаў і прамоў на сцэну, дзе засядаў прэзідыум, цэлымі снапамі пасыпаліся кветкі. Выступленні з месц, прамовы актывістаў Грамады былі голасам узрушаных сваім грамадска-палітычным нараджэннем мас. Яны лішні раз сведчылі, што вызваленчыя ідэі глыбока авалодалі народнымі гушчамі, знайшлі там самую спрыяльную глебу. Дзісенскі з'езд адзначыў: «Справаздачу паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы аб рабоце Цэнтральнага камітэта, Цэнтральнага сакратарыята і Пасольскага клуба БСР Грамады зацвердзіць, лічачы, што гэта работа, абапёртая на цесным саюзе сялян і работнікаў, — правільная і вядзецца на карысць працоўнага народа, згодна з яго сацыяльнымі і нацыянальнымі інтарэсамі». Разалюцыя Дзісенскага з'езду БСР Грамады выражала рашучасць грамадоўскага актыву павета весці барацьбу за зямлю, за скасаванне асадніцтва, за амністыю, за школу на роднай мове, за стварэнне сялянска-рабочага ўрада. Унесеныя ў рэзалюцыю дапаўненні з месц адлюстроўвалі лакальныя патрабаванні сялянства Дзісеншчыны. Сярод іх было патрабаванне вызваліць ад падаткаў у сувязі з неўраджаем, дазволіць выезд на працу у СССР.

Наступны павятовы з'езд Грамады, які адбыўся ў Паставах, даў разгорнутую ацэнку сучаснага палітычнага становішча, сцвердзіўшы, што «ўлада Пілсудскага з'яўляецца ўладай абшарнікаў і капіталістаў». З'езд падкрэсліў у сваёй рэзалюцыі, што толькі сялянска-рабочая ўлада можа паправіць становішча мас і барацьба за яе — асноўная задача Грамады. Гэты з'езд таксама звярнуў пільную ўвагу на «абарону штодзённых інтарэсаў працоўных», у дадатак нацэліў мясцовы актыў і ўсіх яго членаў на змаганне са згодніцкімі партыямі, «як польскімі, так і беларускімі».

Важным момантам у рэзалюцыі Пастаўскага павятовага з'езду было выказанае Цэнтральнаму сакратарыяту Грамады пажаданне дамовіцца з Незалежнай партыяй хлопскай, каб сябры НПХ маглі свабодна ўваходзіць у склад Грамады як арганізацыі «тэрытарыяльнай».

У канцы лета і на працягу восені 1926 г. павятовыя з'езды Грамады прайшлі ў Вілейцы, Косаве, Гродна, Стоўбцах, Лідзе і іншых гарадах. У выніку імкліва раслі грамадоўскія асяродкі ва ўсім краі. Даходлівыя лозунгі Грамады пранікалі ў самыя глухія вёскі, далучаючы іх да агульнай вызваленчай плыні. Радавыя члены ППС пакідалі сваіх кіраўнікоў, скампраметаваных падтрымкай урада і ўлад і цэлымі арганізацыямі, як гэта было на Палессі, пераходзілі ў рады Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

Да канца страцілі грунт пад нагамі ў Заходняй Беларусі апошнія групоўкі «Вызволеня». Газета «Народная справа» ў жніўні 1926 г. у сваім перадавым артыкуле «Адзіным шляхам» не без падстаў заяўляла: «Адзіны сялянска-работніцкі фронт у Заходняй Беларусі — гэта ўжо не адно толькі добрае пажаданне — гэта здзейснены факт». Падводзячы вынікі грамадоўскага руху за 1926 г. у артыкуле «Мінулы год у Заходняй Беларусі», газета з радасцю канстатавала: «Работнікі — гэтыя выхадцы пераважна з беларускай вёскі — на працягненую ім руку сялян падалі ім свае крэпкія працоўныя рукі і пачалі тварыць супольную арганізацыю — Грамаду... Далучэнне да яе значнай часткі работнікаў Вільні, Горадні, Беластоку, Берасця, Пінску — вось новая апора нашага адраджэнскага руху, прыдбаная намі за мінулы год».

Ва ўмацаванні класавага саюзу паміж працоўнымі горада і бядняцкай вёскай вялікую ролю адыгралі выпрабаваныя байцы заходнебеларускага камуністычнага падполля. У час нарастання грамадоўскага руху КПЗБ паслала ў нізавыя органы БСР Грамады і ў яе сярэдняе звяно частку свайго партыйнага складу. Загартаваныя ў падпольнай барацьбе, дасведчаныя тэарэтычна, яны сталі незаменнымі арганізатарамі і прапагандыстамі і прыкметна ўзмацнілі пралетарскі пачатак у грамадоўскім руху.

Даючы палітычную ацэнку Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе, орган ЦК КПЗБ — часопіс «Бальшавік» (верасень — кастрычнік 1926 г.) зазначаў: «Характар Беларускай сялянска-работніцкай грамады, прынамсі, у першай фазе яе развіцця ўжо аформіўся. Гэта шырокае сялянскае аб'яднанне для барацьбы за зямлю і рабоча-сялянскую ўладу — так азначае свае задачы Грамада ў праграме, гэтыя самыя дамаганні ставіць яна ў сваёй працы».

КПП таксама глядзела на грамадоўскі рух як на важную сілу агульнага вызваленчага фронту. Што ж датычыць нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Украіне, то і ў ім к гэтаму часу адбыліся гістарычныя змены, у выніку чаго яшчэ больш узрасла рэвалюцыйная салідарнасць і сувязь паміж працоўнымі Заходняй Беларусі і Украіны. У заметцы «Перамога сялянска-работніцкай ідэалогіі» газета «Народная справа» ад 28 кастрычніка 1926 г. так каменціравала ўтварэнне новай арганізацыі працоўных Заходняй Украіны. «Пад час, як розныя служкі буржуазіі стараюцца разбіць створаны Грамадой адзіны фронт сялян і работнікаў у Заходняй Беларусі, братні нам украінскі народ, які жыве пад Польшчай у аднолькавых з намі варунках, узышоў на шлях еднасці працоўных вёскі і места. Дзве найпаважнейшыя ў Заходняй Украіне сацыялістычныя партыі — Украінскі сялянскі саюз і работніцкая

«Народная воля» злучыліся ў адно і стварылі адну супольную арганізацыю сялян і работнікаў пад назван «Украінскае сялянска-работніцкае сацыялістычнае аб'яднанне» (скарочана «Сель-роб»).

Адначасова з узмацненнем інтэрнацыянальных рэвалюцыйных сувязей у працэсе грамадоўскага руху расла класавая і грамадская салідарнасць саміх шырокіх мас Заходняй Беларусі. Па меры паглыблення барацьбы і пашырэння вызваленчых ідэй сярод мас гэта духоўнае адзінства ўзрастала і набірала ўсё больш палітычна акрэсленыя формы. Вялікі штуршок росту салідарнасці дала кампанія барацьбы за амністыю, калі, паводле слоў «Народнай справы», «вёска закідвала канцылярыю сеймавага клуба БСР Грамады подпісамі за амністыю».

Значны ўклад у справу развіцця класавай і нацыянальнай самасвядомасці заходнебеларускіх працоўных на працягу 1925-1927 гг. унеслі сумесна з партыйнымі ячэйкамі КПЗБ і мясцовыя камітэты Грамады. Акрамя пастаяннай палітыка-выхаваўчай работы (інфармацыі аб палітычным становішчы ў краіне і свеце, азнаямленне з партыйным друкам, культурна-асветная дзейнасць), яны праводзілі розныя грамадскія акцыі адпаведна задачам моманту. Так, напрыклад, віленскі камітэт Грамады выпусціў адозву са зваротам да рабочых і работніц горада ў сувязі з выбарамі ў рады касы хворых, у якой заклікаў мацаваць інтэрнацыянальны блок левых сіл, адкінуць згоднікаў. У Стаўбцоўскім павеце па заклiку камітэта Грамады сяляне дружна байкатавалі наймы памешчыкаў на копку бульбы. Пажарышчынскі гмінны камітэт БСР Грамады выдаў адозву, прасякнутую гарачай рэвалюцыйнай верай у вызваленне, у сілу БСР Грамады. «Вітайма Грамаду і злучаймася ў Грамаду — першую шчырую абаронцу нашых правоў, упартую барацьбітку з ворагам працоўных вёскі і места — буржуазіяй, — клікала адозва. —Многа вёсак і мястэчак нашага краю ўжо зразумелі, дзе праўда, і арганізавалі гурткі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якія смела заяўляюць аб усіх крыўдах нашага жыцця моцным голасам грамады».

Празароцкі гмінны камітэт. БСР Грамады (што на радзіме Ігната Буйніцкага) звяртаўся праз грамадоўскі друк з заклікам дапамагчы матэрыяльна паасобным членам арганізацыі. З аналагічнымі адозвамі выступілі Даўгінаўская і Вілейская арганізацыі БСР Грамады. Неабходна зазначыць, што такая форма звароту была часта разлічанай на ўсыпленне паліцэйскай пільнасці. Сабраныя ж сродкі нярэдка ішлі на палітвязняў.

Апынуўшыся перад фактам небывалага ўздыму класавай і нацыянальнай салідарнасці ў Заходняй Беларусі, перад узрывам вызвален-

чага рэвалюцыйнага руху, буржуазія і «крэсавыя» абшарнікі пачалі хапатліва шукаць ратунку. Перш-наперш праз рэакцыйны друк яны пачалі апрацоўваць грамадскую думку краіны ў духу шалёнай нянавісці да БСР Грамады. Адначасова зрабілі яны яшчэ адзін дэмарш. У кастрычніку, калі агаляліся беларускія лясы ды зарунелі палеткі, у радавіты замак князёў Радзівілаў, у Нясвіжы, з'язджаліся магнатэрыя і вяльможнае панства — заядлыя манархісты, прадстаўнікі крайніх правых сіл. На гэты раз ім зрабіў гонар сваім візітам сам маршалак Пілсудскі. Вітаючы яго, «крэсавы зубр» князь Сапега гаварыў пра ўзвышэнне на беларускіх землях рабоча-сялянскіх аб'яднаных сіл, пра тую пагрозу, якую тоіць гэта ўзбунтаваная стыхія для «каханай Айчызны».

На самай справе магнаты, абшарніцтва вуснамі Сапегі прасілі ратаваць іх сядзібы ад народнага гневу. Былы сацыяліст быў, вядома, расчулены прыёмам вяльможнай шляхты. Ці не выражэннем гэтай расчуленасці з'явілася тое, што ў склад свайго ўрада, які, нарэшце, сфарміраваў ад свайго імя Пілсудскі, ён увёў двух «крэсавых зуброў» — Мейштовіча і Незбіткоўскага. Новы ўрадавы кабінет быў складзены толькі з прадстаўнікоў капіталу і зямельнай арыстакратыі. Пілсудскі, як гэтага трэба было чакаць, нарэшце, зусім зняў маску чалавека, які стаіць па-над класавымі інтарэсамі, ухіліў падстаўных асоб і заняў ключавыя пасады прэм'ера і галоўнакамандуючага.

Адразу ж пасля ад'езду Пілсудскага з Нясвіжа орган «крэсавых» абшарнікаў — манархічнае віленскае «Słowo» распачало паход супраць Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Цат Мацкевіч сыпаў небыліцы шчодрай жменяй: «Грамада — прыстанішча шпіёнаў, яна збірае зброю — рыхтуе паўстанне», «Грамада — экспазітура Кампартыі», «грамадоўскія паслы — агенты замежнай дзяржавы» і г.д. У цкаванне Грамады падключыўся орган віленскіх пілсудчыкаў — «Kurjer Wilienski». Ім падцінаў правы заходнебеларускі нацыяналістычны друк — газеты «Беларускі дзень» і «Беларускае слова». Хутка плёткі, інсінуацыі, пагалоскі, апрацаваныя ў віленскіх рэдакцыях, падхапіла і рэакцыйная варшаўская прэса.

Адначасова пачаліся праследаванні кіраўнікоў і радавых членаў Грамады. Паліцыя тэрарызавала паасобных сяброў грамадоўскіх гурткоў, канфіскавала грамадоўскую перыёдыку, старасты забаранялі сходы. За пасламі і мясцовымі актывістамі сачыла цэлая плойма шпікоў і правакатараў з фашыстоўскіх арганізацый «Стшэльца» і інш. Старасты і войты, ксяндзы і асаднікі, папы і абшарнікі пагражалі грамадоўцам, страшылі сялян і рабочых астрогам, пеклам. Аднак працоўныя Заходняй Беларусі не адступаліся ад сваёй арганізацыі.

Чым больш сыпалася пагроз і пакаранняў, чым мацней быў тэрор, тым большай была іх рашучасць ісці ў Грамаду, якую так ненавідзелі паны і іх паслугачы. Грамада не пераставала расці. За тры апошнія месяцы існавання ў яе рады ўступіла больш чым 40 тысяч сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

Тым часам класавая нянавісць да БСР Грамады з боку адміністрацыі ўзрастала. У некаторых паветах, напрыклад у Маладзечанскім, старасты не дазвалялі праводзіць сходы Грамады. На сходы ж грамадоўцаў, праведзеныя насуперак волі, накладаліся штрафы ў суме 3000 злотых, непасільныя нават для заможных гаспадарак. Паліцыя паўсюдна катавала членаў гурткоў і камітэтаў Грамады. З грамадоўскімі паслам і парываліся расправіцца фізічна, але народ ахоўваў сваіх кіраўнікоў. На пасольскіх мітынгах фарміравалася самаабарона, каб адбіць наскокі ваенізаваных груповак «Стшэльца», асадніцкіх «баювэк», якіх падтрымлівала тайная і яўная паліцыя.

Адной з мер расправы над Тарашкевічам асабіста была адмова віленскага ваяводы выдаць візу заходнебеларускім навуковым супрацоўнікам для паездкі на акадэмічную канферэнцыю ў Мінск. З гэтага выпадку ў тэлеграме, пасланай з Варшавы ў сталіцу Савецкай Беларусі, Тарашкевіч пісаў: «Культурныя і навуковыя працаўнікі Заходняй Беларусі пераканаы, што ніякая сіла не можа парваць культурнай еднасці беларускага народа».

Грамадоўскі друк выкрываў змовы сіл рэакцыі супраць арганізацыі заходнебеларускіх працоўных. Рак-Міхайлоўскі, выступаючы на старонках газеты «Народная справа», расказваў, што «Саюз абшарнікаў» бясконца ладзіць з'езды, дзе чытаюцца рэфераты аб Грамадзе, выносяцца рэзалюцыі, як змагацца з яе ўплывамі. На тайных пасяджэннях абмяркоўваюцца меры супраць кіраўнікоў БСР Грамады, спосабы засылкі ў гурткі правакатараў.

Паплечнік і сябра Тарашкевіча даваў проста з натуры абразок перапалоханых заваёўнікаў, якія пачулі, што зямля гарыць у іх пад нагамі, задрыжалі перад арганізаванымі працоўнымі Заходняй Беларусі: «Перапалохаліся паны арганізаваных працоўных мас на нашых землях: напалі страхі на ляхі. Дзе б ні адбывалася сабранне паноў, толькі і гутаркі ў іх цяпер пра Грамаду. Усе ў адзін голас крычаць, каб зачыніць Грамаду, не даць ёй далей пашырацца; у гасцях, і дома, і ў вагоне Грамада не сходзіць з іхніх вуснаў.

У дварах павялічваюць начную варту, умацоўваюць дзверы сваіх палацаў, робяць новыя акяніцы, павялічваюць шпігоўства за пакаёвай службай і парабкамі...»

Прадстаунікі панства ў сейме, пасольскі клуб эндэкаў выступаюць, нарэшце, з патрабаваннем да ўрада забараніць БСР Грамаду як палітычную партыю, якая пагражае ўстоям дзяржавы.

Адказваючы на ўсе прошукі рэакцыі, Тарашкевіч з трыбуны сейма ў гэты час выступае з бліскучай абаронай шырока папулярнай арганізацыі заходнебеларускіх сялян і рабочых, паказвае вытокі яе сілы, называе прычыны небывалага росту, дае трапнае азначэнне палітычнай платформы Грамады. «Ужо два месяцы польскую буржуазную прэсу, — гаварыў ён, — аблятаюць трывожныя чуткі, што ў Заходняй Беларусі ўздымаюцца страшэнныя бальшавіцкія хмары. Прыпісваюцца ёй (Грамадзе. — А.Л.) несусветныя рэчы, што, маўляў, вось ужо арганізаваны ўсе паветы, усе гміны, усе вёскі, што якіясьці тайныя арганізацыі параздавалі ўжо зброю...»

«Колькі праўды ў гэтых чутках?» — пытаўся прамоўца і адказваў на сваё пытанне: «Праўда тое, што ў Заходняй Беларусі, у Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе зарганізаваліся на працягу сёлетняга года самыя шырокія масы сялян і работнікаў, і такой вялікай арганізацыі яшчэ не бачылі ўсходнія ўскраіны. Праўда, што за гэтай арганізацыяй ідуць усе ўсходнія ўскраіны, ідзе працоўны люд польскай нацыянальнасці. Гэта праўда. Праўда тое, што ва ўсіх напрамках жыцця выявілася надзвычайная актыўнасць беларускага народа, а іменна і ў кірунку нацыянальным і сацыяльным. Усё гэта шукала сваіх форм арганізацыі і знайшло іх».

Тарашкевіч раскрываў сапраўдныя прычыны шуму, узнятага вакол арганізацыі працоўных Заходняй Беларусі: «Палохае паноў... не беспасрэдная акцыя Грамады, бо гэтага Грамада не прапагандуе. Палохае вас іменна тое, што народ збудзіўся, што выявіў сваю актыўнасць, выявіў масавасць руху».

Коратка ахарактарызаваўшы праграму БСР Грамады як «эмпірычную, практычную, такую, якой шырокія масы навучыліся ад жыцця», Тарашкевіч так акрэсліў праграму рабоча-сялянскай арганізацыі: «Няма нічога ў гэтай праграме, чаго б не хацеў сам народ: рабочы, селянін, інтэлігент. Грамада з'яўляецца выражэннем пакутлівых выпрабаванняў апошняга дзесяцігоддзя, расчараванняў і надзей, выражэннем штодзённых патрэб і агульных імкненняў — нацыянальных, сацыяльных і палітычных усяго працоўнага люду Заходняй Беларусі». І тут жа ён даў кароткую перадгісторыю БСР Грамады, аналіз сацыяльна-эканамічных, палітычных і псіхалагічных прадпасылак узрастання Грамады на заходнебеларускіх землях.

Прамоўца пераканаўча паказаў, як само жыццё, палітычныя ўмовы і адносіны сталі грамадскай школай для працоўных: «Замест

правоў, гарантаваных канстытуцыяй, замест грамадскіх свабод... народ наш адразу бачыў і адчуў на сваёй уласнай скуры гвалт, тэрор, права і сілу багатых і прывілеяваных... І, паны, хочаце ў гэтай сітуацыі, каб... народ сядзеў ціха, ані азваўся і не шукаў дзе-небудзь сілы не толькі для абароны сваіх правоў, а і для абароны жыцця. Не знайшоўшы гэтай абароны ў канстытуцыі, ані ва ўрадах, ані ў судах, што незалежныя толькі на словах, селянін, работнік — увесь працоўны люд, увесь народ беларускі шукае гэтай сілы ў сабе, ва ўласнай арганізацыі».

Тарашкевіч адкінуў правакацыйнае абвінавачванне ў адрас Грамады ў пашырэнні індывідуальнага тэрору, падкрэсліўшы, што «мы арыентуем мысленне ўсіх, волю народа так, каб кожную хвіліну і пры любых акалічнасцях даваў масавы арганізаваны адпор пры абароне сваіх правоў, пры абароне сваіх палітычных інтарэсаў...»

Яшчэ раз Тарашкевіч карыстаецца выпадкам заклікаць масы да арганізаванай барацьбы, папярэджвае іх супраць разрозненых выступленняў, якія буржуазія рада справакаваць.

Перад ворагамі і сябрамі, перад усім працоўным народам Тарашкевіч гаварыў у сваёй апошняй парламенцкай прамове аб задачах барацьбы, у першую чаргу пра больш цеснае аб'яднанне працоўных: «Будзем бараніць правы свае, будзем заклікаць да пазіцый цвёрдых і непахісных. Будзем заклікаць да асветы, да салідарнасці, да ахвярнасці, да арганізацыі і яшчэ раз да арганізацыі, да арганізацыі палітычнай, культурна-асветнай: школ, народных дамоў, бібліятэк; да эканамічнай арганізацыі: каапераціі; земляробчых гурткоў і г.д. і г.д. Усе разам, усе за аднаго, адзін за ўсіх, усе разам грамадой, бо грамада — вялікі чалавек!»

На выклік чорнай рэакцыі, самых ліхіх яе планаў Тарашкевіч адказваў з глыбокай верай, што ўжо ні тэрор, ні забароны не могуць спыніць вызваленчыя імкненні мас, што нацыянальна-вызваленчы рух беларускага народа будзе ісці да перамогі: «Можаце зачыніць арганізацыі Грамады і пасадзіць паслоў і нашых дзеячаў у турму. Шмат месца яшчэ ёсць на Лукішках і ў іншых астрогах, але сотню тысяч арганізаванага люду не пасадзіце ў астрог, не пасадзіце туды ўсёй Заходняй Беларусі, усіх сялян і работнікаў. А ўвесь народ ідзе за намі...»

У гэты напружаны час услед за Тарашкевічам прадстаўнік польскага пралетарыяту ў сейме дэпутат Сахацкі 15 снежня 1926 г. выступіў з перасцярогай заходнебеларускіх і ўкраінскіх мас ад несвоечасовых выпадковых выступленняў. «Мы, камуністы, — гаварыў ён, — лічым сваім абавязкам папярэдзіць працоўныя масы з гэтай

трыбуны. Нам вядома, што розныя цёмныя сілы польскай рэакцыі і фашызму хочуць справакаваць беларускі народ, падбухторваючы на паасобныя неарганізаваныя выступленні, якія толькі адны ў сённяшняй сітуацыі могуць дапамагчы фашызму. Лічым сваім абавязкам з гэтай трыбуны засцерагчы беларускіх і ўкраінскіх сялян: «Беларускія і ўкраінскія сяляне, не дайцеся справакаваць сябе, захавайце дух нязломнай барацьбы, неадступна гуртуйцеся пад сцягам сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення і памятайце, што перамагчы можаце толькі ў масавым змаганні, якое будзе праходзіць разам з польскім пралетарыятам!»

Крывавым актам праследавання Грамады ўладай з'явіўся арганізаваны напад банды шпікоў, паліцыі, наёмных грамiл — усяго лікам 200 чалавек — на ўдзельнікаў павятовага з'езду БСР Грамады ў мястэчку Стара-Бярозава, на Беласточчыне.

У час абмеркавання стара-бярозаўскіх падзей у сейме грамадоўскія паслы ўрачыста паклалі на трыбуну парламента акрываўленыя кашулі беларускіх рабочых і сялян, удзельнікаў афіцыйна дазволенага ўладамі павятовага з'езду.

Здымкі-партрэты акрываўленых паслоў Мятлы і Валошына абышлі ўсе прагрэсіўныя газеты краіны. Крывавая расправа з прадстаўнікамі Грамады ў Стара-Бярозаве знайшла водгук і за мяжой.

Цэнтральная адміністрацыя адмаўляла сваё дачыненне да спраў у Стара-Бярозаве, злавесна маўчала. Але па ўсім адчувалася, яна рыхтуе ўдар. На пачатку студзеня 1927 г. у Пілсудскага са спецыяльным дакладам аб становішчы ў Заходняй Беларусі пабываў міністр унутраных спраў абшарнік Мейштовіч. Перад гэтым кіраўніка ўрада наведала дэлегацыя «крэсавых» абшарнікаў. Напярэдадні 14 студзеня ў час кароткай аўдыенцыі ў Пілсудскага, у ходзе якой Мейштовіч канчаткова пераканаў кіраўніка дзяржавы, што толькі расправа з Грамадой можа перапыніць, на нейкі час паралізаваць вызваленчыя імкненні заходнебеларускіх мас, яму была дадзена санкцыя на разгром БСР Грамады.

Напярэдадні памятнай для ўсёй Заходняй Беларусі студзеньскай ночы, пры сустрэчы новага, 1927 г. Браніслаў Тарашкевіч апошні раз публічна выступіў перад прадстаўнікамі грамадскасці, перад беларускімі палітычнымі і культурнымі дзеячамі.

Першым на банкеце сказаў невялікі тост Рыгор Шырма. Сэнс яго выступлення быў такі: мінулы, 1926 г. быў нязмерна цяжкі для нашага народа, для працоўных Заходняй Беларусі; няхай жа новы, будучы год не патрабуе ад нас столькі ахвяр.

Са словам у адказ падняўся Тарашкевіч. «Не, — сказаў ён, — ідзе суровае змаганне за сацыяльную і нацыянальную свабоду беларускага народа. Год ад году яна мацнее. А дзе змаганне, там будуць і ахвяры. Мы павінны быць да іх гатовы...»

Было ў гэтай карэктыве не толькі ўменне адважна зірнуць праўдзе, будучыні ў вочы, але і неадольная вера ў перамогу народа.

У ноч з 14 на 15 студзеня 1927 г. па ўсёй Заходняй Беларусі — ад Беластока да Негарэлага, ад Друі да Пінска і Брэста — польская палітычная паліцыя правяла масавыя арышты грамадоўцаў і членаў КПЗБ. Паліцыя схапіла ўсіх кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, павятовы актыў і найбольш дзейсных актывістаў мясцовых гурткоў. Усяго было арыштавана 850 грамадоўскіх дзеячаў. Разам з пасламі-грамадоўцамі быў незаконна пазбаўлены права недатыкальнасці і арыштаваны адзін з кіраўнікоў Незалежнай партыі хлопскай Фелікс Галавач.

У сакавіку 1927 г. БСР Грамада і НПХ былі абяўлены ўрадам Пілсудскага па-за законам, дзейнасць іх — антыдзяржаўнай. Так буржуазна-абшарніцкая ўлада рукамі памешчыка Мейштовіча ажыццявіла замах на грамадскія і культурныя заваёвы заходнебеларускіх працоўных.

К моманту разгрому БСР Грамада налічвала ў сваіх радах, паводле даных яе галоўнага сакратара Максіма Бурсевіча, звыш 100 тысяч чалавек. З іх 55-60 працэнтаў складалі сяляне-беднякі, 25 — сераднякі, 12,5 — рабочыя і рамеснікі, 2,5 працэнта — інтэлігенцыя.

Апазіцыйныя сілы ў сейме выступілі з катэгарычным пратэстам супраць аддачы паслоў у рукі паліцыі, у абарону легальнай арганізацыі заходнебеларускіх працоўных. Услед за прадстаўнікамі Беларускага пасольскага клуба ад імя камуністычнай пасольскай фракцыі 27 студзеня ўзяў слова дэпутат Варшаўскі. «У сувязі з прапановай праекта бюджэту, які з'яўляецца выражэннем фашыстоўскага рэжыму, пасольская камуністычная фракцыя, — сказаў ён, — заяўляе наступнае: «Адкідаючы бюджэт фашыстоўскага ўрада, камуністычная фракцыя не можа абысці маўчаннем гвалтаў, толькі што ўчыненых над беларускім народам, гвалтаў, якія кідаюць яскравае святло на пануючы рэжым фашызму».

Праз некалькі дзён, выступаючы з трыбуны сейма, Сахацкі перад дэмакратычнай грамадскасцю ўсяго свету выкрываў душыцеляў заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх мас, працоўнага польскага народа — польскіх імперыялістаў. Прадстаўнік польскага пралетарыяту намаляваў жахлівую карціну сацыяльнага і нацыянальнага ўціску на ўскраінах.

За два месяцы да арышту Тарашкевіч у сваёй апошняй прамове ў сейме Рэчы Паспалітай выказаў глыбокую ўпэўненасць, што ў выпадку рэпрэсій супраць Грамады працоўныя Заходняй Беларусі і салідарныя з імі працоўныя Заходняй Украіны і Польшчы дадуць належны адпор планам рэакцыі. Падзеі паказалі, што вера гэта не была беспадстаўнай. І не толькі працоўныя Польшчы, Беларусі і Украіны, а ўвесь прагрэсіўны свет сказаў сваё рашучае слова ў абарону нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі, у абарону Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

На дэманстрацыі пратэсту супраць расправы з БСР Грамадой і грамадоўцамі выйшлі рабочыя Гродна, Маладзечна, Слоніма, Вілейкі, Ашмян і Скідэля. Рэзалюцыі пратэсту супраць фашыстоўскага тэрору былі вынесены ў многіх мястэчках і вёсках Заходняй Беларусі. Асабліва вялікай дэманстрацыяй у абарону Грамады была арганізаваная падпольным райкомам КПЗБ дэманстрацыя ў Косаве. Паліцыя расстраляла косаўскую дэманстрацыю, і гэта яшчэ больш садзейнічала хутчэйшаму пераняcенню буры пратэсту за межы Заходняй Беларусі. Адным з першых сваю салідарнасць са змагарамі БСР Грамады і НПХ выказаў лодзінскі пралетарыят. Камуністычныя парламентарыі Францыі і Бельгіі прыслалі ўраду Пілсудскага свой пратэст супраць расправы з Грамадой. У гэты суровы час працоўныя Заходняй Беларусі з асаблівай вастрынёй адчулі братэрскую руку дапамогі рабочага класа і сялянства Савецкага Саюза. У Мінску быў створан спецыяльны камітэт абароны Грамады. Яго ўзначалілі выдатныя прадстаўнікі беларускай культуры Янка Купала і Якуб Колас. Камітэт разгарнуў актыўную дзейнасць у падтрымку Грамады, у падтрымку працоўных Заходняй Беларусі.

Свой гнеўны голас да абуранага голасу ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва далучылі чэшскія і славацкія вучоныя і пісьменнікі, дзеячы нямецкай навукі і культуры. Сярод падпісаўшых пратэст у абарону Грамады былі імёны выдатных прадстаўнікоў сусветнай прагрэсіўнай думкі Здэнэка Няедлага, Іаганеса Бехера, Эрвіна Кіша, Марыі Пуйманавай і многіх іншых.

Цэлы год цягнулася падрыхтоўка судовай расправы над Грамадой. Буржуазна-абшарніцкі ўрад намагаўся зрабіць выгляд законнасці, правасуддзя, каб як-небудзь апраўдацца перад сусветнай грамадскасцю за рэпрэсіі супраць цэлага народа. Арганізатары суда над Грамадой хацелі кінуць цень на перадавы атрад барацьбітоў вызвалення, па-фарысейску стаць у позу добразычліўцаў беларускага народа ў той час, як забіваліся самыя элементарныя яго імкненні да свайго духоўнага развіцця.

Рэпеціравалася велізарная армія сведак, галоўным чынам з паліцэйскіх, тайных агентаў дэфензівы, «крэсавых» чыноўнікаў. Яны, па задуме душыцеляў Грамады, павінны былі давесці злачыннасць гэтай арганізацыі працоўных, уся дзейнасць якой нібыта была накіравана на адарванне заходнебеларускіх зямель ад Польшчы і далучэнне іх да Савецкага Саюза. Асаднікі, канфідэнты, кіраўнікі паліцэйскіх камісарыятаў павінны былі даказаць тое, аб чым істэрычна крычаў увесь буржуазны друк: пра наяўнасць у Грамады вялікіх складаў зброі, аб тайнай працы кіраўнікоў Грамады на карысць замежнай дзяржавы, аб падрыхтоўцы паўстання.

23 лютага 1928 г. у памяшканні Віленскага акруговага суда пачаўся судовы працэс над Беларускай сялянска-работніцкай грамадой. На лаве падсудных у акружэнні паліцэйскіх сядзелі 56 лепшых сыноў і дачок заняволенай працоўнай Заходняй Беларусі. Яны аддавалі свой розум і сэрца, лепшыя, самыя высакародныя парыванні душы справе вызвалення свайго народа. Першыя рады падсудных — кіраўнікі БСР Грамады на чале з Тарашкевічам, прадстаўнікі працоўнай інтэлігенцыі, кроў ад крыві, косць ад касці дзеці сялян і рабочых. За імі густа сядзелі шэрыя світкі — павятовы актыў Грамады, найбольш дзейсныя члены яе з усёй Заходняй Беларусі. На сцяне напісаны аршыннымі літарамі крываві ўся на палотнішчы загад ваяводы Рачкевіча аб роспуску Грамады і забароне яе дзейнасці. Абвінаваўчы бок, афіцыйную Польшчу прадстаўлялі пракуроры Раўзэ і Колапскі, маладыя юрысты, якія імкліва падымаліся ўверх па службовай лесвіцы. Старшынстваваў на судзе Аўсянка. Усё гэта былі людзі, якія верай і праўдай служылі пануючаму рэжыму і «крэсавым» абшарнікам у прыватнасці. Аўсянка, напрыклад, у мінулым быў выхавальнікам радзівілаўскіх нашчадкаў. Ён люта ненавідзеў новы свет, які паўстаў да жыцця на Усходзе, і баяўся яго. Сучаснікі сведчаць, што нават будучы моцна хворым, ён звычайна ехаў за многа кіламетраў на суд над заходнебеларускімі сялянамі, бо, бач, без яго «тых бандытув не расстраляён...»

Гэтым людзям кар'еры і казённага прэстыжу супрацьстаяла вялікая праўда, якую неслі ў сваіх сэрцах абвінавачаныя грамадоўцы, праўда прагнучай свабоды зямлі, праўда людзей працы ўсёй Заходняй Беларусі. Баранілі Грамаду лепшыя адвакацкія сілы Польшчы. Для большасці з іх справа Грамады была справай грамадзянскага сумлення, справай вернасці рэвалюцыйным традыцыям лепшых сыноў сваёй Айчыны.

Абарону вялі адвакаты Смяроўскі, Бабянскі, Гонігвіль, Этцынгер, Абрамовіч, Кржаноўскі, Дурач, Петрусевіч. Два апошнія пазней

загінулі ад рук гітлераўцаў. Такія ж, як Бабянскі, Гонігвіль, мелі за сваімі плячыма вопыт абароны рэвалюцыйных змагароў у судовых залах Вены, Берліна, Варшавы...

Доступ на суд быў гранічна абмежаваны. Усё ж на ім прысутнічалі паслы клуба «Змаганне» — непасрэдныя спадчыннікі рэвалюцыйных традыцый Грамады, замежныя журналісты. Сярод іх — карэспандэнт «Известий» Брацін, пазней блізкі сябра Тарашкевіча. Вітаць змагароў Грамады ў цяжкі іх час ад камуністычнай пасольскай фракцыі прыехалі Варскі і Бітнер, ад украінскіх парламентарыяў — Вальніцкі.

Працэс пачаўся з апытання абвінавачаных. Першым на стэрэатыпныя пытанні суда адказваў Тарашкевіч. Яго асоба ўвогуле была ў цэнтры ўсяго судовага працэсу. «...Былы пасол сейма, адукацыя — універсітэцкая, беларус, вальнадумец (у сэнсе атэіст. — А.Л.), сталае месца жыхарства — турма Лукішкі.

— Не можа быць турма пастаянным месцам жыхарства, — хвалюецца старшыня.

— На працягу апошняга года, — чуе ўся зала, — турма з'яўляецца маім сталым месцам жыхарства, і сакратар вымушан запісаць гэты настойліва паўтораны адказ. Суд пачынаўся з дэманстрацыі... А далей пацягнуліся дзень за днём доўгае і нуднаватае разбіральніцтва, допыт сведак. Перад судзейскім сталом прайшоў даўжэзны ланцуг паліцэйскіх «маэстра», часам ужо некалькі натрэніраваных на «выкрыцці камунізма» ў ходзе папярэдніх працэсаў. Іх нязмерная мана асядала шэрым пылам. Вострыя пытанні абароны прымушалі спатыкацца, канфузна фыркаць і замаўкаць пахабнаватых «герояў» дэтэктыва. Як мыльны пузыр, лопнула стаўка абвінавачання на правакатара Гурына, выкрыты як клятвапарушальнік і шпіён сышоў з падмосткаў Бабіч.

З усіх 660 сведак 450 былі з боку абвінавачання. Усе яны з нянавісцю гаварылі аб росце свядомасці беларускіх сялян і рабочых, аб неплацяжы падаткаў, напіралі на ўяўныя склады зброі, якія нібыта недзе хтосьці бачыў, штосьці чуў аб іх, гаварылі аб быццам назначаным на вясну ўзброеным выступленні.

На паверку ж аказвалася (і судовая экспертыза гэта пацвердзіла), што міфічныя склады зброі — гэта толькі 9 саржавелых вінтовак розных узораў — спадчына імперыялістычнай вайны. Як трапна заўважыў абаронца, з адной з іх ужо «стралялі» на мінулых палітычных працэсах.

Пад скрыжаваным агнём абароны падстаўныя сведкі блыталіся, з паліцэйскай сарамлівасцю мармыталі аб сваім патрыятычным абавязку, спасылаліся на дзяржаўную тайну, якую яны не могуць

выдаць. Абвінавачанне было беспадстаўным, ілжывым. Буржуазны суд намагаўся неяк прыкрыць сваю лютую класавую нянавісць да радыкальнай арганізацыі заходнебеларускіх працоўных, да прадстаўнікоў вызваленчага руху.

Падсудныя трымаліся мужна, наступальна. За рэплікі ў бяссільнай злосці старшыня суда загадваў двойчы вывесці Тарашкевіча з судовай залы. У перапынках паміж пасяджэннямі суда, пакінутыя адны пад вартай, грамадоўцы горача дыспутавалі: «Спрачаліся, — успамінае К. Гоцка, якая 22-гадовай дзяўчынай трапіла на лаву падсудных за ўдзел у вызваленчай барацьбе, — аб будучыні рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, у Польшчы і ва ўсім свеце. Праблемы сацыяльнага і нацыянальнага жыцця, пытанні культуры ставіліся з усёй вастрынёй, горача абмяркоўваліся».

Асабліва многа спрэчак было па аграрнаму пытанню, аб будучыні народа. Тарашкевіч заўсёды задаваў тон дыскусіі, быў у цэнтры яе. Ён развіваў думку, што сацыяльная і нацыянальная свабода беларускага народа ўжо прадвызначана. Яна ляжыць толькі на сацыялістычным шляху. Толькі перамога сацыялізма можа да канца, ва ўсіх галінах распрыгоніць стваральныя сілы народа, можа здзейсніць мары святлейшых галоў чалавецтва — стварыць грамадства, дзе кожная развітая чалавечая адзінка, кожны чалавечы, нацыянальны калектыў будзе неабходнай перадумовай для гарманічнага развіцця ўсіх.

Гаворачы аб Грамадзе, аб вызваленчым руху, Тарашкевіч тлумачыў, што ён (рух) стварыў і будзе ствараць тысячамі барацьбітоў за народнае права.

«Не Тарашкевіч стварыў Грамаду, а Грамада стварыла Тарашкевіча», — развіваў пазней гэту думку адвакат Тэадор Дурач у час сваёй абарончай прамовы.

У перапынках у час суда грамадоўцы, нягледзячы на пратэсты паліцэйскіх, спявалі рэвалюцыйныя і народныя песні. Сярод іншых Тарашкевіч вельмі любіў песню «Шалейце вы, каты!» і «Зорку Венеру» М. Багдановіча.

У першыя ж дні зняволення Тарашкевіч склаў «Марш Грамады», хтосьці з вязняў прыдумаў мелодыю, і стала жыць у Лукішскіх мурах новая баявая песня. Пазней яна прасачылася на волю і зажыла ў народзе як напамінак аб паходні, запаленай Беларускай сялянска-работніцкай грамадой, як клятва вернасці рэвалюцыйным запаветам яе.

Сто тысяч нас было сяброў —
Вялікі чалавек.
А яшчэ больш было дружкоў:

Не палічыць павек.
Смялей, сябры, — ужо світае.
Гарыць зарой усход
І Беларусь ярмо скідае,
У бой ідзе народ.
Ўжо волі час, ўжо волі час,
Ужо волі час бліжэй да нас!..

На жаль, бархатны барытон кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага, былога актыўнага барацьбіта камсамольскага падполля ў Заходняй Беларусі, на гэтых словах абрываецца. Памяць не зберагла ўсёй гэтай баявой парывістай песні.

Ішоў ужо трэці месяц, а суд над Грамадой яшчэ не канчаўся. Гэта быў першы самы вялікі палітычны працэс у санацыйнай Польшчы, і да ходу яго прыслухоўваўся ўвесь свет. Орган ЦК Чырвонай дапамогі Заходняй Украіны — газета «Політичний вязень Західної України» за сакавік 1928 г. паведамляла, што ў Англіі, у памяшканні Альберт-хола, адбыўся шасцітысячны мітынг рабочых у абарону БСР Грамады. Падобныя мітынгі прайшлі ў Францыі, Амерыцы. Прагрэсіўны друк усіх краін прысвяціў грамадоўскаму руху нямала старонак.

Прадстаўнікі балканскіх радыкальных арганізацый звярнуліся з заклікам да працоўных Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У закліку падкрэсліваецца супольнасць інтарэсаў і барацьбы заняволеных народаў Балкан з рэвалюцыйнай барацьбой польскага пралетарыяту, сялянства, а таксама з вызваленчым рухам беларусаў і ўкраінцаў.

Хвалі пратэсту, гневу і абурэння біліся аб муры буржуазнага правасуддзя ў Вільні, аб сцены Варшаўскага бельведэра.

На судзе як не трэба лепш пацвердзіліся словы Тарашкевіча, сказаныя ім калісьці ў сейме: «Дэфензіва судзіць, дэфензіва і правіць. Суд з'яўляецца мёртвай прыладай у руках дэфензівы».

У канцы трэцяга месяца судовага працэсу пасля абвінаваўчых прамоў пракурораў Раўзэ і Колапскага, закіду Грамадзе ў змове супраць пануючага ладу, у пакушэнні на цэльнасць дзяржавы слова ўзяла абарона. У глыбока аргументаванай прамове адвакат Смяроўскі даказаў, што акцыя супраць БСР Грамады — гэта акт помсты, гэта імкненне правячых колаў адмовіць беларусам у праве на грамадскае і культурнае развіццё. «Мы павінны катэгарычна сказаць, — гаварыў Смяроўскі,— што беларуская нацыянальнасць існуе, што мы з'яўляемся сведкамі нараджаючайся беларускай нацыянальнай свядомасці, якой ніхто не ў сілах стрымаць, бо гэта — сама рэчаіснасць». Адвакат

пераканаўча паказаў, якім абсурдным з'яўляецца сфармуляванае пракуратурай абвінавачанне ўсёй стотысячнай арганізацыі ў палітычнай змове, дыверсіях і т.п.

Баронячы гонар прагрэсіўнай Польшчы, звяртаючыся да пракурораў і суддзяў, генерал-адвакат Бабянскі гаварыў: «Суд мае перад сабой нечувана цяжкі абавязак. На лаве абвінавачання — людзі, якія жывуць у гэтым краі спрадвеку вякоў, што на чале з Вітаўтам ішлі на Грунвальд. Вы, паны суддзі, павінны аддаць доўг гэтай зямлі, узяты ад яе. Гэта зямля выдала геніяў духу, а перад усім Міцкевіча, які быў пранята культурай яе. Гэты доўг удзячнасці беларускаму народу мы павінны сплаціць».

Пранікнёным, глыбока пераканаўчым было выступленне прафесара Віленскага універсітэта Казіміра Петрусевіча. Ён зазначыў, што грамадоўцы змагаліся за тыя ж ідэалы, за якія 21 сакавіка 1864 г. на Лукішскім пляцы смерцю героя загінуў 26-гадовы Кастусь Каліноўскі; гэтыя ідэалы — вызваленне беларускага працоўнага люду, вызваленне сацыяльнае і нацыянальнае.

Як і ягоныя калегі, Петрусевіч зрабіў бездакорны юрыдычны аналіз абвінавачанняў у адрас БСР Грамады і паказаў, што яны не маюць пад сабой рэальнай глебы, што іх інакш нельга разглядаць, як судова аформленую расправу з палітычнымі праціўнікамі. Нават людзі, якія кроўна былі звязаны з пануючым класам, адчулі ўсю штучнасць абвінавачання суда. З адкіданнем грубага паклёпу на Тарашкевіча і іншых грамадоўцаў у судзе выступіў пасол Хамінькі і віцэ-прэм'ер Польшчы Тугут. Апошні, абураны нізкімі выпадамі супраць старшыні Грамады з боку пракурора Раўзэ, заявіў: «Тарашкевіч у сваёй працы заўсёды кіраваўся ідэёвымі высакароднымі пабуджэннямі. Тарашкевіч — гэта шчыры беларускі патрыёт. Ен працаваў для свайго народа; уласная карысць і кар'ера для яго не існавалі».

У апошнім сваім слове ў судзе кіраўнік БСР Грамады спыніўся на канкрэтных фактах, якія садзейнічалі эвалюцыі грамадскай думкі ў Заходняй Беларусі за апошняе дзесяцігоддзе.

Уласна ён расказаў, як выспявала ідэя аб'яднання беларускіх мас для барацьбы за свае права, як нараджалася Грамада. «Вывучаў я настрой вёскі і пераканаўся, што неадпаведная апазіцыя партый бессэнсоўная, — гаварыў Тарашкевіч. — Я зразумеў, што калі звярнуцца да народа з яснай і выразнай праграмай, то народ адгукнецца на заклік і створыць вялікую сілу, з якой трэба будзе лічыцца...»

Тарашкевіч указвае на творчы палітычны пачатак саміх мас. Далей, развіваючы думку аб тым, што зрабіла Грамаду масавай арганізацыяй працоўных Заходняй Беларусі, якая была яе праграма і

тактыка, Тарашкевіч тлумачыў: «Толькі жыццё, логіка давялі да арганізавання Грамады... Народ сам сабе, народ уласнай працай і ахвярнасцю здабудзе рэалізацыю гарантаваных канстытуцыяй правоў. ...Здабыццё правоў гэтым шляхам прадбачыў яшчэ ў 1906 г. геній Янкі Купалы, калі спяваў: «А хто там ідзе, а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? — Беларусы». Ён прадбачыў, што толькі высілкам (намаганнем. — А.Л.) усяго народа, грамадой можна здабыць правы. Бяда, гора, аб якіх спяваў Купала, стварылі «Грамаду».

Не хаваў ад буржуазнага суда старшыня БСР Грамады сваіх гарачых сімпатый да краіны перамогшых рабочых і сялян. «У БССР будуецца беларускі дом... Саветы з'яўляюцца першым крокам у канкрэтнай гісторыі сацыялізма. Беларускі народ абудзіўся і рабом не застанецца»,— гаварыў Тарашкевіч, адыходзячы на доўгія гады за краты.

Па 12 год зняволення чатыром членам ЦК Грамады — Тарашкевічу, Рак-Міхайлоўскаму, Мятле, Валошыну, ад 3 да 8 год — супрацоўнікам Цэнтральнага сакратарыята, членам павятовага актыву — такім быў прысуд буржуазна-абшарніцкага суда.

Катаржны прысуд грамадоўцы сустрэлі з узнятай галавой, з песняй-гімнам абуджанай зямлі. Абсыпаныя кветкамі беларускіх палёў, з баявой песняй на вуснах адыходзілі грамадоўцы на доўгія гады ў няволю. Не затрымліваючы ні дня ў Вільні, іх разаслалі па розных астрогах. Тарашкевіч быў выслан у Грудзёнц.

## ЗМАГАННЕ НЕ СПЫНЯЕЦЦА І ЗА КРАТАМІ

Нягледзячы на строгую ізаляцыю паслоў (Тарашкевіч увесь час сядзеў у адзіночцы), ЦК КПЗБ хутка ўстанавіў з імі сувязь. У гэты час вакол рэвалюцыйнай спадчыны БСР Грамады ўжо разгаралася сапраўдная барацьба. Невялічкая частка грамадоўцаў, якая скарылася перад уладай і атрымала апраўданне, намагалася ўзяць сцяг нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў свае рукі і накіраваць народны рух па згодніцкаму шляху. Буржуазна-нацыяналістычную групоўку гэту ўзначальваў Р. Астроўскі. Урад жа са свайго боку праз афіцыйныя органы імкнуўся паказаць сапраўдных кіраўнікоў Грамады як людзей, што адарваліся ад вызваленчага беларускага руху, заблудзіліся... Орган віленскіх пілсудчыкаў «Kurjer Wilienski», той самы, што клікаў да разгрому Грамады, раптам перамяніў тон, стаў патрабаваць адмены рашэння суда ў дачыненні да грамадоўцаў, а Тарашкевіча назваў беларускім Гандзі.

Група здраднікаў імкнулася сцягнуць за сабой на шлях згодніцтва калі не ўсіх, то хоць паасобных членаў кіруючага ядра БСР Грамады. У адказ на іх захады Тарашкевіч заявіў у турэмнай адозве, супрацьстаўляючы сваё разумение нацыянальнага пытання разуменню буржуазнаму: «Я апіраюся на Маркса, я не нацыяналіст. Разрашэнне беларускай справы, як наогул усіх нацыянальных спраў... бачу праз сацыялістычную рэвалюцыю».

Не выпрошванне цаной здрады лепшым ідэалам яшчэ адной беларускай школы, гімназіі, а бязлітасная барацьба супраць усёй сістэмы капіталістычнага ладу, эксплуатацыі і нацыянальнага прыгнечання, — да гэтага і толькі да гэтага клікаў з-за крат арганізатар Грамады.

У турме Тарашкевіч не толькі не адчуваў сябе неаддзельным ад змагароў, што працягвалі барацьбу на волі, не толькі ўносіў у яе свой уклад як палітык, але і шмат папрацаваў над узбагачэннем духоўнай скарбніцы народа, для культуры і навукі яго.

Са слоў адваката Смяроўскага, сказаных ім на судзе, відаць, што на працягу 1927 г., за час знаходжання Тарашкевіча ў адной з самых суровых турмаў Польшчы — на Вронках, ён закончыў пераклад на беларускую мову найвялікшага літаратурнага помніка старажытнай пісьменнасці Грэцыі — гамераўскай «Іліяды». Гэта велічнае тварэнне элінскай культуры ўразіла Тарашкевіча яшчэ ў студэнцкія гады. Захапленне ім паглыбілася і набыло акрэсленыя формы ў плане літаратурных задум, калі Тарашкевіч нейкі час працаваў прыват-дацэнтам старажытных моў пры Петраградскім універсітэце.

Першыя перакладныя фрагменты «Іліяды» з'явіліся ў 1923 г. на старонках заходнебеларускага перыядычнага друку. Іх было няшмат. Але пачатак справе быў пакладзен.

Палітычная праца, якая цалкам паглынула Тарашкевіча з часу абрання яго паслом і назначэння кіраўніком беларускага парламенцкага прадстаўніцтва, адсунула кудысь далёка на задні план літаратурныя клопаты і задумы. Аднак намер прымусіць загаварыць беларускім словам увесь гэты неабдымны свет старажытнай Элады, перакласці гэты «бязмежны, як блакітны небасхіл» (І. Гердэр), гамераўскі верш не пакідаў Тарашкевіча. Чалавек высокай культуры і шырокіх поглядаў, ён глыбока разумеў, як многа значыць перанесці на ніву роднай культуры гэты нязмерна вялікі здабытак чалавечага духу. Каму як не яму было адчуваць, які важкі гэта будзе ўклад у фундамент таго вялікага культурнага гмаху, што самі масы, абуджаныя вызваленчым рухам, пачалі цяпер так руплівa і спешліва ўзводзіць.

Праз роднае слова далучыць свой народ, яго самыя шырокія масы да сусветнай культуры, ці ж не прыспешыць гэта іх, ці не дапаможа штосьці даць і сваё ў агульначалавечую скарбніцу?

У адзіночцы на Вронках думкі аб толькі што адгрымеўшай эпапеі Грамады, аб бурлівым узлёце народнай самасвядомасці пераходзілі да эпічных карцін эпохі барацьбы ахейцаў з траянцамі. Шырокі, падобны рытму сэрцабіцця рытм «Іліяды» павярнуўся гулкімі мернымі крокамі ў астрожнай камеры. 24 песні старажытнагрэчаскага эпасу адна за другой «агучваліся» на беларускую мову. Менш чым год працягвалася настойлівая, дзень пры дні, праца. Яна была роўна подзвігу.

Тут жа, у астрожных мурах, зроблен быў яшчэ адзін вялікі літаратурны пачатак. Тарашкевіч амаль закончыў перакладаць твор, які шчодра ўвабраў у сябе водар нашай зямлі, жыватворны дух паэзіі беларускага народа, — паэму Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Заканчваў, шліфаваў пераклад яго Тарашкевіч ужо на волі, у маскоўскі перыяд свайго жыцця.

Летам 1928 г., знаходзячыся ў Грудзёнцкай турме, Браніслаў Тарашкевіч спалучае палітычную працу з лінгвістычнай, навуковай. Першы варыянт «Беларускай граматыкі» яго, хоць і быў прыязна сустрэты шырокай грамадскасцю, увайшоў ва ўжытак у Заходняй і Савецкай Беларусі, не задавальняў Тарашкевіча ў сэнсе паўнаты і з метадычнага боку. У турме вучоны зноў вярнуўся да працы над ёй. У 1929 г. выйшла пятае выданне «Беларускай граматыкі», дапоўненае і перапрацаванае. Тры папярэднія выходзілі без усялякіх змен. У прадмове, напісанай у Грудзёнцы да пятага выдання «Беларускай граматыкі», Тарашкевіч канстатаваў радасны факт вялікага поступу,

заваёў мовы свайго народа за апошнія дзесяць год: «Народная гаворка «сілаю» сталася «літаратурным языком». Зыходзячы з узросшага грамадскага значэння беларускай мовы, Тарашкевіч падкрэсліваў патрэбу «асабліва ўважліва апрацаваць яе як з боку навуковага, так і для школьнага ўжытку».

Аўтар «Беларускай граматыкі» зазначаў, што ён выразна бачыць «цэлую чараду яшчэ спрэчных пытанняў (у аканні, у правапісе іншамоўных слоў і інш.), бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя змены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік».

Тарашкевіч развівае думку аб тым, што рэформа правапісу павінна быць праведзена ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных норм. Пры гэтым усе меркаванні, прапановы, праекты павінны «прайсці праз публічнае сіта грамадскай і навуковай крытыкі».

Канкрэтна мэту новага, перапрацаванага і дапоўненага выдання «Беларускай граматыкі» Тарашкевіч акрэсліў тым, што «мае на ўвазе неадкладныя патрэбы беларускай школы і ўсіх тых многіх, што жадаюць вывучаць беларускую мову шляхам саманавучання».

Увесь курс граматыкі і правапісу беларускай мовы даследчык падзяліў на два колы.

У першым коле вучань уводзіўся ў свет агульных паняццяў аб мове, прывучаўся разбірацца ў граматычным матэрыяле, у другім коле ён меў магчымасць паглыбіцца ў моўныя законы, паўней вывучаць тое, аб чым раней атрымаў толькі агульнае ўяўленне. У кожнай лекцыі матэрыял падзелен на дзве часткі: для класнай работы і для самастойнай, хатняй. Моўны ілюстрацыйны матэрыял, як і ў першым выданні, узяты Тарашкевічам з багатай народна-паэтычнай спадчыны і са скарбніцы нацыянальнай літаратуры. Прыклады наглядныя з метадычнага боку і яркія па сваёй ідэйна-мастацкай фактуры.

У параўнанні з папярэднімі выданнямі ў апошнім значна пашыраны граматычныя азначэнні, паўней дадзены граматычныя, марфалагічныя і фанетычныя катэгорыі, усебакова разгледжаны часціны мовы, асабліва грунтоўна перапрацаваны і дапоўнен раздзел сінтаксісу.

Глыбока адлюстраваны ўсе спецыфічныя асаблівасці беларускай мовы ў канкрэтным па кожнай часціне і арфаэпіі праяўленні яе. Аўтар устрымаўся ад пашырэння на іншамоўныя словы асноўных рыс беларускай мовы — яе акання, дзекання і цекання.

У апошнім выданні беларуская граматычная тэрміналогія была канчаткова аформлена Тарашкевічам у тым выглядзе, якой яе

ведаюць і якой карыстаюцца сучасныя лінгвісты і шырокія колы грамадскасці рэспублікі.

Не толькі працоўныя Заходняй Беларусі, КПЗБ, дзеячы «Змагання» сачылі за барацьбой і працай Тарашкевіча. Гарачы ўдзел у лёсе кіраўніка нацыянальна-вызваленчага руху, выдатнага беларускага вучонага прымала і савецкая грамадскасць. У канцы 1928 г. у астрог да Тарашкевіча дайшла вестка пра абранне яго правадзейным членам Беларускай акадэміі навук. Прысваенне звання акадэміка было прызнаннем яго заслуг перад беларускай філалагічнай навукай. І яшчэ было важна, што яно прыйшло ў час: дадавала неабходнай падтрымкі ў працы, якая ішла цяпер у зусім незвычайных, ненармальных умовах.

У астрожныя гады Тарашкевіч арганічна спалучае навуковую працу з грамадскай, палітычнай. Ён адкладае кнігі, каб напісаць палымяную адозву да працоўных, і зноў вяртаецца да граматычных азначэнняў, да упарадкавання правіл, у строгіх формах якіх жыве, дыхае пераліваецца фарбамі ўсіх адценняў слова народа, якому грымець высокапаэтычнымі вершамі і трапляць прама ў сэрца з публіцыстычных прамоў.

Праз астрожныя краты з гарачым заклікам звяртаецца Тарашкевіч да рэвалюцыйных барацьбітоў, да ўсіх заходнебеларускіх рабочых і сялян, выказвае веру ў блізкую перамогу: «Працоўныя масы Заходняй Беларусі! Няхай вашая штодзённая барацьба дакажа, што чырвоны сцяг Грамады не выбіты з рук працоўных мас, што жыве і магутнее справа вызвалення беларускага народа з-пад польскапанскай акупацыі. Наперад, грамадоўцы, у першыя шэрагі змагаючыхся працоўных мас! Няхай баявыя сцягі Грамады развяваюцца ў класавых баях, якія разгортваюцца па ўсёй Польшчы ва ўсё большае полымя нянавісці, адвагі і помсты. Наша перамога набліжаецца, наша перамога немінуча!».

У астрозе Тарашкевіч паводзіў сябе як непахісны барацьбіт. І тут ён заставаўся духоўным магнітам, які прыцягваў к сабе людзей сваёй крыштальнай яснасцю думак, цэльнасцю натуры, высокай адукаванасцю і бязмежнай адданасцю справе народнага вызвалення. Былы вязень многіх белапанскіх астрогаў, цяпер калгаснік з-пад Нясвіжа, Лукаш Капытка ўспамінае, як Тарашкевіч «марзянкай» спытаў, за што ён сядзіць, адкуль родам, якую мае грамату, і потым на шпацыры ў вузкім турэмным двары вучыў яго, вясковага камсамольца, гісторыі свайго народа, гісторыі навуковага камунізма. «Мы акружалі яго ў часе прагулак, — прыгадвае свае астрожныя сустрэчы з Тарашке-

вічам Іван Каралевіч[5] які юнаком з-за парты трапіў прама ў Гродзенскую турму, і слухалі яго расказы пра вызваленчы рух у Заходняй Беларусі і Польшчы, пра творчасць вялікага буравесніка рэвалюцыі Максіма Горкага, пра паэзію Пушкіна і Багдановіча, пра мастацкія палотны Рамэна Ралана. А часам ён апавядаў нам беларускія народныя казкі, гаворачы пры гэтым: глядзіце, які хітры прастак наш селянін: усё ён бачыць, усё разумее, і ціха сам сабе кпіць... Успамінаючы Грамаду, ён казаў, што «яна прарабіла работу за цэлае стагоддзе. Грамада ўзняла дух народа і след яе не затруць паны». Нам, шаснаццацігадовым юнакам, ён часам па-бацькоўску крыху журботна казаў: «Рана, хлопцы, трапілі за краты. Трэба было яшчэ павучыцца...»

Бачачы напружаную працу Тарашкевіча ў турме і асабліва яго беспярапынную жывую сувязь з воляй, з камуністычным падполлем, улады імкнуцца пашырыць ілжывыя весткі аб пазіцыі былога старшыні Грамады, аднак іх выкрывае падпольны камуністычны друк.

У канцы лютага 1929 г. Тарашкевіча прывозяць у Вільню на перасуд. Парчэўскі, галоўны пракурор абвінавачання, выдаваў не толькі свой асабісты спалох, а і жах усёй буржуазіі перад абуджаным волатам — Грамадой. «Адчуваеш, што калоцішся ад страху, — гаварыў ён, — калі бачыш, што на гэткай вялікай тэрыторыі краю разраслася пухліна, што ў гэтым старадаўнім горадзе Гедыміна, у гэтых паўночных Афінах нарадзіўся змей з пяцікутнай зоркай на ілбе».

Апеляцыйны суд крыху зменшыў меру пакарання Тарашкевічу і іншым грамадоўцам. Калі ўлады пераканаліся, што гэта «літасць» не расчуліла кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі і яны не збіраюцца прыпадаць у экстазе ўдзячнасці да караючай рукі, Тарашкевіча ў верасні 1929 г. зноў прывозяць у Віленскі акруговы суд, успомніўшы яму прамову на рабочым мітынгу летам 1926 г. у кінатэатры «Геліос». Відавочная абсурднасць абвінавачання не спыняе прадстаўнікоў санацыйнага рэжыму. Яны адкладваюць працэс і толькі ў студзені 1930 г. спыняюць непрадуманы судовы фарс. Судовыя інсцэніроўкі ідуць адна за другой. Тарашкевіча судзяць за выступленне на павятовым з'ездзе Грамады ў Саколцы (на Беласточчыне). Выступленні палітвязняў Грудзёнцікай турмы, у якіх удзельнічаў Тарашкевіч, даюць адміністрацыі новы повад для ўзбуджэння судовай справы супраць непахіснага змагара.

І раптам нечаканы паварот: 24 ліпеня 1930 г. з'яўляецца спецыяльны рэскрыпт прэзідэнта аб часовым звальненні з турмы Тарашкевіча і яшчэ некалькіх грамадоўцаў. Замену бізуна на пернік

[5] Зараз працуе дырэктарам Лаўрушыцкай васьмігодкі ў Навагрудскім раёне.

Тарашкевіч сустрэў адмовай пакінуць турму. Яго выселілі сілай. Сам Тарашкевіч наступным чынам растлумачыў гэты акт «вялікадушша» санацыі: «Пасля разгрому Грамады асобы яе павадыроў і кіраўнікоў уяўляюцца ўраду больш шкоднымі, бо яны ў турме як пакутнікі за народную справу, чым вызваленыя са зняволення «вольныя» грамадзяне, але пазбаўленыя правоў, пазбаўленыя магчымасці весці грамадскую работу, — інакш кажучы, жывыя палітычныя трупы. Звесці ж справу «на нішто», дэзарыентаваць масы, пасеяць недавер і нават скампраметаваць павадыроў — вось сэнс нашага вызвалення».

Буржуазная прэса, польская і беларуская, падняла лямант вакол «вызвалення» грамадоўцаў. Трэба было спяшацца растлумачыць масам сэнс гэтай крывадушнай дабрадзейнасці, гэтай палітычнай афёры. І Тарашкевіч у дэкларацыі, шырока распаўсюджанай камуністычным падполлем, растлумачвае, што датэрміновае звальненне — гэта манеўр, разлічаны на падман мас, на сеянне ілюзій аб «супрацоўніцтве» з санацыяй, здрадзе Тарашкевіча і пераходзе яго ў нацыяналістычны лагер. Тарашкевіч заявіў, што ён да канца будзе змагацца за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных.

Пасля выхаду з турмы Тарашкевіч з галавой акунецца ў грамадскае жыццё. Легальныя формы барацьбы, якія нядаўна дазволілі ў рамках Грамады так шырока разгарнуць палітычна- выхаваўчую работу, так актывізаваць творчыя сілы народа, моцна звузіліся. Заставалася адна пляцоўка легальнай дзейнасці ў Заходняй Беларусі — Таварыства беларускай школы. Праз яго можна было падтрымліваць кантакт з шырокімі масамі, у гуртках Таварыства яшчэ жыў грамадоўскі дух.

Па ўспамінах былых падпольшчыкаў Аляксандра Шыдлоўскага і Мікалая Марцінчыка (апошні доўга працаваў па лініі кантактаў КПЗБ з легальнымі арганізацыямі), Браніслаў Тарашкевіч, апынуўшыся на волі, у першыя ж дні зайшоў у Галоўную ўправу ТБШ і папрасіў падрабязную інфармацыю аб дзейнасці і магчымасцях працы. Да наступнага арышту Тарашкевіча вельмі часта можна было бачыць у Галоўнай управе Таварыства. Кампартыя даручыла ў гэты час Браніславу Тарашкевічу адказнае кіраўніцтва ТБШ і ўсёй палітычнай работай, якая ішла праз апарат гэтай радыкальнай культурна-асветнай арганізацыі да яе нізавых звенняў — гурткоў.

1930 год быў апошнім годам легальнага існавання нацыянальна-вызваленчага фронту ў Заходняй Беларусі. Радыкальную арганізацыю Беларусі пасольскі клуб «Змаганне за інтарэсы сялян і работнікаў», якая была заснавана ў 1928 г. і ўнаследавала рэвалюцыйна-дэмакратычныя традыцыі Грамады, санацыйны рэжым разграміў, не

даўшы ёй разгарнуцца. Паслы Язэп Гаўрылік, Ігнат Дварчанін, Флегонт Валынец, Іван Грэцкі, Павел Крынчык і частка павятовага актыву «Змагання» апынуліся за кратамі. Браніслаў Тарашкевіч выкарыстоўвае сваё вызваленне, каб дапамагчы «змаганцам». Ён выдае адозву ў абарону «Змагання», выкрывае душыцеляў рэвалюцыйнага руху беларускіх працоўных. Не застаецца ў баку Тарашкевіч і ў час барацьбы беларускай санацыі за кіраўніцтва ТБШ. Ён у многім прычыніўся да таго, што ТБШ цвёрда засталося стаяць на рэвалюцыйна-дэмакратычных, вызваленчых пазіцыях, што яно і надалей засталося пад непадзельным уплывам КПЗБ.

Можна меркаваць, што якраз у сярэдзіне 1930 г. Тарашкевічам была напісана выдадзеная ў наступным годзе ў Мінску брашура «Заходняя Беларусь — плацдарм імперыялістычнай інтэрвенцыі». Брашура гэта — вынік роздуму над палітычным становішчам буржуазнай Польшчы, аналіз унутранай і знешняй палітыкі ўрада Пілсудскага. Тарашкевіч паказаў, што эканамічнае жыццё Заходняй Беларусі, як і ўвесь дзяржаўны і гаспадарчы арганізм Польшчы, паралізавана сусветным эканамічным крызісам. Надзвычай яскравая карціна сацыяльна-палітычных умоў Заходняй Беларусі ўставала перад чытачом. «Пад сцягам заведама ілжывых ліберальна-дэмакратычных і федаралісцкіх лозунгаў, пад сцягам заходнееўрапейскай культуры і амаль не амерыканскага «ўсеагульнага дабрабыту» польскія паны прынеслі нечуваную галоту для працоўных, хранічны голад, нязносную сістэму тэрору і бязлітаснага нацыянальнага прыгнечання, — пісаў Тарашкевіч. — На шыю рабочага і селяніна, даведзенага да жабрацтва вайной і хранічным крызісам гаспадаркі, села ў дзесяць разоў павялічаная маса новых паразітаў у выглядзе чыноўнікаў, паліцыі, асаднікаў, лёг у многа раз большы цяжар ваеннага і паліцэйскага бюджэту».

У гэтай брашуры Тарашкевіч даў перыядызацыю нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, ускрыў матывы асаблівай увагі да яго рэжыму Пілсудскага. Ён паказаў, што асноўныя прычыны настойлівага душэння польскім імперыялізмам вызваленчага змагання беларусаў у тым, што яно перашкаджае польскай экспансіі на Усход.

Беручы пад увагу фактары эканамічнага, ваенна-стратэгічнага парадку, Тарашкевіч наглядна паказаў, куды накіравана вастрыё дзяржаўнай палітыкі буржуазнай Польшчы і хто стаіць за яе спіной.

Брашура Тарашкевіча «Заходняя Беларусь — плацдарм імперыялістычнай інтэрвенцыі» садзейнічала дэмаскіроўцы планаў міжнароднай рэакцыі супраць першай краіны сацыялізма.

Пераканаўшыся, што Тарашкевіч не думае сыходзіць з наступальных рэвалюцыйных пазіцый, што ён па-ранейшаму з'яўляецца не толькі ідэйным натхняльнікам, але і кіраўніком нацыянальна-вызваленчай барацьбы, улады пачынаюць рыхтаваць супраць яго новы паход. Кампартыя імкнецца перашкодзіць планам рэакцыі ў адносінах Тарашкевіча. Па даручэнню ЦК КПЗБ Браніслаў Тарашкевіч у пачатку лютага 1931 г. едзе ў Берлін. У міжнародным цягніку, калі Тарашкевіч перасякаў «польскі калідор», у вагон уварвалася паліцыя і арыштавала яго.

У лістападзе 1932 г. буржуазны суд ужо ў пяты раз пачаў чыніць судовую расправу над непахісным змагаром. Зноў Тарашкевіча абвінавацілі ў «імкненні адарваць паўночна-ўсходнія ваяводствы Рэчы Паспалітай Польшчы і далучыць іх да Савецкай Расіі».

На гэтым судзе Тарашкевіч недвухсэнсоўна выказаў сваё палітычнае крэда, крэда камуніста: «Мы хочам змены ўсяго капіталістычнага ладу. Можаце мяне за гэта на смерць засудзіць, але факт застаецца фактам, што капіталізм гніе, раскладаецца, і на змену яму прыйдзе новая, сацыялістычная сістэма».

Яшчэ ў лютаўскім нумары за гэты ж год тэарэтычны орган КПЗБ — часопіс «Партработнік» пісаў: «Справа Тарашкевіча — ёсць справа ўсяго нацыянальна-вызваленчага руху. Катаржны прысуд фашыстоўскага суда ёсць выяўленне агульнай акупацыйнай палітыкі грамлення і душэння нацыянальна-вызваленчай барацьбы эксплуатаваных і прыгнечаных беларускіх мас...» Партыя заклікала: «Партыйныя арганізацыі, а таксама і камсамольскія павінны прыступіць да разгортвання шырокай хвалі масовак, сходаў, дэманстрацый пад лозунгам: «Вызваліць Тарашкевіча — правадыра нацыянальна- вызваленчага руху».

У лістоўцы, выпушчанай ЦК КПЗБ пад загалоўкам «Вырвем з рук катаў кіраўніка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху Браніслава Тарашкевіча», гаварылася: «Верны рэвалюцыйным традыцыям Грамады, Тарашкевіч не схіліўся перад акупантамі, імя яго было і засталося сімвалам барацьбы з акупанцкім ярмом за сацыяльную і нацыянальную свабоду беларускага народа...»

Услед за рабоча-сялянскімі масамі Заходняй Беларусі свой голас пратэсту ў абарону Тарашкевіча ўзнялі савецкая грамадскасць і прагрэсіўныя сілы ва ўсім свеце. Агульнаеўрапейскі сялянскі камітэт завочна абірае Тарашкевіча сваім членам, шле барацьбіцкае вітанне яму «Нямецкі сялянскі кангрэс».

Пілсудчыкі адчувалі, што і ў няволі Тарашкевіч тысячай ніцей звязан са сваім народам, з барацьбой працоўных, таму яны адсылалі

яго ўсё далей у глыб Польшчы. Калгаснік з вёскі Ачукевічы, што на Навагрудчыне, былы член КПЗБ Міхал Герыс успамінае, як яго ў ліку 50 палітзняволеных, сярод якіх быў і Тарашкевіч, перавозілі ў Плоцк. Вязні, былыя грамадоўцы, камуністы шчырай увагай акружылі Тарашкевіча, аднак ён ставіўся далікатна да знакаў увагі, пераносіў цяжкасці, як і ўсе. «Пасля ліхой дарогі, — расказвае Герыс, — толькі мы ступілі на двор Плоцкай турмы, палітвязні, пераважна прадстаўнікі польскага пралетарыяту, пачалі вітаць нас гучнымі воклічамі: «Няхай жыве правадыр беларускіх мас Тарашкевіч! Няхай жыве братэрства народаў! Няхай жыве сацыялізм!» Тарашкевічу былі створаны асабліва суровыя ўмовы. Ад знаходжання ў сырой камеры ён пачаў хварэць, але не губляў прысутнасці духу. Па-ранейшаму ўдзельнічаў ва ўсіх акцыях палітзняволеных: калі яны галадалі, галадаў разам з усімі, хоць турэмны камітэт і забараняў яму рабіць гэта, уважаючы на стан здароўя. Ва ўсім да дробязей, як і на волі, ён заставаўся самім сабою: прынцыповым, задушэўным з сябрамі і пагардлівым да прадстаўнікоў улады, адміністрацыі. Міхал Герыс прыгадвае, як аднойчы, у першыя дні іх знаходжання ў Плоцкай турме, дзверы агульнай камеры шырока расчыніліся і ў іх паказалася постаць начальніка турмы і пракурора. «Хто тут пасол на сейм Тарашкевіч?» — спытаў шэф турмы. Тарашкевіч выступіў наперад і назваўся. Начальнік прыклаў два пальцы да брыля, а пракурор працягнуў руку для прывітання. Аднак яна так і павісла ў паветры. Тарашкевіч падкрэслена ветліва, спакойна прамовіў: «Мы з панам у розным становішчы, прыяцельства між намі быць не можа». Няўдалых візіцёраў як ветрам садзьмула.

Тым часам пачынаўся 1933 год. У крывавых водсветах палаючага рэйхстага паўставала пачварная здань цемрашальства, якога не ведалі ні дзікія часы Чынгісхана, ні змрочнае сярэдневякоўе. У цэнтры Еўропы да ўлады прабралася самая шалёная рэакцыя — нямецкія фашысты на чале з Гітлерам. Адной з буйнейшых і развітых краін свету сталі кіраваць людзі з ідэалогіяй расізму, чалавеканенавісніцтва, канібальства. Не раздумваючы, пускалі яны ў ход свой асноўны аргумент — кулю і прыклад. Як сімвал здзеку, патаптання высокіх ідэалаў гуманізму, культуры запалалі кастры з кніг вялікіх французскіх асветнікаў, класікаў навуковага сацыялізма, прагрэсіўных пісьменнікаў.

Услед за Нямеччынай змрочныя сілы сталі ўзнімаць галаву ў многіх краінах. Пачалося ганенне на вольную думку, пачалася барацьба з інтэлектуалізмам. Адным з першых, выклікаючы захапленне перадавой грамадскасці ўсяго свету, у зацятым паядынку з фашызмам

мужна выступіў слаўны сын балгарскага народа, выдатны прадстаўнік міжнароднага камуністычнага руху Георгій Дзімітраў.

Летам 1933 г. у Парыжы сабраўся Еўрапейскі антыфашысцкі кангрэс. З трыбуны яго прагучаў на ўвесь свет трывожны голас прадстаўнікоў прагрэсу і дэмакратыі, прагучаў палымяны заклік аб'яднацца ў барацьбе з фашызмам. Членам ганаровага прэзідыума гэтага прадстаўнічага форума побач з Горкім, Тэльманам, Дзімітравым, Раланам быў абраны і Тарашкевіч.

## СЯРОД БАРАЦЬБІТОЎ ЗА КАМУНІЗМ

Увосень 1933 г., як і Дзімітраву, Тарашкевічу ўдалося вырвацца з рук фашыстаў. Па дамоўленасці паміж польскім і савецкім урадамі ў парадку абмену палітзняволенымі ён выехаў у СССР. Пасля прыбыцця ў Мінск Тарашкевіч выступіў у клубе палітэмігранта, у клубе імя Карла Маркса з дакладамі аб вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі і Польшчы, аб становішчы палітзняволеных, аб толькі што зацверджаным урадам БССР новым беларускім правапісе.

К зіме 1933 г. Браніслаў Тарашкевіч ужо ў Маскве. Са снежня яго назначаюць загадчыкам аддзела Польшчы і Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце. З уласцівым яму запалам ён аддаецца навуковай працы. Асяроддзе, у якім жыў і працаваў Тарашкевіч, — асяроддзе рэвалюцыйных байцоў, выхадцаў з розных краін. Польскія, нямецкія, венгерскія, балгарскія камуністы-інтэрнацыяналісты, аб'яднаныя адзінай высокай мэтай, працавалі ў атмасферы творчага ўздыму, таварыскасці, глыбокай духоўнай сувязі. Асабіста быў знаёмы Тарашкевіч з В. Каларавым, Ф. Конам, Г. Дзімітравым, саветнікам пасольства СССР у Польшчы А.Ф. Ульянавым і многімі іншымі. З некаторымі з гэтых слаўных людзей Тарашкевіча лучыла шчырая сяброўская дружба.

Аб напрамку даследчай працы Тарашкевіча ў гэты час даюць уяўленне артыкулы ў газеце «Trybuna radziecka», у часопісе «Ограрные проблемы» і ў зборніку «Польская вёска ў час крызісу», які выйшаў пад рэдакцыяй В. Каларава.

Апублікаваная Тарашкевічам у 1935 г. брашура «Як жывуць сяляне за мяжой», мабыць, найпаўней характарызуе асноўны напрамак даследчых пошукаў вучонага ў апошні перыяд яго жыцця. Тарашкевіч амаль цалкам прысвяціў сябе вывучэнню аграрных адносін, становішча сялянства ў розных краінах капіталістычнага свету. Папулярныя нарысы, аб'яднаныя ў гэтай брашуры, — толькі разведка вялікай праблемы. Самой працы, шырокага грунтоўнага даследавання, вучоны не паспеў выпусціць у свет.

Асабісты палітычны вопыт падказаў Тарашкевічу, што ў сялянстве, даведзеным капіталістычнай сістэмай прыгнёту і эксплуатацыі да апошняй грані галечы, тоіцца вялікі патэнцыяльны зарад рэвалюцыйнай энергіі, што велізарная армія сельскага пралетарыяту, беднякоў можа скласці невычэрпны рэзерв рабочага класа ў барацьбе за ўладу, за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.

У кожным паасобным нарысе з марксісцка-ленінскіх пазіцый Тарашкевіч аналізуе сутнасць аграрных адносін у буржуазнай Польшчы,

гітлераўскай Германії, Японіі і Кітаі, уводзіць чытача ў спецыфіку развіцця гаспадаркі кожнай з гэтых краін. Ключом для аналізу яму служыць размеркаванне зямлі, формы і асаблівасці землекарыстання.

Тарашкевіч паказвае, што мілітарызацыя як асноўная тэндэнцыя дзяржаўна-палітычнага развіцця Польшчы, Германіі, Японіі падпарадкоўвае сабе ўсе галіны эканомікі, у тым ліку і сельскую гаспадарку, вядзе да поўнага разарэння асноўнай масы сялянства і аб'ектыўна ставіць яго перад неабходнасцю барацьбы з пануючым рэжымам.

Пры ўсёй занятасці грамадска-палітычнай і даследчай працай у Міжнародным аграрным інстытуце Браніслаў Тарашкевіч не пакідаў ранейшых літаратурных задум. У сакавіцкай кніжцы «Полымя рэвалюцыі» за 1935 г. ён апублікаваў свой пераклад з грэчаскай мовы 22-й песні «Іліяды». Перакладу ён прадпаслаў змястоўную сціслую прамову — кароткі гісторыка-крытычны нарыс гэтага непаўторнага эпасу. «Гісторыка-літаратурная крытыка XVIII і XIX стст.,— пісаў Тарашкевіч, — вяла сапраўдныя «гамераўскія баі» каля пытання аб гістарычнасці асобы самога Гамера і аб тым шляху, якім злажыўся гамераўскі эпас. Крайні рэвізіянізм у гэтым пытанні дайшоў да поўнага запярэчання існавання Гамера, прызнання ўсяго гамераўскага эпасу народнай творчасцю».

Далей беларускі перакладчык «Іліяды» дае кароткі агляд поглядаў на яе аўтарства розных вучоных, мысліцеляў, паэтаў, выказвае свой пункт гледжання. Тарашкевіч моцна трымаецца ў поглядзе аб паходжанні «Іліяды» і яе аўтарстве той думкі, што тварэнне гэта «нельга прыпісаць адной асобе». «Іліяда» — гэта аб'яднанне цэлага цыклу самастойных твораў высокакваліфікаваных у паэтычным майстэрстве песняроў-аэдаў»,— пісаў вучоны. «Можна дапусціць, — заключаў ён, — што найвыдатнейшым з іх і найбольш слаўным і быў Гамер». Беларускі перакладчык «Іліяды» паслядоўна адстайваў думку аб калектыўнай аснове ўзнікнення грэчаскага эпасу, падкрэсліваў яе. «Іліяду» і «Адысею» можна лічыць у некаторым значэнні і народнай творчасцю, — пісаў ён, — і не толькі таму, што на працягу доўгага часу яны складваліся ў вялікай грамадзе, карпарацыі іянійскіх песняроў, але і таму, што паэтычным матэрыялам для іх паслужыла грэчаская міфалогія, у якой народная фантазія дала прыродзе і грамадскім формам свядомую мастацкую апрацоўку».

Які духмяны, сакавіты склад. Як пластычна ажываюць у беларускім слове, размаўляюць, ідуць да нас вобразы герояў старажытнай Элады. Іх жыццёвую паўнакроўнасць, здаецца, не можа пахіснуць у нашым уяўленні і пэўная ўмоўнасць мастацкай манеры

старажытнасці. Героі жывуць і кахаюць, бароняць айчыну і супляменнікаў з вялікай чалавечай палымянасцю, болем і сілай. Вось урывак, сцэна перад бойкай Гектара з Ахілесам. Просіць не дапросіцца стары бацька траянскага героя Гектара Прыям свайго апошняга сына не выходзіць аднаму насустрач грознаму Ахілесу, а пад аховай крэпасных сцен сустрэць яго разам з усімі траянцамі:

Урэшце падумай і злітуйся хоць нада мной,
над няшчасным бацькам,
якога змушае Зевес на парозе магілы
вынесці столькі згрызот і пабачыці гэтулькі гора:
як забіваюць сыноў і як цягнуць дачок у няволю,
апусташаюць каморы і дзетак маленькіх, нявінных
вобзем кідаюць і б'юць, азвярэўшы у лютым змаганні;
бачыць, як цягнуць сыноў маіх дзікія воі ахеян.
Сам я апошні паду і мяне на парозе сабакі
прагныя там разарвуць, калі нехта вастрэннаю меддзю
тне ці прапора мяне, з суставаў мне выжане духа;
тыя сабакі прыдзверныя, што пры бяседах карміў іх,
піць будуць кроў маю скварна, а потым, напіўшыся, лягуць
з сумнай душою у сенях. Прыгожа ляжаць маладому,
нават забітаму востраю меддзю ў баі-ваяванні;
хараша ўсё ў яго, на што толькі вачмі не паглянеш;
але сівую калі галаву, бараду і срамоцце
ў мужа забітага злыя сабакі крамсаюць і бэсцяць,
то ўжо за гэтае горай і ў марных людзей не бывае, —
гэтак стары гаварыў і, схапіўшы рукамі за голаў,
рваў валасы, але просьбамі Гектара не перайначыў.

Бясстрашны Гектар не ўступае просьбам-літанням бацькі і маці. Ён выходзіць на смяртэльны паядынак, у якім гіне ад рук грэчаскага героя-волата Ахілеса. Пераможца прывязвае цела забітага да калясніцы і мчыць да сваіх караблёў-лайбаў.

На калясніцу ускочыў і, слаўную зброю падняўшы,
коней бічом сцебануў, а яны паляцелі ахвотна.
Хмараю пыл падымаўся над цягнутым целам
і галава, перш хараством задзіўляўшая, зараз біласая ў пыле,
чорнымі кудрамі след замятаючы, быццам Зевес
ворагам выдаў яе на паругу ў роднай зямельцы.

А як натуральна па-беларуску, выяўляючы ўсю глыбіню і мастацкую сілу арыгінала, а заадно і выяўленчыя магчымасці беларускага

слова, гучыць і фрагмент аплаквання забітага Гектара яго роднымі і суайчыннікамі.

Так галава зневажалася ў пыле. Пабачыла маці
дый сабе рваць валасы і, багатую кінуўшы хустку
прэч ад сябе, галасіла і плакала страшна па сыне.
Загаласіў, мілы бацька Прыям, галасіла й дружына.
Плакалі і галасілі ў горадзе ўсе грамадзяне,
і выдавалася быццам ахоплены ўсенькі пажарам
быў Іліён і агонь знішчажаў аж дазвання узгорысты горад.
Сілай трымаць давялося з гора шалеўшага бацьку,—
так вырываўся ён з горада выйсці у дарданскую браму:
у пыле б'ючыся, стары упрашаў злітавацца
і гэтак казаў, называючы іменем кожнага мужа:
«Хоць і шкадуеце, другі, мяне ды ўсё роўна пусціце
з горада выйсці, пайсці аднаму да ахейскіх да лайбаў.
Гэнага жорсткага волата буду прасіць-умаўляці...
Можа гады ён мае ушануе і жаль яму будзе бацькі старога...

У 1935-1936 гг. Браніслаў Тарашкевіч урыўкамі паміж арганізатарскай і навукова-даследчай працай у Міжнародным аграрным інстытуце рыхтуе да друку асобным выданнем перакладзены ім эпас. Клаўдзія Гоцка ўспамінае, што пры сустрэчы з ёю ў Маскве летам 1935 г. Тарашкевіч чытаў фрагмент «Іліяды», казаў, што ўжо засталася невялічкая даробка і што Белдзяржвыдавецтва прапануе яму хутчэй здаваць рукапіс.

Пры гэтай сустрэчы былыя заходнебеларускія рэвалюцыянеры, сябры па змаганню, шмат успаміналі: дні барацьбы з белапанскім рэжымам, грамадоўскі ўзлёт, суд у Вільні, этапныя шляхі, родных, таварышаў. Паглядзелі разам спектакль МХАТа «Любоў Яравая». Тарашкевіч многа расказваў пра рэвалюцыйны рух у Польшчы, на беларускіх землях, мройліва і натхнёна гаварыў пра будучыню. Яна паўставала з яго слоў у светлым ачышчальным полымі сацыялістычнай рэвалюцыі. Уз'яднаным, свабодным і шчаслівым бачыў ён роўным між роўных і свой народ, чый геній так яскрава пачаў раскрывацца цяпер і чый уклад у сусветную культурную скарбніцу абяцаў быць молада самабытным...

Паводле слоў Ніны Аляксандраўны Тарашкевіч (зараз пражывае ў Маскве), апошні год свайго жыцця Браніслаў Тарашкевіч надзвычай доўга заседжваўся вечарамі за работай, пісаў, чытаў выданні на розных мовах, з трывогай прыслухоўваўся да апошніх паведамленняў аб баях у Іспаніі. Шэра-блакітныя вочы яго свяціліся радасцю, калі ён

адрываўся ад новага стосіка паперы, спісанага яго лятучым почыркам... Ведаючы нямецкую, французскую мовы, апошні час Тарашкевіч асабліва настойліва вывучаў іспанскую. Ён ужо збіраўся туды, дзе вырашаўся лёс рэспубліканскай Іспаніі, дзе ішла адкрытая, твар у твар схватка з фашызмам.

Аднак выпрабаванаму рэвалюцыйнаму байцу не ўдалося пайсці змагацца за тое, каб «землю в Гренаде крестьянам отдать». 7 мая 1937 г. Тарашкевіч быў беспадстаўна арыштаваны і хутка загінуў ахвярай грубага парушэння рэвалюцыйнай законнасці.

Былыя барацьбіты камуністычнага падполля ў Польшчы і Заходняй Беларусі, здараецца, расказваюць, што хтосьці бачыў Браніслава Тарашкевіча то пад Масквой, то ў Сібіры... Аднак гэта легенда. Проста народная памяць не хоча мірыцца з суровай несправядлівасцю небыцця Тарашкевіча.

XX з'езд КПСС вярнуў шырокай савецкай грамадскасці добрае імя аднаго з самых выдатных сыноў беларускага народа, рэвалюцыянера і вучонага, мужнага змагара за лепшыя ідэалы чалавецтва — за камунізм.

## ЛІТАРАТУРА

За правильное освещение истории Компартии Западной Белоруссии. «Коммунист», 1964, № 8.

М.С. Арэхава. Рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі ў гады белапольскай акупацыі. Мінск, 1958.

А. Бергман. Беларуская сялянска-работніцкая грамада. «Навуковы зборнік». Беласток, 1964.

Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР (Документы и материалы), т. 1. Минск, 1962.

Западная Белоруссия на скамье подсудимых. Минск, 1929.

Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у польскі сейм 1922-1926 гг. Мінск, 1927.

Б. Клейн. Старонкі слаўнага жыцця. «Полымя», 1963, № 10.

В. Полуян, И. Полуян. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии. Минск, 1962.

А. Сталевіч. Супраць фашысцкай акупацыі (Дзейнасць БСРГ у масах). Мінск, 1930.

Прамовы дэпутатаў Беларускага пасольскага клуба ў польскім сейме. Вільня, 1924.

Прамовы дэпутатаў сеймавага клуба Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Вільня, 1926.

Стэнаграмы выступленняў паслоў у польскім сейме 1922-1927 гг.

Б. Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школ. Выданне першае. Вільня, 1918.

Б. Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школ. Выданне пятае. Вільня, 1929.

Б. Тарашкевич. Как живут крестьяне за границей. Л., 1935.

Б. Тарашкевич. Дифференциация крестьянства в Польше во время кризиса. Польская деревня во время кризиса. М., 1935.

**ЗМЕСТ**



**АРСЕНИЙ СЕРГЕЕВИЧ ЛИС**
**БРОНИСЛАВ ТАРАШКЕВИЧ**
**На белорусском языке**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

*Рэдактар Н. Царова*
*Мастак А. Лісічнікаў*
*Мастацкі рэдактар Н. Яўменава*
*Тэхнічны рэдактар В. Саўчанка*
*Карэктар С. Шынкевіч*

АТ 07959. Здана ў набор 24/VI-66 г. Падпісана да друку 31/VIII-66 г.
Тыраж 1800 экз.
Фармат 70*90 1/32. Фіз. друк. арк. 5,25.
Ум. друк. арк. 7,19. Уч.-выд. арк. 6,1.
Выд. заказ 73. Друк. заказ 675. Цана 18 к.

Друкарня выдавецтва «Навука і тэхніка»
АН БССР і Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР
Мінск, Ленінскі праспект, 68